— *Каго любіш?*

— *Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

9 ЖНІЎНЯ 1996 г. № 32 (3856) Кошт 2 500 руб.



# ВЯРТАННЕ КНЯЗЯ ІГАРА

*Ці не ўвесь Мінск наважыўся патрапіць на апошні оперны спектакль сезона, тым болей, што тэатр завяршаў сезон прэм'ерай. "Князь Ігар" А. Барадзіна, здаецца, з яго сцэны і не сыходзіў. Але што значаць для спектакля дзесяцігоддзі пракату? Дэкарацыі ўжо даўно шакіравалі сваёй карыкатурнай неахайнасцю; артысты, ці не маладзейшыя за пастаноўку, дзейнічалі на сцэне па прынцыпе "сам сабе рэжысёр"...*

*Намер тэатра "сёе-тое паднавіць" увянчаўся паўнавартаснай прэм'ерай! Працаваў над пастаноўкай вядомы рэжысёр з Пецярбурга Ю. Аляксандраў, з ім поруч — галоўны дырыжор ДАВТа А. Анісімаў, мастакі Л. Ганчарова і Э. Грыгарук, хормайстры Н. Ламановіч, Г. Луцэвіч, С. Аграновіч, балетмайстар-пастаноўшчык П. Сталінскі. Салісты — А. Саўчанка, Ю. Бастрыкаў, Н. Залатарова, І. Журко, А. Мельнікаў, В. Кавальчук, Э. Пелагейчанка, С. Франкоўскі і інш.*

*Якім убачылі гісторыю-легенду пра паход Ігаравы ды вяртанне князя стваральнікі новай версіі хрэстаматыйнага твора? Пра гэта — у новым сезоне, які гэтым спектаклем і пачнецца.*

Фота Віт. АМІНАВА





# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Пасля багатага на падзеі мінулага тыдня на Беларусі наступіла трывожнае зацішша. Рэакцыю прэзідэнта на прапанову аб "круглым стале" доўга чакаць не давялося, і яна была загадзя вядомаю: адмоўнаю. Але што адкажуць цяпер яму "змоўшчыкі" і "атлусцелыя палітыкі"? Чаканне зацягваецца. І палітычным аглядальнікам нічога не застаецца, як рабіць прагнозы. Большасць з іх схіляецца да таго, што блізкая восень будзе гарачай, але, тым не менш, з упэўненасцю сцвярджае, што, пры ўсіх раскладах, прэзідэнту ўдасца ўтрымаць уладу. Маўляў, ён паспрабуе перасварыць "падпісантаў" і свой імпічмент апярэдзіць пры патрэбе роспускам парламента, а размовамі аб рэферэндуме затлуміць галовы рабочым, якія сабраліся выйсці на вуліцы страйкаваць... Гэта добра, што журналісты і палітыкі менавіта так лічаць. Бо за апошнія гады ніводзін з іх не змог дакладна прадказаць, што будзе насамсправе. Найчасцей выходзіла зусім адваротнае...***

## *АДМАЎЛЕННЕ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт Беларусі адмовіўся ад удзелу ў прапанаваным лідэрамі сямі вядучых партый краіны "круглым стале". Яму няма пра што гаварыць ні з лідэрамі ПКБ, ні з лідэрамі БНФ... Раіцца ён будзе толькі з народам. На чарговым рэферэндуме. Прагучала ўжо і дата правядзення яго — 7 лістапада. (Прэзідэнт цвёрда ўпэўнены, што народ падтрымае ягоныя прапановы. Што ж, тым большым будзе расчараванне...) Нагадваем, што Вярхоўны Савет давыбары ў парламент прызначыў на канец лістапада, а канкрэтны дзень павінен быў назваць Цэнтрвыбаркам. Аднак пасля нядаўніх інтэрв'ю прэзідэнта стала зразумела, што давыбары парламента ў ягоныя планы не ўваходзяць (ці не таму маўчыць і Цэнтрвыбаркам, часу ў якога застаецца ўсё менш і менш — усяго два-тры тыдні). Калі на рэферэндуме сп. Лукашэнку падтрымае народ, то, паводле новай Канстытуцыі, ён з дэпутатаў наяўнага парламента ўтворыць дзве палаты і адным махам здыме ўсе праблемы. Такім чынам, пасля рэферэндуму кіраваць дзяржавай ад імя народа будзе толькі прэзідэнт, якому больш ніхто "мяшаць" не будзе. Нават сам народ.

## *ТЛУМАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

6 жніўня прэзідэнт расказаў чытачам "Народнай газеты" пра свае ўзаемаадносіны з Вярхоўным Саветам. Як ні круці, а атрымліваецца поўная канфрантацыя, вінаваты ў якой, зразумела, дэпутаты. Хочаш не хочаш, а падумаеш: як добра ўсё-ткі, што ў гэты парламент не ўвайшоў ніводзін апазіцыянер-бэнээфавец. Глядзіш, і задумаецца нехта з законапаслухмяных і памяркоўных грамадзян-выбаршчыкаў, як жа так: у нашай дзяржаве, аказваецца, толькі адзін чалавек крочыць "ў ногу", а ўсе, хто вакол яго — не. Вось і новы Вярхоўны Савет, у які з буйных гарадоў практычна абраныя адзінкі дэпутатаў, і які ад пачатку здаваўся аграрна-камуністычным і "кішэнным", і той у рэшце рэшт аказаўся "ворагам" прэзідэнта... Дарэчы, у гэтай публікацыі з вуснаў прэзідэнта (які пра сябе гаворыць толькі ў трэцяй асобе — прэзідэнт) прагучала і яшчэ адна версія, якім чынам ён можа "разабрацца" з парламентам: забараніць сумяшчэнне дэпутацкіх паўнамоцтваў з невытворчай працай. Гэта азначае, што дзесяткам парламентарыяў трэба будзе задумацца над выбарам — застацца дэпутатам, альбо вярнуцца на кіраўнічую працу ў свой калгас, саўгас ці "вертыкаль"... Словам, "канікулы" парламента прэзідэнт і ягоная каманда выкарыстоўваюць "на ўсе сто". І можа так стацца, што ў верасні альбо не будзе каму збірацца на сесію ВС, альбо тыя, што збяруцца, думаць будуць толькі пра сваю ўласную будучыню, а не будучыню краіны і народа, які іх абраў.

## *ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ*

У друк, а канкрэтна ў газету "Народная воля" (N 70) трапіла заява з просьбай аб адстаўцы былога цяпер віцэ-прэм'ера Л. Сініцына, якую ён падаў на імя прэзідэнта. У заяве, у прыватнасці, гаворыцца: "...Жыццё паказала, што мы па-рознаму ўспрымаем палітычную і сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў рэспубліцы. На мой погляд, прынцыпы і метады, якімі Вы кіруецеся ў апошні час, кіруючы дзяржавай, памылковыя. Прашу Вас сур'ёзна задумацца над гэтым. Мае перакананні не дазваляць мне ісці такім курсам..." 7 жніўня мелася быць прэс-канферэнцыя Л. Сініцына, на якой ён павінен быў патлумачыць прычыны адстаўкі, і нават чакалася, што ён выступіць з нейкім "кампраматам". Аднак у сувязі з гэтай публікацыяй Л. Сініцын прэс-канферэнцыю адмяніў. Маўляў, усё, што ён хацеў сказаць, ужо прагучала.

## *ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ*

Усе звароты свабодных і незалежных прафсаюзаў да прэзідэнта і кіраўніцтва краіны апошнім часам застаюцца без адказу. Усе просьбы да Мінгарвыканкама на дазвол пікетавання будынка Адміністрацыі прэзідэнта заканчваюцца забаронамі. Прэзідэнт даўно забыўся пра свае лютаўскія абяцанні рабочым і тым больш не хоча падпісваць Закон аб наданні заработнай плаце статуса першачарговага плацяжу. І таму шэраг незалежных і свабодных прафсаюзаў практычна распачынае падрыхтоўку да восеньскай ўсебеларускай стачкі. Праўда, самі па сабе незалежныя прафсаюзы ў нас пакуль кволыя і нешматлікія. Аднак і тут зроблена спроба аб'яднацца. У бліжэйшы час пяць прафаб'яднанняў мяркуюць утварыць Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, які, пры ўмове далучэння іншых прафсаюзных саюзаў, можа стаць увосень рэальнай сілай.

## *УЗНАГАРОДА ТЫДНЯ*

Прэм'ер-міністр Беларусі М. Чыгір 31 ліпеня г.г. падпісаў пастанову "Аб ганаровай грамаце Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь" і ў той жа дзень узнагародзіў граматай N 1 міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Сянько. У сувязі з 50-годдзем. Падобны ж юбілей адсвяткаваў днямі і віцэ-прэм'ер У. Гаркун, аднак грамату яму не далі.

## *ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ*

У сёлетніх удзельнікаў "бітвы за ўраджай" з'явіліся дадатковыя стымулы працаваць ударна: на Беларусі адноўлена сацыялістычнае (а можа — рынкавасацыялістычнае?) спаборніцтва. Лепшы з лепшых камбайнер атрымае ва ўзнагароду легкавы аўтамабіль, а ягоны памочнік — матацыкл. Каштоўнымі падарункамі будуць адзначаны і тыя, хто зойме другое і трэцяе месцы. А астатнія, пэўна ж, атрымаюць чырвона-зялёныя вымпелы... Газета "Советская Белоруссия" пачала ўжо друкаваць зводкі з ходу жніва і прозвішчы лідэраў сацыялістычнага спаборніцтва. Дай Бог памяць, каб прыгадаць, што яшчэ з "лепшых знаходак" савецкіх часоў не вернута ва ўжытак на Беларусі?

## *РАСЧАРАВАННЕ ТЫДНЯ*

У Атланце закончыліся XXVI летнія Алімпійскія гульні. Беларускія алімпійцы ехалі на іх з вялікімі планамі і з вялікім розгаласам. А вярнуліся цішком. Бо як ні лічы медалі і ачкі — ганарыцца нам няма чым. Можна толькі шукаць апраўданні ды тлумачэнні... Найбольшае расчараванне засталося ад выступленняў плыўцоў, стралкоў, легкаатлетаў ды штангістаў, большасць з якіх з'ездзілі ў Атланту турыстамі. Цяпер ужо можна канстатаваць: рэшткі спартыўнага пірага, што дастаўся Беларусі ад СССР, даедзены. А новыя "таланты", новыя Шчэрбы, пры сённяшнім стаўленні дзяржавы да спорту, з'явяцца не хутка.

З нагоды

# ПАМЯЦЬ І ПАПЯРЭДЖАННЕ

Помнікаў у Мінску няшмат. Дзесятка не набярэцца (кажу пра паўнавартасныя помнікі, а не пра мемарыяльныя знакі, шыльды, а тым больш — не пра тыражаваных "ленінаў" перад заводскімі прахаднымі альбо на тэрыторыі бальніц і дзіцячых садкоў). Помнікаў няшмат, а ў бліжэйшай, мяркую, перспектыве будзе яшчэ меней. Калі што і пакінем, дык для экзотыкі, але статуса помніка — гэта значыць, аб'екта, у якім увасоблена, матэрыялізавана ўдзячная памяць, бронзавыя "героі" мінулага будуць пазбаўлены...

Помнік, які быў адкрыты на выспе побач з Траецкім прадмесцем — гэта помнік паўнавартасны. Коратка нагадаю яго гісторыю. Пытанне пра помнік у сталіцы рэспублікі землякам, што загінулі ў Афганістане, паўстала ў апошнія гады існавання СССР. Гэта ініцыятыва "знізу" не выклікала захаплення ў "вярхоў". Праўда пра афганскую вайну на той час ужо стала здабыткам шырокай грамадскасці, трактаваць гэту вайну як слаўны вызваленчы паход Савецкай Арміі і ставіць тых, хто загінуў у Афганістане, у адзін шэраг з тымі, хто вызваляў Еўропу ад фашызму ў часе Другой сусветнай, — не атрымлівалася. Помнік "афганцам" аб'ектыўна меўся стаць мануметальным абвінавачваннем камуністычнаму рэжыму.

Таму вакол помніка пачаліся палітычныя гульні. Нагадаю, што ідэя стварэння помніка нарадзілася ў, як тады гаварылі, нефармальным асяроддзі. Перахапіць ініцыятыву, манапалізаваць ідэю паспрабаваў ЦК камсамола Беларусі. "Афганцы" патрабавалі помніка ў цэнтры горада на Ленінскім праспекце (так тады называўся праспект Скарыны, ім жа прапаноўвалі Чыжоўку, раён трактарнага завода і яшчэ немаведама што. Нарэшце быў знойдзены варыянт кампрамісны, які да нейкай ступені задавальняў і "афганцаў" і ўлады — выспа ля Траецкага прадмесця. Фармальна гэта цэнтральная частка горада, але ад Ленінскага праспекта даволі далёка.

Гэта рашэнне абурыла мінскіх інтэлектуалаў. Помнік патрэбны, неабходны, — гаварылі яны, — але не на гэтым месцы: надта ж вялікая раскоша ладзіць наватворы на тэрыторыі гістарычнага ядра Мінска. Але калі такое было, каб у гэтай краіне прыслухоўваліся да разумных людзей?

Напачатку праектавалася зрабіць на выспе штосьці накшталт паменшанай копіі Валгаградскага "Мамаева кургана". Потым ляснуўся СССР разам з камуністычнай ідэалогіяй і "сацыялістычным рэалізмам". У вызваленую ідэалагічную нішу рынулася праваслаўная царква. "Мамаеў курган" трансфармаваўся ў праваслаўную капліцу.





*Фота А. МАЦЮША*

Мемарыял не надта стасуецца з беларускай нацыянальнай архітэктурнай традыцыяй. Ён нагадвае "Залатыя вароты" Кіева альбо "Залатыя вароты" Уладзіміра. Але, усведамляючы, што магло быць і горш, я спакойна стаўлюся да таго, што атрымалася. З гісторыі сусветнага мастацтва вядома, што калі ў аснову помніка закладзена, так бы мовіць, правільная ідэя, помнік трансфармуецца разам з часам. Класічны прыклад — Трыумфальная арка на Парыжскім пляцы Этуаль. Будаваць яе пачалі яшчэ пры Напалеоне як мемарыял у гонар перамог войска рэвалюцыйнай Францыі над кааліцыяй еўрапейскіх манархій. Са зменай палітычнай сітуацыі ў Францыі мянялася і канцэпцыя помніка. У 1834 годзе нарэшце помнік быў адкрыты. Цяпер ён увасабляў напалеонаўскую эпапею і перамогі часоў Рэспублікі. Па сутнасці, гэта сімвал новай Францыі, якая нарадзілася ў выніку Вялікай рэвалюцыі. Пасля Першай сусветнай вайны ля падножжа Трыумфальнай аркі з'явілася нацыянальная святыня — Магіла невядомага салдата. Такім чынам, аблічча помніка фармавалася больш як сто гадоў.

Гісторыя "афганскага" мемарыяла толькі-толькі распачалася. Ён ніколі не будзе мець славы парыжскай Трумфальнай аркі. Беларусь — не тая краіна, Мінск — не тая сталіца. Ды і ўвогуле беларуская гісторыя не мае такога ўплыву на гісторыю сусветную. Беларусь, на жаль, — не Францыя... Але яна і не павінна быць Францыяй альбо Расіяй, ці яшчэ чымсьці. Занадта доўга мы ставілі на нашай зямлі помнікі не нашым нябожчыкам, называлі вуліцы і плошчы нашых гарадоў гучнымі (а то і варожымі) для нашай зямлі імёнамі. Гэты помнік — наш, але вакол яго працягваюцца палітычныя гульні. Да помніка, дэманструючы сваю прыхільнасць да "афганцаў" і разуменне іх праблем, паклаў вянок чалавек, які імкнецца вярнуць Беларусь у імперыю, якая сёння мае "афганістаны" ўжо на ўласнай тэрыторыі і адчувае дэфіцыт у "матэрыяле", гатовым тушыць сваёй крывёю "гарачыя кропкі" ў самой Расіі і ў зоне яе "жыццёвых інтарэсаў". Так што настальгія "афганцаў" па баявой маладосці можа дорага абысціся новаму пакаленню беларусаў. Пакуль жа нашы хлопцы служаць не далей усходняй мяжы Беларусі...

Выспа ля Траецкага прадмесця стала "афганскай". Аднак калі-небудзь гэты помнік будзе ўспрымацца мемарыялам усім беларусам, якія загінулі пад чужымі сцягамі ў чужых войнах. Мабыць, побач з капліцай з'явяцца мемарыяльныя знакі з назвамі краін, дзе беларусы бяссэнсава пралівалі кроў у імя "экспарту рэвалюцыі" — Карэя, Ангола, Эфіопія... Не будуць забытыя Будапешт і Прага. Гэты помнік — памяць і папярэджанне: ніколі больш беларусам не ваяваць пад чужымі сцягамі, ніколі больш не ўдзельнічаць у чужых войнах!

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Мітрэнгі

# ЗБІРАЙЦЕ, МАЙСТРЫ, КЛУНКІ...

## ПАВОДЛЕ АДНАГО ЛІСТА Ў РЭДАКЦЫЮ

Напэўна, нішто лепей не характарызуе краіну, чым народныя рамёствы. Менавіта вырабы, заснаваныя на народных традыцыях, з'яўляюцца абавязковымі атрыбутамі для стварэння вобраза краіны. Думаецца, што лепей, калі для замежнікаў Беларусь будзе асацыіравацца з ручнікамі, пляценнем з саломкі, непаўторнымі вышыванкамі ды керамікай, чымся стрэлам па паветраным шары ці чырвона-зялёнымі трусамі баксёраў-алімпійцаў... Таму пытанне пра зацікаўленасць дзяржавы ў развіцці такіх рамёстваў не павінна нават узнікаць. Тым больш, калі маецца унікальны навукова-вытворчы цэнтр, які займаецца стварэннем сучасных вырабаў, заснаваных на народных традыцыях, паслугамі якога карыстаецца, дарэчы, для афармлення інтэр'ераў ды прэзентацыі сувеніраў сама вярхоўная ўлада краіны. Аднак на Беларусі часцяком узнікаюць такія пытанні, якія ўзнікаць не павінны. Вось і дзейнасць Цэнтра беларускіх народных рамёстваў "Скарбніца", як вынікае з ліста, дасланага нашай рэдакцыі і падпісанага ўсім працоўным калектывам "Скарбніцы" (60 чалавек) пад пагрозай. Аказваецца, будынак, у якім месціцца Цэнтр, невялікі дом каля царквы Марыі-Магдалены, прыведзены Цэнтрам жа да ладу, спадабаўся прадстаўнікам дыпламатычнага корпуса, і работнікі Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прапаноўваюць "Скарбніцы" вызваліць будынак для размяшчэння дыпламатычнага прадстаўніцтва. На што ўжо ёсць адпаведнае ўказанне ў Распараджэнні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 10 ліпеня 1996 года "Аб перадачы ў аператыўнае ўпраўленне Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь будынкаў у г. Мінску" і, як вынік, Загад Упраўляючага справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І. Ціцянкова ад 30.07.96 сыходзячы з якога будынак па вул. Кісялёва, 40 у аднабаковым парадку перадаецца Галоўнаму ўпраўленню па абслугоўванні дыпламатычнага корпуса і афіцыйных дэлегацый. Узамен жа Цэнтру народных рамёстваў прапануюць памяшканне дзіцячага садка завода Кастрычніцкай рэвалюцыі па вул. Захарава, 73-А. Садок з 1994 года зачынены на капітальны рамонт, і раней чым праз год, ды пры наяўнасці 8 млрд. рублёў, якіх, зразумела, няма, ды пры ўмове, што рамонт, які яшчэ не пачынаўся, пачнецца працаваць там "Скарбніца" не можа. А між тым аналагічныя прадпрыемствы ёсць толькі ў Маскве і Кіеве...

"У "Цэнтры" маецца унікальнае нестандартнае ручнога вырабу абсталяванне, якое манціравалася на працягу шэрагу гадоў, збіралася па драбніцах, патрабавала велізарных матэрыяльных выдаткаў і пры дэмантажы аднавіць яго будзе немагчыма", — пішацца ў лісце.

Сапраўды, крыўдна ў свой дваццацігадовы юбілей, маючы "Залатую зорку якасці", атрыманую ў Мадрыдзе, славутых заказчыкаў, высокакваліфікаваны калектыў, унікальны метадычны фонд, збіраць клункі ды перабірацца, куды чыноўнік пашле, быццам бяспраўнаму кватаранту... "Скарбніца" звяртаецца ў апошняй надзеі на справядлівасць з адкрытым лістом да прэзідэнта Беларусі. А то атрымліваецца — тыя, хто карыстаўся паслугамі майстроў — іх і высяляюць... Думаецца, прэзідэнт прыслухаецца да просьбы Цэнтра па захаванні культуры краіны, якой кіруе. А то атрымаецца, як у прыпавесці Караткевіча, калі беларус прасіўся, дайце, маўляў, мне, беднаму, ды ва ўласнай хаце, ды хоць у куточку пад лаўкаю, пераначаваць.

**Н. К.**

Надзённае

Ніл ГІЛЕВІЧ

# СЮЖЭТЫ, ПАСЛАННІ, ПРЫСВЯЧЭННІ...

## ТЫМ, ХТО ТУЖЫЦЦА ЗНІШЧЫЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

**Вы,
З патугамі вашымі
Злобна-бясконцымі,
Перастаньце
Дурноту ў сабе растраўляць.
Гэта ж вам
Не паветраны шар з навукоўцамі:
Гэта — мова!
Слабо вам яе расстраляць!**

*1996, ліпень*

## АБУРЭННЕ НА "ВЫШКАХ"

**Ты што — жартуеш?
Ці — крый Бог — здурнеў?
Злуеш, што звання не дае дзяржава?
Дык ты ж яшчэ, прабач, не спруцянеў!
Яшчэ жывы!
І нават ходзіш жвава!**

**От задзярэш пачасе капыты,
Ці, далікатна кажучы, загнешся, —
І мы... мы ўсё, брат, зробім,
Каб і ты
Прызнаны быў!
А то жывы — і пнешся!**

*1996, жнівень*

## АМАЛЬ ПРЫВАТНАЕ

**Чытаю газетную выпіску,
Як, будзячы ў сэрцах азарт,
Па горадзе наскім, па Віцебску,
Каціўся "Славянскі базар";**

**Як пела славачка французская,
І немка, і турак, і серб;
Як песня адна беларуская
Пралезла ў канцэрт — на дэсерт...**

**А што ж гэта Ігар Міхайлавіч
Не быў там — узровень сачыць?
Якая няўдзячная навалач
Пасмела яго адлучыць?**

**З яго ж пачыналася водгулле,
Што сёння гучыць як пароль
Славянскай эстрады... І ўвогуле —
Ён роднае песні кароль!**

**Ах, любы наш Ігар Міхайлавіч!
Казалі ж табе, і не раз,
Што будзем мы век папіхайламі,
Рабамі зняваг і абраз,**

**Калі пад сінечай бязмежнаю,
Дзе нам і тварыць і пяяць,
Дзяржаву сваю незалежную
Не здолеем мы адстаяць.**

*1996, ліпень*

## СЮЖЭТ З ДЗЕДАМ І ЎНУКАМ

**Пад хатай, рады сонейку,
Худы і хваравіты,
Сядзіць стары на ўслоніку
І кош пляце з ракіты.**

**На ім спічак залатаны
І брыль шыракаполы.
Глядзіць: унук заплаканы
Вяртаецца са школы.**

**Любімы ўнук заплаканы!
Дзед кінуў пільным вокам:
— Не зладзіў з забіякамі?
Ці захварэў, няўрокам?**

**— Сказала Ганна Ўласаўна, —
Скрозь слёзы ўнук прамовіў, —
Што ўжо не будзе класа ў нас
На беларускай мове...**

**— Не будзе беларускага? —
Перапытаў ён мальца, —
І красамоўна хрусула
Ракіта ў дзеда ў пальцах.**

**Хоць быў ён не пад градусам,
Ды хваля — падкаціла.
Сказаў: "Ну што ж, парадуйся!
Парадуйся, скаціна!"**

**Дастаў капшук з махоркаю
І зноў нервова сунуў
Назад, і сліну горкую
Убок са злосці сплюнуў.**

**Цвярозы, не пад градусам,
Сказаў: "Не плач, патомак!"
Сказаў: "Ну што ж, парадуйся!
Парадуйся, падонак!.."**

**І зноў дубцом распараным
Пераплятае "скабкі".
А сам — як дзень захмараны,
Як дух-заступнік з казкі.**

**І некага канкрэтнага
Кляне на ўсіх рэгістрах:
Магчыма, што дырэктара,
Магчыма, што міністра...**

**Папробуй — вызнач-высачы,
Каму ён грозіць гнеўна,
Калі падонкаў — тысячы,
А сотні — дык напэўна.**

*1996, ліпень*

## ДРЫЖЫ, КАРУПЦЫЯ!

**Народ!
Ты будзеш жыць жыццём святлістым!
Прашу мне верыць, як дагэтуль верыў:
Вось скруцім рогі нацыяналістам —
І возьмемся за карупцыянераў.
І ў тым стагоддзі, што на даляглядзе,
Адзін з іх нават у вязніцу сядзе!**

*1996, жнівень*

## ЭКСПРОМТ-ПАСЛАННЕ

**Ну што, арлы, панове дэпутаты,
Разумніцы-дзякі і хлопцы-хваты, —
Вы ўсё яшчэ, падпеўкай сатанізму,
Кпіцё глумліва з нацыяналізму?
Усё смяецеся з "занадта вузкай"
Нямілай вам ідэі беларускай?**

**Шаноўныя! Вас крыўдзіць не хачу я,
Але ваш смех — як дзецям казка нанач.
А вось не сёння — заўтра свет пачуе,
Як будзе рагатаць Іван Іванавіч,
Вам даючы пад мякаць вострым рогам.
Вось гэта будзе смех!
Вось гэта будзе рогат!
Ён, спадзяюся, вам паможа ўцяміць,
Дзе — паратунак,
Дзе — кашмар і крах.
Ці ад авальнай залы вам на памяць
Пакіне толькі здзервянелы страх?**

*1996, жнівень*

## ПРЫЧЫНА

*Прысвячаецца галоўнаму "вертыкальшчыку" горада N.*

**О, як бы ён па вертыкалі ўгору
Падняў вытворчасць і даходы ніцыя,
Калі б яму, як гэнае танцору,
Не замінала, сволач, апазіцыя!**

*1996, ліпень*

---

Адгалоскі

# ТЭРМІНОВА ПАТРАБУЕЦЦА ЛІДЭР...

Днямі па Беларускім радыё выступіў памочнік прэзідэнта Беларусі сп. Посахаў з каментарам да апошніх палітычных падзей у нашай краіне. Галоўнае, што непакоіць яго (а значыць і самога прэзідэнта) — "круглы стол", які збіраюцца наладзіць лідэры шэрагу палітычных партый. Як вядома, запрошаны туды і сп. Лукашэнка, але не ў якасці старшынствуючага, а звычайнага раўнапраўнага ўдзельніка. Сп. Посахаў доўга і вельмі непераканаўча тлумачыў радыёслухачам, што "круглы стол" — справа непатрэбная і нават шкодная. Маўляў, такія нарады збіраюцца толькі дзеля таго, каб дамовіцца аб працэдуры перараазмеркавання ўлады (мабыць, ён меў на ўвазе вядомы "круглы стол" камуністычнай улады Польшчы і "Салідарнасці", на якім сапраўды вырашалася пытанне, як камуністам ціха сысці са сцэны, а "Салідарнасці" без крыві ўладу ўзяць). Інакш кажучы, Лукашэнка за "круглы стол" не сядзе. Іншай рэакцыі з боку Адміністрацыі і быць не магло. Тыя, хто запрашаў прэзідэнта да размовы аб крызісным стане эканомікі і выбухова небяспечнай сітуацыі ў грамадстве, на іншую рэакцыю, пэўна, і не разлічвалі. Палітычны "інтэр'ер" Беларусі, якім ён бачыцца "дызайнеру" Лукашэнку, увогуле не прадугледжвае такой "мэблі" як "круглы стол". Але цяпер апазіцыя можа сказаць: "Мы яго запрашалі — ён не прыйшоў. Мы здымаем з сябе адказнасць за тое, што будзе з краінай далей". Атрымалася, што прэзідэнт, які прывык з'яўляцца на палітычнай сцэне ў якасці сцэнарыста, рэжысёра і галоўнага героя адначасова, сыграў зусім не тую ролю, якую хацеў. Да таго ж па чужым сцэнарыі, у чужой п'есе. Калісьці ён сам быў апантаны ідэяй "круглага стала". Але намер свой не здзейсніў. Мо таму, што падрыхтоўка такой акцыі справа доўгая і марудная, а гарантыі поспеху няма. І таму палічыў, што больш надзейна і проста звяртацца непасрэдна да электарата праз "рэферэндум".

Прэзідэнцкі "круглы стол", на якім Лукашэнка збіраўся перакласці на плечы іншых адказнасць, але пры гэтым захаваўшы за сабою поўную свабоду дзейнасці, не адбыўся. А страчаную ініцыятыву, як згубленую шайбу ў хакеі, падхапілі апаненты.

Што можа стаць рэальным вынікам "круглага стала" (калі ён, зразумела, адбудзецца), акрамя таго, што ўдзельнікі паглядзяць адзін аднаму ў вочы. Ужо адно гэта было б вынікам: адна справа калі "нацыяналіст" альбо "камуніст" — абстрактныя разуменні, іншая справа, калі ты бачыш перад сабою жывога чалавека, які прытрымліваецца той ці іншай ідэалогіі. Ідэальным варыянтам было б дамовіцца адносна лідэра апазіцыі. Сіла Лукашэнкі не ў адданасці электарату (калі што, люмпен хутка перакінецца да таго, хто болей паабяцае), не ў падпарадкаваных яму ўзброеных фарміраваннях, але ў раз'яднанасці апазіцыі.

Быў час, калі лібералы верылі, што на Лукашэнку можна ўплываць, а пад добрым уплывам ён здзейсніць рэформы. Потым высветлілася, што Аляксандру Рыгоравічу патрэбны не дарадцы, а толькі выканаўцы. Пэўныя ілюзіі мелі адносна Лукашэнкі і камуністы, бо ён ішоў на выбарах пад іхнімі па сутнасці лозунгамі. Цяпер і яны зразумелі, што, скарыстаўшы іхнія лозунгі і перахапіўшы іхні электарат, Лукашэнка не будзе з імі дзяліцца ўладай. Самому не хапае...

Можна згадзіцца з думкай, выказанай у публікацыі "Известий" за 2 жніўня, што адсутнасць Зянона Пазняка спрыяе складванню антыпрэзідэнцкай апазіцыі. Праўда, аўтар публікацыі М. Юсін памылкова лічыць, што Пазняк, які прапаноўваў на мітынгу 26 сакавіка ўшанаваць хвілінай маўчання памяць змагара з расійскім імперыялізмам Джахара Дудаева, непрымальны для краіны, "97 працэнтаў жыхароў якой дома гавораць па-руску". Нагадаю, што шматтысячная грамада, якая складалася ў асноўным з моладзі, прапанову Зянона Пазняка прыняла прыхільна і памяць Джахара Дудаева хвілінай маўчання ўшанавала. А наконт мовы... Гэта рэч сур'ёзная, але не настолькі вызначальная. Каб было інакш, не было б грамадзянскіх войнаў; не ваявалі б хлопцы з Ірландскай Рэспубліканскай Арміі, якія хутчэй за ўсё дома гавораць па-ангельску, супраць брытанскай прысутнасці на сваёй зямлі; не супраціўлялася б нямецкамоўная Аўстрыя "аншлюсу" з гітлераўскай Германіяй.

Галоўнае ў тым, што на Пазняка, які зараз за акіянам, немагчыма павесіць абвінавачванне ў дэстабілізацыі абстаноўкі ў Беларусі. Значыць БНФ, які ў грамадскай свядомасці атаясамліваецца з Зянонам Пазняком, мае большую прастору для палітычнага манеўру. Юры Хадыка можа зрабіць тое, што не мог зрабіць па шэрагу прычын Пазняк — крок насустрач камуністам...

І нацыянал-дэмакраты, і лібералы, і камуністы сёння не зацікаўленыя ў тым, каб Беларусь мела прэзідэнцкую форму кіравання. Камуніста беларусы не выберуць прэзідэнтам ужо, а нацыяналіста альбо лібералa — яшчэ... Такім чынам наступным прэзідэнтам зноў можа стаць які-небудзь чарговы "беспартыйны" папуліст, які зноў будзе баяцца якой заўгодна арганізаванай сілы і з гэтай прычыны перашкаджаць станаўленню і ўмацаванню якіх заўгодна палітычных партый.

Вызначыўшы ў сваім асяроддзі лідэра, антыпрэзідэнцкая апазіцыя магла ў нейкай ступені разлічваць і на падтрымку пэўных сіл у Маскве, у асяроддзі прэзідэнта Ельцына. Бо непрадказальнасць паводзін Лукашэнкі і імклівае падзенне ягонага рэйтынгу (ужо і электарат бурчыць...) стварае для Масквы пэўныя праблемы.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

Варункі

# МОВА І ПРЭЗІДЭНТ

**У нядзелю, вячэраючы на кухні, уключыў я беларускую праграму тэлевізіі і ўбачыў там прэзідэнта. Расказваў ён пра чарговы рэферэндум работнікам солекамбіната ў Мазыры, у нейкім Доме культуры пад чырвона-сінім сцягам (мой SAMSUNG, мабыць, прошукі імперыялістаў, чамусьці адмаўляўся выдаць на сцягу зялёную паласу), пра 2 мільёны даляраў, якія ён знайшоў на гэта (цікава, дзе гэта "знаходзяць" мільёны даляраў?), і ўсіх — ад камуністаў да нацыяналістаў — запісваў у "ворагі" народа.**

**Зноў А. Лукашэнка, згадваючы мінулы "ганебны рэферэндум" — мабыць, такім ён увойдзе ў гісторыю Беларусі, "прайшоўся" па беларускай мове. Ізноў прагучаў пасаж пра тое, што яна насаджалася.
І ў зале, мабыць, камбінацкае начальства, угодліва адгукнулася: га-га-га!**

**Вось вам і га-га-га, падыграў ім Аляксандр Рыгоравіч, калі б не ведалі зараз мову — ужо б тут не працавалі.**

**Вось тут Аляксандр Рыгоравіч, мякка кажучы, перабольшыў. Пэўна, што працаваў бы гэты дырэктар са сваімі намеснікамі і пры беларусізацыі. Іншая справа, што прэзідэнту давялося б частку свайго шалёна каштоўнага часу страціць на авалодванне беларускай мовай, каб не запінацца на беларускай ламаніне, якую ён часам дэманструе, калі толькі не чытае па паперцы. Заадно давялося б азнаёміцца з ёй і вернай камандзе — Замяталіну, Посахаву, Ярмошыну і Латыпаву...**

**Гаворачы пра беларускую мову, Аляксандр Рыгоравіч у чарговы раз не мог утрымацца, каб не перабольшыць. Хоць па дробязі, але ў сваю карысць, з абурэннем гаворачы пра дваццаць працэнтаў надбаўкі настаўнікам, якія выкладалі па-беларуску. Хоць тут ужо ён "навёў парадак".**

**Па-першае, працэнтаў тых было пятнаццаць. А па-другое, мяне асабіста абурае маральны бок стаўлення да гэтай праблемы. І школьніку зразумела, што закон аб беларускай мове, яе афіцыйны статус, іншыя меры, у тым ліку і гэтая няшчасная настаўніцкая надбаўка, былі ўведзеныя для літаральнага ратавання беларускай мовы.**

**У кожным маральна здаровым грамадстве прынятая і законам замацаваная сацыяльная дапамога хворым і нямоглым. Гэтым і адрозніваецца маральнае грамадства ад дзікунскага. Тое ж і з беларускай мовай. Ёй аказвалася неабходная грамадская тэрапія. І гэта было па-людску, па-еўрапейску.**

**А тут з'яўляецца "гаспадар", які ставіць яе ў "роўныя ўмовы" са здаровай, агрэсіўнай, мускулістай расійскай мовай, якая паспела займець на Беларусі значна больш трывалыя пазіцыі. Але ж беларуская яшчэ не ўзнялася з каленяў!**

**Ва ўзаемадачыненнях паміж мовамі не бывае кампрамісаў. Калі паддаецца адна — адразу ж яе пачынае цясніць іншая. Тэзіс камуністаў аб нейкай агульнай, злітай са шматлікіх моваў супермове, на справе прывёў да той брыдкай трасянкі, якую мы чуем, напрыклад, ад Аляксандра Рыгоравіча. Гэткая паўмова непазбежна вядзе да рэзкага зніжэння інтэлектуальных магчымасцяў яе носьбітаў. Пра гэта не раз пісалі навукоўцы.**

**Таму, калі я чую ад прэзідэнта, які звяртаецца, па ягоных словах, да дэпутатаў Вярхоўнага Савета: "Мужыкі!" — я не здзіўляюся. Гэта не чарговая "разборка" каля жоўтай бочкі за кухлем піва. Гэта — беларуская палітыка.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# ГЕОРГІЙ МАРЧУК — ДЫРЭКТАР ВЫДАВЕЦТВА "МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА"

**Дырэктарам аднаго з вядучых выдавецтваў нашай краіны "Мастацкая літаратура" прызначаны пісьменнік Георгій Марчук. Імя гэтае добра вядома чытачам. Г. Марчук аўтар знакамітых раманаў "Крык на хутары", "Прызнанне ў забойстве", "Кветкі правінцыі", "Вочы і сон" і іншых, у якіх псіхалагічна глыбока і разам з тым публіцыстычна востра ўзнімаюцца шматлікія праблемы няпростага жыцця беларусаў у розныя часы. Добра зарэкамендаваў сябе Г. Марчук і як драматург, кінасцэнарыст. Не чужая яму і дзіцячая літаратура, аб чым, у прыватнасці, засведчыла кніга казак "Жылі-былі дзед Васільчык і баба Кацярына".**

**Віншуем Георгія Васільевіча з высокай і адказнай пасадай і жадаем поспехаў на ніве нацыянальнага кнігадрукавання, у імя адраджэння Бацькаўшчыны!**

# ГАСТРОЛІ ПАЧАЛІСЯ СЛОВАМІ КУПАЛЫ...

**3 жніўня спектаклем па творах Янкі Купалы "Мне сняцца сны аб Беларусі..." у памяшканні Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра распачаў свае гастролі мінскі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч". У планах гастрольнай паездкі — спектаклі для гродзенскага гледача, выязныя спектаклі па вобласці. 9 жніўня тэатр будзе ў Зэльве, дзе чакаецца традыцыйнае ўшанаванне памяці Ларысы Геніюш. Сёння ў рэпертуары тэатра, якім кіруе актрыса Галіна Дзягілева, спектаклі разнастайныя па тэматыцы, але аднолькава скіраваныя на абуджэнне духоўнасці: "Белы сон" паводле "Споведзі" Л. Геніюш, "Дабравесце ад Уладзіміра" па творах У. Караткевіча, "Кроткая" паводле Ф. Дастаеўскага... Для першага гастрольнага прадстаўлення невыпадкова быў абраны спектакль "Мне сняцца сны аб Беларусі...": з яго пачыналася стварэнне тэатра, выканаўца — Галіна Дзягілева; невядомыя і малавядомыя вершы Янкі Купалы гучаць для сённяшняга беларуса надзвычай актуальна... Паэтычнае слова ў спектаклі суправаджае музыка ў выкананні цымбаліста А. Лявончыка.**

**Першы гастрольны спектакль тэатра "Зьніч" з удзячнасцю быў прыняты гродзенцамі. Пасля спектакля Галіна Дзягілева пазнаёміла гледача з тымі, хто супрацоўнічае з тэатрам. Гродзенцаў прывіталі паэт Артур Вольскі, актрыса Ларыса Горцава, паэтэса Людміла Рублеўская. Думаецца, што ў горадзе з такімі трывалымі культурнымі беларускімі традцыямі, як Гродна, тэатр, які прапагандуе беларускае паэтычнае слова, знойдзе свайго гледача.**

**Н. К.**

# І ЗНОЎ — "ЗОРАЧКІ"...

**15 жніўня ў Мінску ў памяшканні Нацыянальнай бібліятэкі а 16-й гадзіне адбудзецца вечарына памяці паэта Сяргея Новіка-Пеюна, прымеркаваная да яго 90-годдзя. Вечарына пройдзе ў рамках абанементу паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч". Абанемент называецца "Тайна зьнічнага святла" і прапаноўвае спектаклі-сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі, паэтамі, грамадскімі дзеячамі. Вечарына памяці Новіка-Пеюна — першая ў абанеменце сезона 1996—97 года, і з'яўляецца ўжо традыцыйнай. Правядзе яе паэтэса Людміла Рублеўская. Сярод выступоўцаў чакаецца шмат вядомых, цікавых людзей — паэтаў, мастакоў, бардаў, грамадскіх дзеячаў, якія добра ведалі Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пеюна, пакутніка за родную Беларусь, і захавалі светлую памяць пра яго незвычайную асобу. Вечарына мае назву "Зорачкі", як і песня С. Новіка-Пеюна, якую выконвае Данчык.**

**Запрашаюцца ўсе жадаючыя, усе, каму дарагі лёс Бацькаўшчыны, хто любіць паэтычнае слова і шчырую сяброўскую размову.**

*Версіі*

# "ТРЭЦЯЯ ЕЎРОПА: ГІСТОРЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА"

***Кожная эпоха мае свае галоўныя праблемы, а наступная не столькі адказвае на іх, колькі спараджае іншыя, уласцівыя толькі ёй. Тым самым "адказам" на старыя пытанні становяцца новыя, больш складаныя і надзённыя, і мы не выходзім на просты ясны шлях (як марылі ўтапісты розных часоў), а ўсё глыбей улазім у цёмны супярэчлівы лабірынт, назва якому — прагрэс цывілізацыі. Так, пэўна, наканавана чалавеку, прынамсі, чалавеку сучаснаму.***

Што ж азначае быць сучасным? Зараз, відаць, мала быць крытыкам мінулых "палітычна-эканамічных фармацый" (у тым ліку і савецкай), бо зачынальнік гэтай традыцыі К. Маркс, аблаяўшы ўсе "эксплуататарскія" грамадствы, вядомыя ў XIX ст., даў і суцяшальны прагноз — аб хуткім прыходзе "камуністычнага раю", чаго не зможа зрабіць сёння ніводзін цвярозы чалавек. У гэтай сувязі не лішне будзе нагадаць, што і рабаўладальніцтва ў антычнасці, і феадалізм сярэднявечнай Еўропы, і капіталізм XIX ст. былі прагрэсіўнымі, безальтэрнатыўнымі спосабамі сацыяльнага існавання тых эпох, а іх крытыка з "вышыні сучаснасці" маланавуковая і некарэктная. Адзіным апраўданнем ці доказам яе ісціннасці павінен быў стаць спраўджаны Марксавы прагноз і перамога камуністычнай сістэмы. Але паколькі і "нябесны Ерусалім" і "сонечны горад", і "камунізм" — усяго толькі прыгожыя ідэалы, мроі ці мастацкія вобразы, то доказаў ніколі не будзе і быць не можа. Такія пастулаты прымаюцца толькі на веру, як аб'екты рэлігійнага ці квазірэлігійнага вучэння.

Аднак паспрабуем зірнуць на гэта з іншага боку. Гісторыя Еўропы ў пэўным сэнсе — самадастатковая рэч, якая, аднак, выйшла за ўласныя межы і, распаўсюдзіўшы свае этнасы, ідэі, тэхналогіі, стала піянерам так званай сусветнай цывілізацыі. Чаму ж менавіта Еўропа стала лідэрам і каталізатарам прагрэсу? Прычын тут шмат — геаграфічных, этнічных, рэлігійных, сацыяльных — і ўсе яны зводзяцца да таго, што наш кантынент заўсёды меў незвычайную разнастайнасць і моцныя ўнутраныя супярэчнасці. Нацыянальная і моўная стракатасць, кліматычная і ландшафтная неаднароднасць, рэлігійна-духоўная шматстайнасць, палітычная канфрантацыя і сацыяльна-эканамічная канкурэнцыя — былі тым рухавіком еўрапейскага самаразвіцця, які ўрэшце прывёў і да глабальнай экспансіі. Сёння, калі скончылася экспансія, а на самым кантыненце знікае апошняе супрацьстаянне (між Усходам і Захадам), можа скласціся ўражанне аб "канцы еўрапейскай гісторыі". І сапраўды, з'яднаная пад адным дахам эканамічных і палітычных структур ды універсальных каштоўнасцяў, Еўропа можа ператварыцца ў ціхае, "гарманічна-канаючае" балота, пазбаўленае жыццядайных супярэчнасцяў і матывацыі да самаразвіцця. Але гэта павярхоўнае, бадай, постсавецкае меркаванне, якое ідэалізуе еўрапейскую рэчаіснасць, дзе ёсць вострыя і складаныя праблемы. Сярод іх — нарастаючая палярызацыя па лініі "бедныя-багатыя" з заняпадам "сярэдняй клясы" (сведчанне "старэння" і дэградацыі грамадства), новае "перасяленне народаў" — эміграцыя з былых каланіяльных і сацыялістычных краін, якая магла б асвяжыць генетычныя сілы Еўропы, але ў той жа час стварае небяспеку для старых нацыянальных ідэалаў. Адной з такіх магчымых праблем становіцца новы нацыяналізм, ці субэтнічная секвестрацыя (падзел).

Каб зразумець сэнс гэтай з'явы, паспрабуем падзяліць Еўропу на "катэгорыі". Да першай трэба аднесці вялікія нацыі, якія стварылі ў свой час імперыі, да другой — малыя і сярэднія, якія ўжо "адбыліся" і маюць трывалы вопыт незалежнасці, а да трэцяй — народы, што ў большай ці меншай ступені асіміляваны іншымі, але не страцілі надзей на самастойнасць. Такі падзел даволі ўмоўны, бо, напрыклад, італьянцаў, не меўшых імперыі, можна аднесці да першай групы, колішніх "імперцаў" — аўстрыйцаў — да другой, а сённяшніх "трэццясортнікаў" — украінцаў — з цягам часу таксама мо да першай.

Трэба адзначыць, што "трэцяя Еўропа" — гэта не толькі народы былога "сацлагера", суверэнізацыя якіх была прыпынена ці закансервавана таталітарызмам, а і шэраг народаў Заходняй Еўропы, не захаваўшых ці не ўсталяваўшых уласнай самастойнасці. Прыклад таму Іспанія, Вялікабрытанія, з пэўнымі агаворкамі — Італія. У апошнім выпадку пераважаюць не нацыянальна-культурныя, а эканамічныя прычыны, што само па сабе даволі сімптаматычна. Тэндэнцыя сучаснага развіцця сведчыць аб эканамічнай неэфектыўнасці вялікіх зацэнтралізаваных сістэм і таму, паралельна з глабальнай спецыялізацыяй і уніфікацыяй, мусіць распачацца працэс рэгіянальнай секвестрацыі ў межах вялікіх дзяржаў. Асаблівую вастрыню і перспектыўнасць ён набывае менавіта там, дзе памкненні да суверэнітэту супадаюць з патрабаваннем эканамічнай самастойнасці. Як капіталізм XVIII—XIX стагоддзяў нарадзіў еўрапейскія нацыі, тэхналагічны універсалізм постідустрыяльнай эпохі народзіць новыя рэгіянальныя супольнасці. З аднаго боку, гэта будзе натуральнай рэакцыяй на агрэсію касмапалітызму ў духоўнай і культурнай сферы,а з другога — вынікам звышсучасных тэхналогій, якія забяспечваюць камфортнае існаванне субэтнічных ці рэгіянальных груп. Гісторыя Еўропы працягваецца з нараджэннем новых праблем і супярэчнасцяў.

Галоўнае пытанне, якое будзе турбаваць - якім чынам пойдзе гэты працэс: мірна ці гвалтоўна. Вопыт Ірландыі, Югаславіі і нават Чачні мог бы чамусьці і навучыць, але спадзявацца толькі на лёс і на тое, што сыты (у адрозненне ад галоднага) заўсёды будзе памяркоўным, не даводзіцца. Праблему трэба ўсебакова вывучаць, дэмакратычна абмяркоўваць і эвалюцыйна вырашаць, не замоўчваючы і не даводзячы справу да выбуху. А прыкладам ці, бадай, мадэллю такога развіцця магла б стаць Беларусь, якая, з аднаго боку, мае падставы для нацыянальна-культурнай і эканамічнай самастойнасці, а з другога — татальную залежнасць ад вялікай суседкі. Адной нагой яна ступіла на свой уласны шлях, а другой моцна захрасла ў старой імперскай каляіне. І ўсё ж у яе ўжо ёсць сілы стаць прыкладам для астатніх народаў, як мірна, з гонарам і пашанай выйсці ў кола вольных і заможных, здзейсніць амаль немагчымае, зрабіўшы новы віток гісторыі. Мы маем шанц стаць лідэрамі "трэцяй Еўропы", дэвіз якой: "Лепш быць добрым суседам, чым ворагам-братам".

А Зямля ўсё роўна ў нас адна, яна нас і злучае.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

*Перадрук*

# ПРА АДВАРОТНЫ БОК СЛОЎ

Тэрміналогія — рэч не дробязная.

Скажы: "забілі змагара за незалежнасць Чачні" — і ясна, што кепска зрабілі. Змагаўся, значыць, чалавек за сваю свабоду, а прыгнятальнікі яго забілі. Але скажы: "знішчылі дудаеўскага бандыта" — і можна чакаць апладысментаў. Нібыта застрэлены шалёны воўк, які тэрарызаваў вёску.

Я перабраў у памяці ярлыкі, якія расійскія СМІ прыклейваюць ваюючым чачэнцам. Бандыты. Члены незаконных узброеных фарміраванняў. Непрымірымыя. Дудаеўцы. Духі. Маджахеды. Наёмнікі. (Што там яшчэ?)

У 1995 годзе вялікая і магутная руская мова ўзбагацілася неалагізмам. Цяпер мы ведаем, хто накрывае рэактыўнай артылерыяй жанчын і дзяцей. Гэта робяць **федэралы**.

Успамінаецца святкаванне 50-годдзя Перамогі ў тым жа мінулым годзе. Калі ўсе маскоўскія СМІ наперабой паведамлялі, што **руская** армія зламала хрыбет фашысцкаму зверу, **рускія** ўзялі Берлін і інш. Што вашага пакорлівага слугу павергла ў недаўменне. Бо ўсім вядома, што рускія ў СССР складалі роўна палову насельніцтва. Значыць, у **савецкай**, а дакладней, у **чырвонай** арміі, якая разам з заходнімі саюзнікамі разграміла немцаў, **рускія** таксама складалі роўна палавіну: усе народы неслі аднолькі воінскі абавязак. І прыпісванне адным толькі рускім усяго таго, што разам зрабілі ўсе народы СССР, ёсць знявага памяці мільёнаў загінуўшых казахаў, грузін і розных іншых украінцаў.

Я пагутарыў з калегам-журналістам, аўтарам артыкула, дзе "рускія бралі Берлін", і атрымаў ад яго расплывісты адказ. Маўляў, СССР — гэта на самай справе Расія і ўсіх яго жыхароў у цэлым можна назваць рускімі. На Захадзе, дадаў калега, усіх савецкіх называлі (і цяпер называюць) менавіта так — "рускія".

Прызнацца, такі адказ мяне не надта задаволіў. Па-першае, трэба быць выхаваным і пытаць дазволу на такую тэрміналогію ў зацікаўленых асоб — ці згодны яны? А то назавеш Івана Баграмяна "рускім маршалам", а армяне пакрыўдзяцца. Па-другое, мы ж не на Захадзе. Якая нам справа, як яны каго называюць. У Францыі, напрыклад, немцаў называюць нейкімі "альманамі". Самі немцы велічаюць сябе "дойчамі". Але мы ж гэтага не пераймаем. Па-трэцяе: я помню, як Аляксандр Ісаевіч Салжаніцын бурна пратэставаў супраць таго, што ў нейкіх прынятых 40 гадоў назад дакументах амерыканскага сената фігуруе выраз "рускія" замест "савецкія камуністы". Вельмі моцна пакрыўдзіўся: пры чым тут рускія?! Эсэсэсэрам кіруе інтэрнацыянальная наменклатура, а рускія — гэткія ж яе ахвяры, як і ўсе астатнія народы. Хоць калі "на Захадзе ўсіх савецкіх называюць рускімі", дык чаго ж тут крыўдзіцца?

Асабіста я за які заўгодна варыянт, абы толькі ён быў вольны ад блытаніны. Калі называць **усіх** насельнікаў царскай Расіі і СССР рускімі — дык заўсёды і ва ўсіх выпадках. Напрыклад: "Руская армія патапіла ў крыві венгерскія паўстанні 1849 і 1956 гг.". Аднак мы чуем, што зрабілі гэта арміі **царская** і **савецкая**. Калі не называць — дык нідзе і ніколі, уключаючы ўзяцце Берліна.

Нарэшце ўдалося ўцяміць, што ніякай блытаніны на **самай** справе няма, ёсць зусім дакладны няпісаны закон: **"усё добрае зрабілі рускія, усё дрэннае зрабілі не рускія"**. Дрэннае можа рабіць хоць хто. Доўгі час мы чулі, што тыя альбо іншыя "подзвігі" ў Чачні здзяйснялі **дэсантнікі, амонаўцы, вайскоўцы расійскай (не рускай!) арміі, федэралы.** А ці чуў хто-небудзь па тэлевізары, што **рускія** наладзілі бойню мірнага чачэнскага насельніцтва ў Самашках? Тое і яно.

З паўгода назад тэлевізійшчыкі пачалі паціхеньку выкідваць са сваіх зводак навін "бандытаў" і "ўдзельнікаў незаконных узброеных фарміраванняў". Дыктары адкрытым тэкстам паведамляюць, што сёння "знішчаны пяцёра сепаратыстаў". І гэтае новаўвядзенне выклікае моцнае неўразуменне. Паколькі "сепаратыст" зусім не азначае "бандыт" ці "забойца". Гэта слова таго ж кораня, што і назва бяскрыўднага апарата для аддзялення вяршкоў ад малака. Але сепаратысты бываюць не толькі чачэнскія, а і, напрыклад, квебекскія. Уявіце, што англамоўная большасць у Канадзе вырашыла **забіваць** франкамоўных сепаратыстаў! А ёсць і сепаратысты рускія, іх нават значна больш, чым чачэнскіх: у Прыднястроўі, у Крыме, у Паўночным Казахстане, у Нарве. Дадзена ім права на выхад з адпаведных дзяржаў ці не? Ну, там права на самавызначэнне і ўсё такое іншае. Ці дазваляецца малдаванам, украінцам, казахам і эстонцам усіх гэтых рускіх **забіць**?

Не, калі ўжо Расія ператварылася ў дзяржаву, дзе можна **забіваць сепаратыстаў,** то прашу мяне першага лічыць сепаратыстам — гэта значыць, тым, хто аддзяліўся ад такой дзяржавы. Толькі прашу не забіваць на месцы за гэтыя словы. Лепш вышліце мяне ў Канаду. Я хачу жыць там, дзе ні федэралы не забіваюць сепаратыстаў, ні сепаратысты федэралаў.

**Уладзімір КАВАЛЕНКА**

*("Литературная газета" за 24. VII. 96, N 30 / 5612).*

**Ад рэдакцыі.** Апошнім часам на Беларусі распачалася кампанія барацьбы з гэтак званымі "русафобамі", да якіх залічваюць усіх, хто асмеліўся сказаць праўду пра нашае мінулае і назваць рэчы сваімі імёнамі. Каб не пасеяць "вражду между народами", "старэйшага брата" можна толькі хваліць... І таму, калі б падобная публікацыя з'явілася не ў маскоўскай "Літаратурцы", а ў любым беларускім выданні, аўтар яе да скону не адмыўся б ад ярлыка "русафоба". Не верыце? Пачытайце хоць бы "Народную газету" за 1 жніўня г. г.

# НЕ ЗАБУДЗЕМ. АБАРОНІМ. ВЫРАТУЕМ.

## ГІСТАРЫЧНАЯ НАВУКА І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

САВЕЦКАЯ гістарычная навука шмат у чым вінаватая перад грамадствам за тэндэнцыйнае, заідэалагізаванае асвятленне мінулага. Асабліва гэта датычыла паказу паслякастрычніцкага перыяду. Ён падаваўся ў такім вясёлкавым святле, што здавалася аніводная краіна свету не дасягнула гэткага эканамічнага, палітычнага і духоўнага росквіту, як СССР. Страшэнна ўсхвалялася гісторыкамі зробленае КПСС і Савецкай дзяржавай у галіне нацыянальнай палітыкі. Дзіўна, што пра гэта вельмі любілі пісаць і вучоныя-грамадазнаўцы Беларусі, хаця, калі як след разабрацца, яе карэннае насельніцтва знаходзілася на мяжы канчатковай дэнацыяналізацыі. Але яны замест таго, каб біць у званы — білі ў літаўры.

Няцяжка ўявіць, які пярэпалах у стан савецкіх гісторыкаў унесла "гарбачоўская перабудова". З яе надыходам адкрыта заяўлялася, што найдалей ад ісціны знаходзяцца тыя працы па гісторыі, на старонках якіх найбольш лаку, ружовых фарбаў аб савецкай рэчаіснасці. Зразумела, вельмі востра крытыкаваліся вучоныя і за памылкі ў асвятленні міжнацыянальных адносін, бо менавіта сур'ёзныя хібы ў гэтай сферы і з'явіліся галоўнай прычынай паскоранай, невыкліканай унутранымі законамі развіцця, рускай культурна-моўнай асіміляцыі многіх савецкіх народаў.

Выдатна разумею, колькі фізічных і духоўных сілаў каштавала вучоным-гісторыкам пераглядзець, зрабіць больш адэкватнымі свае погляды на мінулае і тыя падзеі, што адбываліся падчас перабудовы. Сёй-той не пераадолеў — магчыма, ён і не ставіў перад сабой падобнай мэты — такога псіхалагічнага бар'ера. Мінаў год за годам, а з-пад пяра такіх навукоўцаў не з'явілася аніводнага вартага сур'ёзнай увагі артыкула.

Затое актыўна пачалі працаваць гісторыкі, якія ніколі не падзялялі ўсталяванага ў гістарычнай навуцы афіцыйнага погляду на мінулае беларускага народа. Адбыліся станоўчыя змены і ў кіраўніцтве беларускай акадэмічнай навукі. Інстытут гісторыі АНБ узначаліў у 1988 годзе досыць малады (нарадзіўся ў 1940 г.) доктар гістарычных навук, прафесар Міхась Касцюк. Праўда, было нямала і скептыкаў адносна новага кіраўніка. І ў іх на гэта меліся даволі важкія падставы: кандыдацкая і доктарская дысертацыі, усе яго асноўныя публікацыі: "Идейно-политическое воспитание крестьянства: Из опыта работы Компартии Белоруссии в период строительства социализма (1926—1937 гг.)", (1979), "Трудовой вклад крестьянства в победу и упрочение социализма: "На материалах БССР" (1986), "Социалистические ценности тружеников села: история, современность, перспективы" (1989) прысвячаліся ўсхваленню бальшавіцкіх пераўтварэнняў у сельскай гаспадарцы, іх аўтар на працягу пяці гадоў працаваў у самым цэнтры партыйнай гістарычнай навукі — Інстытуце партыі пры ЦК КПБ (на пасадзе вучонага сакратара).

Аднак першапачатковы скептыцызм, што апанаваў гісторыкаў, вельмі хутка рассеяўся, зразумела, не без удзелу самога Міхася Касцюка. Гэты таленавіты вучоны, здольны арганізатар навукі, вельмі сціплы і шляхетны чалавек за гранічна кароткі тэрмін змог згуртаваць вакол сябе калектыў і накіраваць усе яго намаганні на вырашэнне самых актуальных праблем беларускай гістарычнай навукі. Не магу не адзначыць і такой выдатнай прафесійнай і адначасова патрыятычнай якасці Міхася Касцюка, як глыбокае разуменне важнасці развіцця гістарычнай навукі на нацыянальнай мове. Менавіта пры ім, упершыню за ўвесь пасляваенны перыяд, гісторыю Бацькаўшчыны сталі ствараць вучоныя-гісторыкі на беларускай мове. Раней таксама выходзілі — пераважна калектыўныя — працы па гісторыі на роднай мове, але гэта пасля таго, як да іх прыклалі свае веды і намаганні філолагі-перакладчыкі. Міхасю Касцюку не спатрэбілася шмат часу, каб пераканаць усіх, што неабходна як мага хутчэй адмовіцца ад падобнай заганнай, непрадукцыйнай практыкі. Дапамог жа хутка пераканацца ў гэтым асабісты прыклад самога дырэктара акадэмічнага Інстытута гісторыі. Уважліва сочачы за яго дзеяннямі, я даўно прыйшоў да высновы аб велізарнай карысці для справы нацыянальнага Адраджэння ажыццяўленне свядомай палітыкі па вылучэнні на кіраўнічыя пасады асобаў, якія, як маці, любяць сваю Бацькаўшчыну, валодаюць і размаўляюць на роднай мове. Спаўна надзелены такімі якасцямі, Міхась Касцюк без ужывання якіх-небудзь адміністрацыйных захадаў зрабіў гістарычную навуку і сам калектыў Інстытута беларускамоўнымі. Не раз чуў ад зусім яшчэ маладых навукоўцаў прыкладна такое: "У такім асяроддзі проста было б некарэктным не ведаць і не карыстацца беларускай мовай".

Па-сапраўднаму заявіць пра сябе ў новых умовах жыцця грамадства, у якога абудзілася зацікаўленасць да свайго мінулага, Інстытут гісторыі змог бы толькі стварэннем сур'ёзнай, шматпланавай, а галоўнае — аб'ектыўнай працы пра беларускі народ. Такая праца ёсць. Гэта — "Нарысы гісторыі Беларусі ў 2-х частках" (1994—1995). У перыядычным друку з'явілася нямала самых розных па змесце рэцэнзій на гэтую працу. Ёсць сярод іх і востра крытычнага плана, што зусім заканамерна, паколькі многія гістарычныя падзеі паказаны ў ім нестандартна, у нетрадыцыйнай трактоўцы. Адысці ад шаблону — справа не з лёгкіх, а тым больш у гістарычнай навуцы. Таму сапраўдныя гісторыкі-навукоўцы з алімпійскім спакоем вытрымліваюць крытыку на іх і злева, і справа, не ўхіляючыся ад тых ідэй, што прадэкларараваны ў "Нарысах..."

Вельмі важна, што засяроджванне галоўнай увагі калектыву Інстытута гісторыі на падрыхтоўцы капітальных прац у галіне сваёй навукі не прымусіла яго істотна ці цалкам адмовіцца ад напісання публіцыстычных прац, бо і, дзякуючы ім, можна ў патрэбным накірунку ўплываць на розум і сэрцы людзей, адраджаць знявечаную гістарычную памяць. Гісторыкі вельмі ўдзячныя рэдакцыям газет і часопісаў за тое, што яны ахвотна ішлі на супрацоўніцтва з навукоўцамі дзеля шырокай прапаганды аб'ектыўных ведаў пра мінулае нашай Бацькаўшчыны.



На вялікі жаль, зараз такія кантакты з афіцыйным перыядычным друкам не вызначаюцца былой інтэнсіўнасцю. Але верыцца, што падобная з'ява будзе мець часовы характар, бо нельга ж дапусціць такога, каб старонкі нашых газет і часопісаў ізноў запаўнялі публікацыі, далёкія ад рэчаіснасці, скіраваныя на канчатковую дэфармацыю гістарычнай памяці беларускага народа, якая, здавалася, так упэўнена пачала фармавацца ў належным напрамку на схіле 80 — у першай палове 90-х гадоў.

Найлепшым сродкам затармазіць развіццё беларускай нацыянальнай навукі яе нядобразычліўцы лічаць абвінаваціць сумленных навукоўцаў у нацыяналізме, бо, маючы такі ярлык, аніводзін з іх не праб'ецца на старонкі найбольш масавых афіцыйных газет і часопісаў, а таксама ў дзяржаўныя выдавецтвы. У публікацыях перыядычнага друку колькі часу таму застракацела тэрміналогія, якая была вельмі папулярнай у сумнавядомыя 30-я гады. Аднак не абышлося і без навацыі. Гэта — увядзенне ў навуковы абыходак тэрміна "русафобія", што азначае непавагу да ўсяго рускага.

Добразычлівае стаўленне беларусаў да рускага народа агульнавядомае. Таму, каб выклікаць недавер да новых, нетрафарэтных поглядаў у гістарычнай навуцы, заяўляецца, што яны падаюцца ў духу русафобіі. І трэба прызнаць, што ў аб'ектыўнасці такіх поглядаў і сапраўды пачынаюць сумнявацца радавыя чытачы (глыбокіх жа ведаў па айчыннай гісторыі ім не дала наша сістэма адукацыі), некаторыя палітыкі, кіраўнічыя работнікі органаў асветы. І адразу пайшлі арышты падручнікаў па гісторыі і геаграфіі Беларусі, па беларускай мове і літаратуры, хаця куды разумней было б даць нейкія тлумачальныя запіскі па паасобных тэмах гэтых дысцыплін. Помніцца, як у даваенны час мы, школьнікі, па ўказцы настаўнікаў, заклейвалі змешчаныя ў кнігах партрэты "ворагаў народа" і пададзеныя пад імі тэксты. Самі ж падручнікі не выкідаліся на сметнік, як гэта прапаноўваецца рабіць сёння пры нашых невярагодных матэрыяльных і фінансавых цяжкасцях.

Пальма першынства ў наклейванні ярлыка "русафоб" на самую сумленную, элітарную частку беларускіх гісторыкаў, несумненна, належыць быламу дырэктару Інстытута гісторыі АНБ, члену-карэспандэнту АНБ, доктару гістарычных навук Пятру Петрыкаву. Паводле мерак 60-х — першай паловы 80-х гадоў — гэта даволі салідны вучоны. Сведчаннем таму яго манаграфіі: "Организация и деятельность постоянных комиссий местных Советов Белоруссии (1944—1970 гг.)", (1971); "Советы депутатов трудящихся БССР и их роль в создании материально-технической базы коммунизма (1959—1965 гг.)", (1972); "Ревкомы Белоруссии", (1975); "Забота Советской власти о здоровье трудящихся (На материалах Белорусской ССР)", (1976). Мала, а хутчэй за ўсё ніхто з вучоных-гісторыкаў, не зможа паспаборнічаць за Пятром Петрыкавым у справе ўсхвалення ў сваіх навуковых працах савецкай дзяржаўнай сістэмы і сацыялістычнага ладу гаспадарання. А вось наколькі станоўчую ролю адыграюць гэтыя працы ў выкананні іх аўтарам функцый першага намесніка галоўнага рэдактара "Беларускай энцыклапедыі", будзем меркаваць па бліжэйшых тамах "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі".

І раней, і цяпер нярэдкія і выступленні Пятра Петрыкава ў перыядычным друку. Адзін з апошніх яго артыкулаў меў назву: "Туман "русафобіі" ахутаў Беларускую Энцыклапедыю". Надрукаваны ён быў у сёлетнім трэцім нумары часопіса "Беларуская думка" (заснавальнік — Адміністрацыя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь) яшчэ да таго, як яго аўтар прыйшоў на працу ў энцыклапедычнае выдавецтва. Сам загаловак артыкула не можа выклікаць асаблівай трывогі ні ў работнікаў выдавецтва, ні ў гісторыкаў-навукоўцаў, бо "русафобія" ж пададзена ў двукоссі і знаходзіцца ўсяго толькі ў стане туману. Гэта зусім не тое, што сапраўдная беларусафобія, якая даўным-даўно існуе ў нас без двукоссяў і знаходзіцца не ў стане туману, а густой, чорнай і велізарнай хмары.

Прысвечаны артыкул "далікатнай" тэме векавых стасункаў Беларусі з усходняй суседкай — Расіяй. Многія вучоныя хацелі б бачыць іх без сучка і задзірынкі, чаго, дарэчы, не бывае нават сярод аднаго і таго ж народа, больш таго — унутры асобна ўзятай сям'і. Раней пра гэта не прынята было пісаць, таму многія старонкі нашай гісторыі заставаліся неасветленымі. У выніку далёка не ўсімі разумелася, чаму беларусы так істотна адстаюць ад рускіх у плане нацыянальна-дзяржаўнага развіцця, маюць страшэнна дэфармаваную культуры і мову, вельмі нязначна выраслі ў колькасных адносінах. Пералічаныя адмоўныя з'явы ў значнай ступені тлумачацца і адступленнем ад прынцыпу справядлівасці ва ўзаемаадносінах паміж дзяржавамі гэтых народаў, а з канца XVIII стагоддзя цалкам вынікаюць з сутнасці антыбеларускай палітыкі Расійскай імперыі. За апошнія пяць-сем гадоў беларускія гісторыкі вельмі шмат зрабілі па выкрыцці ўсёй шкоднасці гэтай палітыкі. Даволі поўнае і аб'ектыўнае асвятленне знайшла яна і на старонках выдадзеных у 1993—1994 гадах першых двух тамах "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", за што вельмі ўдзячныя яе рэдакцыі і аўтарам чытачы. Мала што з гістарычных прац карысталася ў іх такім попытам, як згаданыя тамы "ЭГБ". Таму вельмі моцна памыляецца паважаны член-карэспандэнт АНБ Пётр Петрыкаў, калі піша, што "туман русафобіі" ахутаў Беларускую Энцыклапедыю". Наадварот, як аніякае іншае выданне, "ЭГБ" дапамагае ўсім і кожнаму папоўніць свае веды па гісторыі Беларусі, добра зразумець, што дэнацыяналізацыя духоўнага патэнцыялу беларускага народа адбылася не стыхійна, а ў выніку свядомай дзейнасці палітыкаў, стрыжнем якой на працягу добрых двух стагоддзяў была русіфікацыя.

У неабгрунтаваных нападках на самае каштоўнае, што створана навукоўцамі суверэннай дзяржавы — "Энцыклапедыю гісторыі Беларусі" Пётр Петрыкаў дайшоў да таго, што піша: "...трэба выказаць падзяку Расіі за тое, што яна зберагла нас як этнас..." (с. 111). Якое блюзнерства! Не толькі афіцыйная Расія, але і верная ёй інтэлігенцыя ніколі не прызнавалі беларусаў за самабытны этнас, таму невядома, як жа яны маглі яго зберагаць. А вось на тым, як разбураць усё тое, што ад беларусаў засталося пасля паланізацыі, яны вельмі добра набілі руку: ліквідавалі беларускую уніяцкую царкву, вывелі з афіцыйнага ўжытку тэрмін "Беларусь", забаранілі выдаваць кнігі, часопісы і газеты на беларускай мове і толькі ў 1914 годзе пад магутным напорам нацыянальна-адраджэнскага руху дазволілі адчыняць пачатковыя беларускамоўныя школы. Нагадаю, што такое права беларусы атрымалі ледзь не самымі апошнімі з усіх народаў царскай імперыі. Не разумею, дык за што ж ёй тады дзякаваць?! Чэкіст N 1 Беларусі ў канцы 30-х — пачатку 50-х гадоў на Беларусі Лаўрэнцій Цанава і то пісаў, што "на працягу ўсяго існавання Беларусі ў складзе... феадальна-прыгонніцкай Расіі і ва ўмовах капіталістычных адносін беларускія працоўныя былі асуджаны на галечу і бяспраўе". Калі ж беларусы захаваліся як этнас, дык за гэта трэба дзякаваць не Расіі, а волатам нашага нацыянальнага Адраджэння, якія, як грыбы пасля дажджу, раслі, растуць і будуць расці на нашай зямлі. Я спецыяльна не буду цытаваць афіцыйныя дакументы, з якіх вынікае шавіністычны характар нацыянальнай палітыкі Расійскай імперыі, бо яны досыць добра вядомы чытачу. Ён намнога горш ведае, як на нацыянальнае пытанне глядзела самая адукаваныя і ў пераважнай большасці прагрэсіўная частка рускага народа. Калі ласка, паслухаем дзекабрыста, аўтара дзвюх рэдакцый палітычнай праграмы Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў "Рускай праўды" Паўла Песцеля. Будучы праціўнікам федэратыўнага ладу Расіі, ён пісаў: "А таму і пастанаўляецца правілам, каб усіх жыхароў, што насяляюць Віцебскую, Магілёўскую, Чарнігаўскую, Палтаўскую, Курскую, Харкаўскую, Кіеўскую, Падольскую і Валынскую губерні сапраўднымі расіянамі лічыць і ад гэтых апошніх ніякімі асобнымі назвамі не аддзяляць", г. зн. быў супроць ужывання этнонімаў "беларус" і "ўкраінец". Развіваючы сваю думку далей, Павел Песцель прапаноўваў "... з усіх плямёнаў, што насяляюць Расію, скласці толькі адзін народ і ўсе розныя адценні ў адну агульную масу зліць так, каб насельнікі цэлай прасторы расійскай дзяржавы ўсе былі рускія... А для гэтага трэба, каб на цэлай прасторы расійскай дзяржавы панавала адна толькі мова расійская..." Прыхільнікаў такіх поглядаў заўжды было шмат у Расіі.

Верхам непавагі Пятра Петрыкава да беларускага народа з'яўляюцца неабгрунтаваныя абвінавачванні, што ў перыяд мураўёўскай расправы з паўстанцамі 1863—1864 гадоў, беларусы, бачачы, як мясцовая адміністрацыя разбурае польскія школы, не паклапаціліся аб напісанні падручнікаў і дапаможнікаў для беларускай школы, падрыхтоўцы здольных выкладаць гэту мову настаўнікаў-беларусаў. на пастаўленае пытанне: "Чыя была справа рыхтаваць і мець усё гэта?" — аўтар дае адзіны, на яго думку, правільны адказ — "Саміх беларусаў" і працягвае: "Але яны (г. зн. беларусы. — **Л. Л.**) як у Рэчы Паспалітай, так і ў першыя дзесяцігоддзі ў складзе Расіі не паклапаціліся аб гэтым. **Таму нельга абвінавачваць царызм у русіфікацыі беларускіх дзяцей у школах, а сталай моладзі ў вышэйшых навучальных установах Расіі.**

**— Творчасць і палітыка — гарманічнае спалучэнне?**

— Творчасць — падсвядомая палітыка. Мастацкі твор ці сцвярджаючы, ці адмаўляючы нешта, тым самым знаходзіцца ў магнітным полі надзённасці, палітычнага жыцця.

**— Наконт палітызаваных твораў... Ці не абыходзіцца без нейкіх страт — і ў цэльнасці характару, і ў творчасці таксама?**

— Такі ўжо лёс беларускіх паэтаў, што ім толькі й даводзіцца даводзіць усім вялікадзяржаўным сілам нашае законнае права быць беларусамі, быць гаспадарамі на сваёй зямлі, гаварыць і пісаць на мове продкаў. Страты й знаходкі. З якога боку глядзець. Чыімі вачыма глядзець. Думаю, не палічаць мяне за кашчуйніка, калі скажу, што й Біблія пэўным чынам палітызаваная. Яна вядзе барацьбу з сіламі сатаны за светлыя ідэі Хрыста.

**— Рыгор Іванавіч, пару слоў пра сваіх сяброў-паплечнікаў. Што вас з імі яднае?**

— Большасць маіх сяброў-паплечнікаў там, дзе, відаць, няма ні літаратурных дыскусій, ні штурханіны каля Алімпа. Засталося мала нумароў тэлефонаў, па якіх яшчэ магу пазваніць, па якіх хачу пазваніць. Што яднала, што яднае? Любоў да ўсяго беларускага, да ўсяго свабадалюбага, да жыцця й да літаратуры.

**— Існуе парадаксальная думка, што паэзія набірае найбольшую сілу тады, калі жыццё не спрыяе ёй. Хацелася б пачуць ваша меркаванне.**

— У часіны савецкай імперыі былі й такія паляўнічыя гаспадаркі, дзе зайцоў спачатку размнажалі на адпаведных фермах, а пасля для высокай наменклатуры дзічылі. Каб было ўражанне, што на дзікіх зайцоў палююць партыйныя гаспадары жыцця. Творчыя саюзы зайцоў літаратурных толькі гадавалі. Цяпер перыяд, калі гэтыя зайцы самі дзічацца. Жыццё прымусіла. У сытым і спакойным жыцці добра пісаць оды рэжыму. Калі жыццё дае добрых штурхалёў, думаецца лягчэй і злосней, шчырэй пішацца. Але мяжа павінна быць ва ўсім.

**— Ці не выношваецца часам незадаволенасць напісаным? Як ідзе працэс назапашвання? Які настрой найбольш дзейсны для творчай працы?**

— Калі паэта задавальняе ўсё ім напісанае, з ім усё ясна. Гатоў. Тым і жыву, што спадзяюся: напішу нешта такое, што самога ўсцешыць. Вершы прыходзяць самі, як Ісакоўскі пісаў Сталіну, "не ожидая зова". Раней радасць і ўтрапёнасць дыктавалі вершы. Цяпер самота й одум дыктуюць часцей і часцей радкі развітання.

**— Кажуць, каму шмат даецца, з таго і шмат спаганяецца... Рыгор Іванавіч, падзяліцеся з намі сваімі бліжэйшымі творчымі задумамі. У якія дзверы стукаецца сённяшняе натхненне?**

— Буду й далей пісаць "некананізаваныя ўспаміны", кнігу вясёлых вершаў і казак-пераказак для дзяцей, кнігу лірыкі й дурнотаў пад умоўнай назвай "Fatum". Буду й патроху перакладаць. Хачу пажыць хоць летам у Вушачы.

**— Які спадзеў на будучыню?**

— Ёсць вушацкая прымаўка: маю надзею — прадам сучку ў нядзелю. Нашая будучыня яшчэ дужа здалёку йдзе да нас. Слаба прасілі й просім, каб хады прыбавіла.

**— "Якія будуць сніцца сны нашчадкам нашым..?" — пытанне, якое хвалюе вас заўжды. І яшчэ больш балесна на душы становіцца пры думцы, "што спадчыну датрачваю. Старасць без паслуг пакідаю". Непакоіць вас лёс сваёй унучкі — адзінага суцяшэння. Што ёй пакідаеце?**

— З часам робішся дрэвам, у якога абцерабілі ўсе сукі. Адзін сучок застаецца — унук ці ўнучка. Затое балюча. Сваёй найлюбай унучачцы Дамінічцы нават мову фактычна не пакідаю. Нашую мову топчуць, гвалтуюць. А мы яе не ўбераглі, не ўратавалі. Спрабавалі. Спрабуем. І я ў тым ліку беспасажніцай пакідаю ўнучку. Хіба што душа беларуская ейная будзе пад апекаю Усявышняга.

**— Паэзія для вас — "бажэсцвенная стыхія" (В. Быкаў). "Я ў дзверы лёсу грукаю падоўгу". Ці верыце ў наканаванасць? Ці давяраецеся свайму лёсу?**

— Веру ў свой кон, бо ён пасланы Богам. Лёсу свайму я давяраю. А вось ці ён мне давярае, не ведаю.

**— Мне чамусьці адразу ўзгадалася вашае "Лёс да кожнага прыходзіць босы..." Так ці інакш для паэта неперадзеным эталонам ёсць патрабавальнасць да сябе. Тады творчага плёну вам, шаноўны Рыгор Іванавіч, і шчыры дзякуй за гутарку.**

Віншуем!

# Яўгену МІКЛАШЭЎСКАМУ —60

*Сваё 60-годдзе сустракае Яўген Міклашэўскі. Ураджэнец вёскі Лыскі, што на Беласточчыне, ён у 1946 годзе пераехаў з бацькамі ў вёску Кміты Нясвіжскага раёна. У 1953 годзе паступіў у Нясвіжскае педагагічнае вучылішча імя Я. Коласа, у якім правучыўся тры гады, апошні курс заканчваў у Пінскім педагагічным вучылішчы. Загадваў Вяліка-Вулькаўскай і Чарнеевіцкай пачатковымі школамі на Піншчыне, вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце замежных моў. Працаваў у часопісе "Родная прырода" загадчыкам аддзела, пасля быў старшым рэдактарам аддзела прозы часопіса "Маладосць", літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Тэатральная творчасць".*

*Упершыню выступіў у друку ў 1959 годзе на старонках часопіса "Полымя". Аўтар кніг паэзіі "Свежасць" (1968), "Ганна з Пухавіч" (гумар, 1976), "Світальны водбліск" (1981), якія выйшлі пад псеўданімам Яўген Верабей, "У спрадвечным руху" (1985), "Зара-заранка, зара-вячэрніца" (1989)... У часопісе "Маладосць" змясціў аповесці "Чатыры дарогі" (1979) і "Мёртвая крыніца" (1989). Раман-даследаванне "Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча", што таксама публікаваўся ў "Маладосці", выйшаў асобнай кнігай і сёлета адзначаны Літаратурнай прэміяй імя І. Мележа. Я. Міклашэўскі таксама вядомы як перакладчык з англійскай і славянскіх моў.*

*Віншуем Яўгена Васільевіча з 60-годдзем! Зычым яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў!*



Яўген МІКЛАШЭЎСКІ

## З НОВАГА СШЫТКА

•

Чалавечы дух на волі!
І, азон п'ючы нагбом,
Толькі бразгае міжволі
Разарваным ланцугом,
Мары кормячы з далоні,
Што, нібы ад ветру пух,
Заціхаюць у сутонні,
Ледзь забразгае ланцуг.

У якім ён зараз стане?
І куды імкнецца ён?
Дух тады магутным стане,
Як спакойным будзе ён.
Апынуўшыся на волі,
Не засне без страшных сноў
І ад лагерных ніколі
Не адвыкне ланцугоў.

•

Чым даражэй каштуе рэч,
Тым чалавек — танней.
І не выцягваць з ножнаў меч
Было б найразумней.

Бо рэдкі меч — усё-ткі рэч,
Каштоўнейшы прадмет,
І, зносячы галовы з плеч,
Ён пакідае след.

І ты душою не крыві,
А лепш скажы адно:
Меч і р ж а в е е ад крыві
Ці т у п і ц ц а адно?

•

Разгубленасць,
збянтэжанасць, бязволле...
Не хочацца ні працаваць, ні жыць.
І што суцешыць? Роднае ваколле,
Што навучыла некалі тужыць?

І чую я спагады ціхі голас
Ад пералескаў, рэчак і лагчын,
І срэбнай ніткай зззяе тонкі волас,
Ссуканы з найбялейшых павучын.

І сонца з пералескавай лагодай
Прыгрэе раптам восеньскай журбой,
І я, на момант зліўшыся з прыродай,
Ураз забуду, што было са мной.

•

У хаосе галоснасці, краху законаў,
Безуладдзя, бязладдзя і яшчэ там чагосьці
Ажылі і інстынкты
людаедскіх плямёнаў —
Падаюцца на рынак чалавечыя косці.

Ад сякер-тамагаўкаў да ракет і тарпедаў,
На зямлі, што сінее ці ў тумане ці ў дыме,
Пачалося жыццё з дзікуноў-людаедаў
І, як бачна, калісьці і закончыцца імі.

•

Прыгледзьцеся, што робіцца ў жыцці,
Прыслухайцеся, музыка якая!
Ідзе вясна — і, прагнучы цвісці,
Цюльпан бутон атрутны апускае.

Прыгледзьцеся да кожнага сцябла,
Да кожнага лісточка і суквецця:
Які нектар нясе з палёў пчала?
Якую свежасць дорыць нам дасвецце?

Якой спякотай апаліла дні,
Якія ліўні п'е зямля ад млосці —
У гэтым свеце ўяўнай чысціні,
Але такой не ўяўнай прыгажосці?!

•

"Маліцеся і кайцеся —
І вам паможа Бог!
Спакус асцерагайцеся,
Каб д'ябал жыць не змог..."

І молімся, і каемся
Ва ўсіх сваіх грахах,
Бясконца паўтараемся,
Як і грахі ў вяках.

Страх перад злою сілаю
Спрыяе злу, між тым,
І з вераю пахілаю
Мы ў бок магіл глядзім.

•

Шуміць, шуміць асенняя нягода,
Цвіце, цвіце валошка на мяжы...
На кожным кроку — звычаі народа:
Дарогі — і каплічкі ці крыжы.

Што ў побыце мы захавалі новым,
Што час няўмольны не схаваў у цень, —
Усё, усё ў календары жыццёвым
На кожны год распісана і дзень.

Прыкметы-ілюстрацыі збіралі
Пра свет прыроды продкі як маглі.
І каляндар ілюстраваны склалі
Нам пра жыццё людское на зямлі.

•

За ўцеху ад Чорнай кнігі я
Чырвоную так аддам.
Хіба бальшавізм — рэлігія,
Якая патрэбна нам?

Ды ўцеха мая — самотная,
Як лёс мой ці першацвет,
А радасць жыцця — залётная:
Мільгне — прападзе і след.

Як промні стануць вясёлкаю —
Грамы на зямлю ўпадуць.
А ноччу вільготна-золкаю
І Млечны Шлях прададуць.

Усё, як відаць, купляецца:
Каханне, мары, жытло.
Як дзень у святле купаецца —
Ліхвяр скупляе святло.

Ён марыць сваёй маёмасцю
І промня бляск аб'явіць...
Як стане свет нерухомасцю,
Хто зможа яго купіць?

•

Ва ўсіх адзін і той жа абавязак —
Сваіх праблем вузельчык развязаць...
Прасіце толькі ў казачніка казак —
Вам казку лепш, чым ён, не расказаць.

Чараўнікамі хочам быць усе мы,
А столькі не развязана вузлоў,
Што ў нас ізноў з'яўляюцца праблемы,
І зерне не знайсці ў мякіне слоў.

А весці спрэчкі чалавекі ўмеюць,
Як і завязваць розныя вузлы.
Калі аслы казлоў не разумеюць,
Ці зразумеюць некага казлы?

Калі выконваць будзем абавязкі —
Не сціхне ў садзе пошчак салаўёў.
Калі ж аслы пачнуць расказваць казкі,
Дык гэта будуць казкі пра аслоў.

Казлы ж напішуць у цэнтральнай прэсе,
Што разумнейшых і за іх няма.
Ці ж за зімоўку ўсіх жывёл у лесе
Бярэ адказнасць на сябе зіма?

Ад нас залежыць — хто і як наесца.
Ды ў розныя бакі і мы глядзім.
Але ў праўдзівай казцы ўсіх на месца
Паставіць толькі казачнік адзін.

# ХОЧАШ ЖЫЦЬ — УМЕЙ КРУЦІЦЦА

Калектыў Мінскага вытворчага паліграфічнага аб'яднання імя Якуба Коласа адзначае сваё саракагоддзе. Знаходзячыся ў складанай сітуацыі, народжанай крызісам эканомікі, флагман паліграфіі Рэспублікі Беларусь тым не менш застаецца на плыву, выконвае заказы дваццаці чатырох беларускіх выдавецтваў і буйнейшага расійскага — "Хаовест". І кнігі выпускае самыя разнастайныя — ад фундаментальных выданняў да мініяцюрных "малютак", а таксама маляўнічыя буклеты, паштоўкі, календары, плакаты. Прадукцыя гэтая карыстаецца вялікім попытам не толькі ва ўсіх кутках нашай дзяржавы, але і экспартуецца ў 54 краіны свету. Пра яе якасць сведчаць, у прыватнасці, таксама факты: 12-томная Беларуская Энцыклапедыя прызнана ААН адным з лепшых выданняў у свеце, на сусветнай кніжнай выставе ў Лейпцыгу залаты медаль прысуджаны беларускаму "Буквару", а кніга Я. Коласа "Новая зямля" ўдастоена сярэбранага медаля і Ганаровага дыплома. На Усесаюзным конкурсе мастацкай кнігі атрыманы Дыплом імя Івана Фёдарава за друк выдання "Францыск Скарына — беларускі гуманіст, асветнік, першадрукар". Усяго з кніг, падрыхтаваных у МВА імя Я. Коласа і якія ўдзельнічалі ў конкурсах і на выставах, дыпломамі і граматамі ўзнагароджана больш за 250.

— Сёння ставім перад сабой стратэгічную мэту: захаваць стабільны рытм работы аб'яднання, гонар маркі, не страціць пастаянных і знайсці новых заказчыкаў, — гаворыць генеральны дырэктар аб'яднання Валерый Іванавіч Германаў. — І нам удалося за апошнія гады ажыццявіць шэраг буйных праектаў па рэканструкцыі прадпрыемства, замене састарэлага абсталявання. У Германіі, напрыклад, закупілі дзве двухфарбовачныя афсетныя машыны, аўтаматычную лінію "Колбус", дзве трохнажавыя рэзальныя машыны і абсталяванне для апрацоўкі фотапалімерных форм.

Рэканструяваны тры паточныя пераплётна-брашуровачныя лініі, цяпер пераабсталёўваем рамонтна-механічны цэх. І, вядома, робім стаўку на самую сучасную тэхналогію. Так, замест "гарачага" ўкаранёны фотанабор, для чаго ўстаноўлена электроннае абсталяванне. На ім набор праводзіцца на гнуткія магнітныя дыскі, кожны з якіх змяшчае ў сабе сорак—семдзесят старонак будучай кнігі.

У рэалізацыі гэтых і іншых праектаў непасрэдны ўдзел прынялі ветэраны працы аб'яднання — галоўны інжынер Г. Невяровіч, начальнік тэхаддзела А. Ластаўка, начальнік пераплётнага цэха С. Крэза, наборшчык фотанаборных праграміруючых машын Л. Лебедзева, мантажыст Т. Багатырова, друкары Я. Марозаў, А. Жылінскі, В. Крапіўніцкі, машыніст лініі "Колбус" А. Касцюкевіч, наладчык паліграфічнага абсталявання К. Левандоўская, пераплётчык М. Вайцешка...

У цяперашняй сітуацыі ўсё ж не забываем і пра сацыяльную сферу. Пабудаваны і функцыянуе фізкультурна-аздараўляльны комплекс са спартыўнай і трэнажорнай заламі, басейнам. На сацыяльныя патрэбы і матэрыяльныя захвочванні толькі сёлета прадугледжана больш за 15 мільярдаў рублёў.

Сталасць, прафесіяналізм калектыву даюць рэальныя вынікі. Рост аб'ёму вытворчасці за першае паўгоддзе гэтага года ў параўнанні з адпаведным леташнім перыядам склаў амаль шэсць працэнтаў. Істотна павялічыўся і сярэдні заробак. Няма сумнення, што вытворча-эканамічная дзейнасць аб'яднання будзе і далей стабільнай і яго работнікі рэгулярна будуць атрымліваць зарплату.

**Іосіф ПАЖОГА**

# ВЫБРАНЫЯ СТАРОНКІ СПАДЧЫНЫ

**Дзякуючы выдавецтву "Юнацтва" чарговым томам папоўнілася серыя "Школьная бібліятэка". Пад адной вокладкай сабраны выбраныя творы двух знакамітых пісьменнікаў, якія аднолькава належаць беларускай і польскай літаратурам. Першая "кніга ў кнізе" называецца "Зімовым вечарам", у яе ўвайшлі аповесці "Хам", асобныя апавяданні Элізы Ажэшкі. Паэмы ж, балады, вершы сусветна вядомага Адама Міцкевіча аб'яднаны назвай "Свіцязянка" — тым самым падкрэсліваецца яго сувязь з беларускай зямлёй, з любай сэрцу Наваградчынай. Усе творы тома падаюцца ў перакладзе на беларускую мову.**

# РАЗ "ДУЭЛЬ", ДВА "ДУЭЛЬ"...

**Здаецца, яшчэ не так даўно была прыхільна сустрэта кніжка пародый Анатоля Зэкава "Дуэль". Як відаць, аўтару спадабалася весці свайго роду паядынак з калегамі па пяры, а ў выніку нядаўна пабачыў свет зборнік "Дуэль-2", змест якога склалі літаратурныя пароды і мініяцюры. І ўсё ж, бадай, не будзе памылкай сказаць, што А. Зэкаву найбольш удаюцца пароды. Анатоль Мікалаевіч без асаблівай цяжкасці можа прамаўляць галасамі самых розных паэтаў. Ён парадзіруе Вялянціну Аколаву і Эдуарда Акуліна, Віктара Гардзея і Юрку Голуба, Генадзя Пашкова і Алеся Пісьмянкова, Віктара Шніпа і Паўла Шруба... Усіх і не згадаеш, бо ў кнізе змешчана больш за 60 пародый. А пабачыла свет "Дуэль-2", як і "Дуэль" першая, дзякуючы выдаўцу Міхасю Расольку, з якім А. Зэкаў на старонках зборніка таксама ўступае ў... творчую перастрэлку.**

# "СПАДЧЫНА", N 3

**Адкрываецца нумар артыкулам П. Урбана "Мова старажытных ліцвінаў". Тут жа змешчаны артыкулы С. Рудовіча "Утварэнне каардынацыйнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху ў Менску (сакавік 1917 г.)", Я. Аніўчанкі "Інкарпарацыя Беларусі ў Расійскую імперыю за Кацярынаю II". А. Лукашук у артыкуле "421 паводле Галоўліту" расказвае, як у сталінскія часы знішчаліся многія выданні, прыводзіцца і ладны спіс іх.**

**Дзякуючы Г. Запартыцы ёсць магчымасць пазнаёміцца з лістамі П. Мядзёлкі, якія выдатная дзеячка нацыянальнага Адраджэння слала на радзіму падчас працы па запрашэнню Ц. Гартнага стыльрэдактарам у выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве ў Берліне. Не менш унікальная і падборка "З рукапіснай спадчыны Тамаша Грыба" (прадмова, падрыхтоўка публікацыі і заўвагі У. Ляхоўскага). І яшчэ прыемны падарунак для тых, хто хоча лепей ведаць нацыянальную гісторыю — публікацыя асобных арты кулаў А. Цвікевіча (прадмову "Рупячыся пра беларускую дзяржаўнасць" напісаў А. Ліс).**

**У нумары таксама — артыкул У. Ляхоўскага "Футбол пад бел-чырвона-белым сцягам", старонкі "Дыярыуша аб падзеях у Польшчы" А. С. Радзівіла (пераклад і публікацыя У. Свяжынскага), агляд У. Сакалоўскага "Беларускае культурнае адраджэнне вачыма нямецкіх вучоных", іншыя матэрыялы.**

# ПОЎНІ СМЕХАМ ХАТУ

**Надзіва вясёлай, аптымістычнай і, разам з тым, у меру сур'ёзнай атрымалася кніга Рыгора Барадуліна "Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне", выпушчаная выдавецтвам "Юнацтва". Як і ў папярэдніх сваіх зборніках, адрасаваных самым маленькім — "Мех шэрых, мех белых", "Ай! Не буду! Не хачу!", "Што было б тады, калі б?", "Ці пазяхае бегемот?", "Індыкала-кудыкала", "Кобра ў торбе" і іншых — слынны паэт надзіва тонка адчувае дзіцячую псіхалогію, разумеючы, што хлопчыкі і дзяўчынкі належным чынам успрымаюць тыя творы, якія напісаны шчыра і аўтар гаворыць з імі нароўных. Ужо сам зварот: "Вершы смешныя чытай, смехам поўні хату, поўні смехам хату, слухай маму, тату" — настройвае на свайго роду гульню. А там, дзе гульня, ёсць месца ўсяму — толькі не лянуйся фантазіраваць. З новай кнігі Рыгора Іванавіча "чамучкі" даведаюцца, дзе здымае кватэру... гром, паспачуваюць дажджу, які... змок, паспяшаюцца пазнаёміцца са сланом, які вязе — падумаць толькі! — гром.**

Паэзія

## Юрка ГОЛУБ



### ПЕЧКА

**А выстыла хата нашчэнт.
Заносім звінючыя дровы.
Глядзі, як падскочыў умэнт
Агеньчык, бы каліва, дробны.**

**І будзем ля печкі сядзець,
Складаць пры агніску надзеі.
Запашаны ў шлях селядзец
Нагода пароўну падзеліць.**

**Разважліва зноўку маўчым.
Шырока агонь палыхае.
Яму не дазнацца прычын,
Чаму ўсё ж часіна ліхая.**

**На сценах у рамках падрад
Адбіткі былога настрою.
Не выгукне певень ура —
Няма яму месца на троне.**

**І сходзяцца цені здалёк,
Для іх не зачынены сені,
І шапкі здымаюць далоў,
І ціха расходзяцца цені.**

**Гаворыць агонь. І сюды
Не кожны па снезе заверне.
За намі, нябось, праз гады
Таксама зачыняцца дзверы.**

**Ну будзем, мой дружа, калець,
Хоць вецер наваліцца з ровам.
Спяшаюцца дровы. Канец.
Палаюць бясконцыя дровы.**

### МУЗЕЙ МІХАСЯ ВЕРАЦІЛЫ

*Больш за 30 гадоў з-за абыякавасці мясцовых уладаў не можа адчыніць Міхась Вераціла у г. п. Краснасельскі краязнаўчы музей з уласнаручна сабраных экспанатаў.*

**Нешта смуткам ізноў скруціла
Сярод нудных падзеек-дзей.
А пазваў бы Міхась Вераціла
Нечакана б у свой музей.**

**Там у змроку, нібыта ў шахце,
Толькі дзверы прыадчынены —
Ясняраў маланкай шахне
Аж з паднебнае вышыні.**

**І асвецяцца там стагоддзі,
І заблішча столькі дзівос,
І пачуеш, як ходзікі ходзяць, —
Не, паўшар'і варочае вось!**

**Крамянёвых часоў сякера
І падкова лапцюжных дзён
І дагэтуль яшчэ не вераць —
Даводзяцца красаць і мерыць,
Прабіваць ім шляхі наперад,
Скуль у сонцы абшар відзён.**

**...А пакуль за нямым парогам
А ні промня, а ні вакон.
Цемра дзеліць усім пароўну —
Непахісны яе закон.**

**Ды пакуль не забыўся талер
Ягамосць як, прынамсі, зваць,
У развазе ён: кім мы сталі
І маглі адпаведна стаць.**

**А пакуль у пустой газніцы
Затаіўся ў сабе агонь,
Што свяціў пры старым гасцінцы
І араць падымаў закон.**

**А пакуль што суровы одум
Вастрыём апусціў кап'ё.
Тут прыблудаў чужога роду
Нават дух не адрос куп'ём.**

**Не адна вайна скарацiла
Краю лёс у святой слязе...
Пазаві ўсё ж, Міхась Верацiла,
Будзь ласкавы, у свой музей.**

### САКРЭТЫ

**Пад халоднай кальчугай
Лёд хавае сакрэты.
Мост іх сцягвае з крэктам
Металічнай папругай.**

**На разгадку надыбаў:
Стала тайна вядомай.
Перастаў пад вадою
І маўчаў, нібы рыба.**

### НАТУРНЫЯ ЗДЫМКІ Ў 60-Х *ТРЫЦЦІХ*

### БЫЛЫ РАЙЦЭНТР

**Распусцілі раён
На паперы.
Скверу з розных старон
Коз наперла.**

**Вецер змогся гартаць
Сны кіёска
І сабакам, гультай,
Сена косіць.**

**Конь прысадзіну з'еў,
Ды замала.
Напамінак пра з'езд
Паліналы.**

**На парозе дыміць
Участковы:
Зноў карову даіць —
Злы часткова.**

**Звон царкоўны завіс.
Наваколле.
Перакрэсліўшы свіст,
Звоніць школа.**

**Дрэмле ў стоме ранет
Побач з чайнай.
Ходзіць свет, як раней,
Пад чынамі.**

**Дзед з сяброўкай гудзе:
Не паладзіў.
Нездаволены дзед.
Здаў уладу.**

### КІНАТЭАТР У МЯСТЭЧКУ

**Нашто спяшыць:
Афішны голад.
Над ім пішчыць
Гняздо на голлі.**

**Спаважны год
У першай квадры.
Ідзе народ
З кінатэатра.**

**Стаіць чарга.
У лужы — трэскі.
Маўчыць арган:
Касцёл растрэслі.**

**Пусты флагшток
У веснай гаме.
Вось толькі што
Загінуў Гамлет.**

### СВЯТА ПТУШАК

**Прамень паклаў
Далонь на грушу.
Заве плакат:
"Паможам птушкам!"**

**Як добры знак
Для паднябесся,
Шпакоўню ўзняў
Вільчак сабеса.**

**Калгас паслаў
З раллі бароны,
Нібы пасаг,
Буслам на кроне.**

**І пабліжэў
На вежы вэрхал
Слабы — ніжэй,
Гучней — наверсе.**

**Страхою крыл
Склад як накрыты,
Яшчэ б накрыць
Развал карытны.**

**Глядзіш з акон,
Хай бог бароніць,
Няма вакол
Мудрэй вароны.**

**Няма дужэй,
Няма і ўвішней.
Не спіць даўжэй,
Лятае вышай.**

**Ларок трашчыць
У дні палучак.
І кліча шчыт
На свята птушак.**

Проза

1

Не паспеў маёр міліцыі Раман Бярозка адчыніць дзверы ў свой кабінет, які дзяліў з маладым сышчыкам Зверавым, як забарабаніў тэлефон. Хоць меў ён моцныя нервы, але гэтага "звону" не выносіў. Колькі ні прасіў старшыну аддзела памяняць апарат, адказ заўсёды быў адзін: "Няма мані-мані". Раман і сам майстроў прыводзіў, каб паглядзелі ды прыглушылі гэты трэск, які нябожчыка падыме, але хлопцы таксама толькі рукамі разводзілі: што возьмеш з выробленага паўстагоддзя таму апарата?!.

— Бярозка слухае, — адрэкамендаваўся Раман і адразу пазнаў голас свайго аднакашніка і сябра Вінцука Грыневіча з упраўлення крымінальнага вышуку горада.

— Прывітанне, Раман, правільна робіш,што слухаеш, — засмяяўся Вінцук. — Хачу папярэдзіць, што да цябе выехаў рэ-ві-зор!

— І што з таго? — сказаў Раман. — Хіба ён першы на маім вяку ці апошні? Толькі чаму менавіта да мяне?

— У тым і закавыка, — пасур'ёзнеў Грыневіч. — Інспектар, можна сказаць, не просты, а тытулаваны. Яго пасылае начальнік упраўлення толькі ў самых сур'ёзных выпадках, разумееш?

— Та-ак, — як мага спакайней адказаў Бярозка, але пад сэрцам усе ж непрыемна пацягнула халадком, — тытулаваных тваё начальства выпускае на паляванне, калі трэба кагосьці пакусаць, з'есці ці спешна вылучыць на вышэйшую пасаду.

— Правільна, малайчына, яшчэ не развучыўся думаць.

— Значыцца, калі мяне на кіруючую пасаду не вылучаюць, то трэба пакусаць ці праглынуць. Вось толькі не магу здагадацца, што такое я вытварыў?

— Я і сам не ведаю, але камусьці ты перайшоў дарогу, — сцішана прагаварыў Грыневіч. — Я папярэджваю, каб з хлопцам, які прыйдзе, быў вельмі асцярожны.

— Ды ладна, Вінцук, не першы год замужам! — сядаючы ў крэсла адказаў Раман, а сам ужо пракручваў у памяці апошнія справы, якімі займаўся, і нічога прыпомніць не мог: усе яны без закавык пайшлі ў следчы камітэт. — Як жыццё? Даў но не бачыліся, — равеў Бярозка гаворку на другую тэму.

— Усё, як і раней. — паспешліва адказаў Грыневіч. — Ты выбачай, да мяне прыйшлі.

— Бывай, сябра, — толькі і паспеў сказаць Раман, як пачуліся кароткія гудкі, ён нават не паспеў падзякаваць за папярэджанне.

"Добра, хай прыязджае рэвізор, — падумаў Раман, — там даведаюся, што ад мяне трэба, каму я прышчаміў хвост".

Праз паўгадзіны Рамана выклікаў намеснік начальніка аддзела па рабоце з асабовым складам, а прасцей — былы нампаліт Кульбека.

— Знаёмцеся, — паказаў ён на хударлявага, з выцягнутым тварам і крыху прыплюснутым носам, чалавека, — падпалкоўнік Навіцкі Мікалай Сямёнавіч, прыбыў з інспекцыяй.

— Вельмі прыемна, — кіўнуў Раман і стаў чакаць, што будзе далей.

— Я хачу сказаць, што ён будзе правяраць вашу работу, — кашлянуў у кулак Кульбека.

— Работу крымінальнага вышуку ці асабіста маю?

— Толькі вашу, — нейкім ненатуральна ціхім голасам не сказаў, а нібы прашаптаў Навіцкі.

— Я павінен паведаміць непасрэднаму начальніку...

— Няма патрэбы! — рэзка перапыніў Рамана Навіцкі. — У мяне прадпісанне ад самога генерала Тоўсціка.

— Але ж маё начальства павінна ведаць, — настойліва даводзіў Бярозка. — І потым, мяне цікавіць, па якіх накірунках маёй дзейнасці вы будзеце весці праверку?

— Па ўсіх... І гэта адзначана ў прадпісанні, — умяшаўся ў гаворку Кульбека.

Сустрэўшыся з ім вачыма, Раман заўважыў радасныя агеньчыкі, якія, бы светлячкі, штоімгненна ўспыхвалі ў шэрых Кульбекавых вачах. На ягоным твары блукала ўсмешка. Бярозка зразумеў, што не апошні ў гэтай справе нампаліт. Сам ён, вядома, не мае права ўмешвацца ў аператыўна-вышуковую работу, значыцца, спатрэбіўся чалавек, які можа зрабіць тое, што трэба. І канешне, гэты падпалкоўнік з патлівымі рукамі, якія ўвесь час выцірае насоўкай, зробіць на сто працэнтаў сваю справу. Але прычым тут Кульбека? І раптам Бярозка зразумеў паводзіны нампаліта, гэтую помслівую радасць, бляск у вачах. Так, Кульбека не забыў, як ён, Бярозка, калісьці выставіў яго за дзверы свайго кабінета.

# ІНСПЕКТАРСКАЯ ПРАВЕРКА

Віктар ПРАЎДЗІН



2

Гэта было ў 1991 годзе, калі ў Беларусі пасля маскоўскіх падзей таксама забаранілі дзейнасць камуністычнай партыі. Недзе праз месяц у аддзел быў прызначаны новы нампаліт, гэта і быў былы райкомаўскі работнік Фрол Францавіч Кульбека.

На пачатку сваёй міліцэйскай дзейнасці Кульбека ніяк не мог уцяміць, чаму яму нельга ўмешвацца ў работу аператыўных служб. Яму вельмі карцела ведаць, чым там займаюцца гэтыя негаваркія хлопцы, якія ўвесь час носяць пад пінжаком пісталеты. Яму вельмі хацелася, каб і ягонае прозвішча мільгала на старонках газет, а вышэйшае начальства, не шкадуючы, прэміравала яго за раскрыццё складаных злачынстваў. Апошняе турбавала больш за ўсё: што ні кажы, а той жа Бярозка кожны месяц меў, акрамя зарплаты, яшчэ і прэміі. Кульбека для сябе засвоіў адно правіла: калі хочаш хутка авалодаць навыкамі, якіх не маеш, вучыся справе ў лепшых, глядзі, слухай, запамінай...

І ён пачаў дзейнічаць. Заходзіў у кабінет да Бярозкі і назіраў за ўсім, што той робіць, вечарамі пачаў чытаць дэтэктывы. Праўда, калі Бярозка вылятаў, як не на крылах, на чарговае злачынства, Кульбека не спяшаўся, ды й навошта было, калі пра ўсё, што там адбудзецца, ён даведаецца ад аператыўнага дзяжурнага ці тут, у кабінеце маёра, дзе той будзе весці допыт злачынцы. Але праз колькі дзён такіх назіранняў маёр Бярозка выставіў Кульбеку за дзверы, ды яшчэ прыгразіў напісаць рапарт начальству, што ён перашкаджае працаваць. Вось з тых часоў Кульбека і затаіў злосць на Бярозку.

Паступова новы нампаліт уцягнуўся ў работу і зразумеў, што ягоныя абавязкі амаль нічым не адрозніваюцца ад тых, якія ён выконваў раней, калі працаваў у райкоме: галоўнае, своечасова выкрыць хібы ў рабоце аддзела, рапартаваць начальству, а калі зусім справа дрэнь — мянці языком, бічуй самога сябе перад начальствам, абяцай выправіць становішча. Знікла і жаданне самому раскрываць злачынствы, хоць раней лічыў, што калі ён — міліцыянер, то павінен гэта рабіць. Ён цяпер ведаў, што людзей, якія не займаюцца ахоўвай правапарадку і раскрыццём злачынстваў, у міліцыі ў тры разы болей, а грошы атрымліваюць усе аднолькава. Зрабіўшы такую выснову, Кульбека расправіў крылы. Ён зразумеў, з каго трэба "здымаць стружку", хто не будзе выстаўляць яго за дзверы, хто будзе дрыжэць перад ім, як ліст на ветры.

І вось — вышэйшае начальства зацікавілася Бярозкам. Цяпер у яго, Кульбекі, пытаюцца, што маёр за чалавек, цяпер злярціць з яго пыха: бач, лепшы сышчык! Цяпер успомніць ён Кульбеку, і неаднойчы...

3

Падпалкоўнік Навіцкі папрасіў Бярозку выкласці з сейфа ўсе паперы, адчыніць шуфляды стала, даць сшыткі для службовай падрыхтоўкі. Калі сейф і шуфляды апусцелі, Навіцкі задаволена пацёр рукі.

— Ну, маёр, прыступім!

— Калі ласка, працуйце, таварыш падпалкоўнік, — хітравата ўсміхнуўся Раман. — Толькі хачу папярэдзіць, што я сёння ў аператыўнай групе. Калі што якое здарыцца, вы паедзеце са мной, каб пагледзець маю работу на практыцы...

— Не, не, — замахаў рукамі Навіцкі і ягоныя вусны пачалі расцягвацца ва ўсмешцы, ажно пакуль замест іх не засталася вузенькая, моцна сцятая палоска.

Ад такой усмешкі Раману зрабілася непрыемна, быццам дакрануўся да нечага гідкага.

— Вы, маёр, бачыце, колькі ў вас папер, — дастаючы акуляры нейк па-дзіцячы радасна піскнуў падпалкоўнік, — да вечара трэба паспець, для мяне гэта асноўная работа! — Навіцкі пляснуў далонёй па паперах і дадаў: — А вы займайцеся сваімі справамі за суседнім сталом, толькі потым, напрыканцы дня, далажыце, што напрацавалі.

Ад слоў "займайцеся за суседнім сталом" Раману стала смешна, адразу знікла хваляванне, напружанасць. "Займацца за сталом!" — у думках паўтарыў ён словы падпалкоўніка. Хіба ён бухгалтар ці сакратар-машыністка? Вось людзі, якія пішуць нам інструкцыі і рыхтуюць загады! У гэтага падпалкоўніка мысленне чыноўніка, а не аператыўнага супрацоўніка, ён, мабыць, за сваё жыццё ніводнага злачынства асабіста не разблытаў, таму і ўяўляе работу ў міліцыі "за сталом".

Старадаўні тэлефонны апарат зазвінеў так, што падпалкоўнік ажно падскочыў на крэсле. Ён адсунуў ад сябе паперы і вымучана засмяяўся:

— Ну і апарат, яго толькі ў музей крыміналістыкі!

— Я не аддаў! — беручы трубку, адказаў Бярозка. — Тут французы месяц таму на экскурсіі былі, давалі за яго сто франкаў, сказаў — падумаю.

Званіў дзяжурны па аддзеле. Бярозка моўчкі выслухаў паведамленне пра ўзброены налёт на кватэру і коратка адказаў:

— Зараз буду.

Навіцкі неяк падазрона пазіраў на Бярозку. У гэты момант стала асабліва заўважнай ягоная касавокасць, бо ў размове з начальства, з дапамогай правільна абранай паставы, павароту галавы, нават асвятлення, ён навучыўся рабіць свой дэфект зроку нябачным для субяседніка, але ў размове з падначаленымі на гэта ўвагі не звяртаў.

— Кажаце, сто франкаў? — здзіўлена перапытаў ён.

— Тры дні таму зноў тэлефанавалі з французскага пасольства, прапанавалі сто пяцьдзесят, — напусціўшы на сябе сур'ёзнасць, удакладніў Бярозка і дадаў: — Мне трэба на выезд, узброены налёт на кватэру...

— Едзьце, калі ласка, Раман Станіслававіч, едзьце, — паспешліва прагаварыў Навіцкі. — Я тут буду да вечара, гэта ж столькі трэба пералапаціць!

4

Аператыўная група працавала на месцы злачынства хутка і злаздана, ніхто ні ў кога нічога не пытаўся, кожны ведаў сваю справу. Бярозка на кухні размаўляў з пацярпелай, кідка-прыгожай жанчынай, на выгляд гадоў трыццаці. Яе зеленаватыя вочы пачырванелі ад слёз, раз-пораз нервова ўздрыгвалі вейкі, кончыкі пальцаў біла дрыготка. Відавочна, што да прыезду аператыўнай групы пацярпелая паспела прывесці сябе ў парадак, падмалёўваць вусны, вейкі. Прыгожыя белыя валасы спадалі на плечы, блакітны халат падкрэсліваў яе стройную фігуру.

— Раіса Сяргееўна, папрашу падрабязна расказаць пра ўсё, што адбылося, — аглядаючы шыкоўную кухонную мэблю з чырвонага дрэва, сказаў Бярозка.

Жанчына прыкурыла доўгую цыгарэту з залацістым фільтрам і на яе выразныя вочы навярнуліся слёзы: цяжка было нават прыгадваць пра тое, што з ёю адбылося.

— Супакойцеся, Раіса Сяргееўна, — напружана прагаварыў Раман, — мы знойдзем бандытаў, але нам патрэбна ваша дапамога.

— Пазванілі ў дзверы, — цяжка ўздыхнуўшы, загаварыла жанчына. — Калі я спытала, хто, адказалі, што прынеслі пасылку ад мужа.

— Дзе ваш муж?

— Ён камерсант і цяпер у Аўстрыі, па справах фірмы.

— Так, зразумела, і што далей?

— Я адчыніла... Не паспела і слова сказаць, як двое мужчын у масках упіхнулі мяне ў кватэру, адзін прыставіў пісталет...

Як ні трымалася жанчына, а ўсё ж усхліпнула, дзве буйныя цяжкія слязінкі выкаціліся з куточкаў вачэй і пацяклі па шчоках. Раман маўчаў, ён ведаў, што ў такіх выпадках праспяшаць чалавека — марная трата часу. З практыкі ён ведаў — калі страх у жанчыны пройдзе, калі яна зразумее, што ёй нічога не пагражае, яна разгаворыцца па-сапраўднаму, па-бабску. Вось тады толькі занатоўвай інфармацыю.

— Другі адразу палез у секцыю, дастаў шкатулку з каштоўнасцямі, потым выраваў шнур відзіка з разеткі.

— Так, добра, — падахвочваў пацярпелую Раман, — што было далей?

— Гэты, з пісталетам, звязаў мне рукі і заляпіў рот пластырам...

— Што яшчэ з каштоўных рэчаў яны забралі?

Жанчына нахмурылася, сілячыся прыгадаць, страсянула попел з цыгарэты ў попельніцу і сцішана прагаварыла:

— У чамадан яны запхнулі маё скуранное паліто, відэамагнітафон, чатыры бутэлькі каньяку, два батоны сухой каўбасы...

— Каньяк якой маркі? — удакладніў Бярозка.

— Напалеон.

Відавочна, што страх у пацярпелай праходзіў, цяпер яна пачала ўсведамляць, што магло адбыцца і горшае, на яе твары прамільгнула нешта накшталт усмешкі.

— Цяпер, калі ласка, апішыце, як яны выглядалі, — папрасіў Бярозка.

Калі жанчына "малявала" партрэт таго, хто лазіў па секцыі, даставаў шкатулку з каштоўнасцямі, прынёс з бара каньяк, Бярозка ўлавіў у яе словах пэўную заклапочанасць, адчувалася, што яна нешта недагаворвае, вагаецца.

— Вы сказалі, што налётчыкі былі ў масках? — перапытаў Раман.

— Так, — кіўнула жанчына.

— А вам нічога ў іх паводзінах не здалося падазроным? Напрыклад, той, каторы знайшоў шкатулку. Не падалося, што ён дакладна ведаў пра яе існаванне і нават месца захоўвання? А потым каньяк? Ён жа, як я зразумеў, стаяў у бары, адчыніць які не так проста, калі не ведаеш сакрэту.

— Так... — нервова сашчапіла пальцы жанчына. — Я ўвесь час пра гэта думаю.

— У вас ёсць падазрэнні? Мо злачынцы называлі сябе? Мо хто з гэтых двух падаўся знаёмым?

Бярозка адным духам выпаліў пытанні, якія турбавалі, і цяпер, гледзячы пацярпелай у вочы, чакаў адказу.

— Я не ўпэўнена, але...

— Што? — рэзка ўзвысіў голас Бярозка. Ён зразумеў: калі жанчына перадумае сказаць пра свае падазрэнні цяпер, то потым ужо не скажа. — Што, Раіса Сяргееўна, вы хацелі сказаць?

— Я не ўпэўнена, але скуранка ў таго, што шастаў па секцыі, была зацыравана на спіне, злева, пад самай лапаткай.

— І што гэта вам нагадала?

— Паўгода таму ў фірме мужа працаваў шафёрам ягоны аднакласнік Федзя Мальцаў, і мне здаецца, у яго таксама была такая ж драпіна на скуранцы.

— Вы ўпэўнены?

— Ён нас заўсёды вазіў на машыне, і я міжволі бачыла драпіну на спіне — шво было накладзена неахайна, крыжыкам.

— А што з гэтым Мальцавым здарылася?

— Муж звольніў Федзю за нейкую афёру, дакладна не ведаю, гэта іх справа...

5

Бярозка адразу прыняў рашэнне. Паведаміўшы па тэлефоне дзяжурнаму па аддзеле, ён са следчым Іванам Пракопчыкам паехаў на кватэру, дзе быў прапісаны Мальцаў. Цяпер ад хуткасці іх дзеянняў залежала, ці ўдасца па гарачых слядах затрымаць налётчыкаў, пакуль тыя не пазбавіліся ад рэчаў з абрабаванай кватэры.

Ліфт спыніўся на сёмым паверсе, з кватэры, дзе жыў Мальцаў, чулася музыка, галасы. Пракопчык запытальна паглядзеў на Рамана і шэптам прагаварыў:

— Дзверы могуць не адчыніць.

— Калі нас убачыць, то дакладна давядзецца ламаць, — пагадзіўся Бярозка. — Ты вось што, Іван, чакай тут групу захопу, а я паспрабую што-небудзь прыдумаць з суседняга пад'езда.

У сумежнай з Мальцавым кватэры жыў вайсковы палкоўнік у адстаўцы, які сітуацыю зразумеў з паўслова, нават прапанаваў дапамогу, але чым сямідзесяцігадовы ветэран мог дапамагчы? Усё роўна гэтая прапанова ўзрадавала Рамана: нячаста прапануюць міліцыі дапамогу, заўсёды даводзіцца размічваць толькі на самога сябе.

Бярозка выйшаў на балкон, агледзеўся. Балконы Мальцава і палкоўніка былі амаль усутыч, усяго метр аддзяляў іх. З расчыненых дзвярэй чулася музыка, жаночы смех. Гэта ўскладняла задачу, бо па словах пацярпелай у аднаго з бандытаў быў пісталет. У гэты момант Раман убачыў аддзелаўскую машыну, якая спынілася ў суседнім двары, хлопцаў з групы захопу, якія накіраваліся да пад'езда, дзе чакаў Пракопчык.

"Калі пачнуць званіць у дзверы, Мальцаў пацішу, крадучыся, пойдзе глядзець у вочка, — падумаў Бярозка. — Другі ў гэты момант, хутчэй за ўсё, сунецца на балкон, каб паглядзець, што робіцца ў двары, ці ёсць міліцэйскія машыны. Вось тут і трэба яго браць".

Раман скінуў плашч, пінжак і, стаўшы на парапет, зрабіў адзіны небяспечны крок, які раздзяляў балконы. Ён стаў на нейкую скрынку, потым на падлогу і сціснуўся ў чаканні за прычыненымі дзвярамі. Знізу яго ўбачылі, значыцца, перададуць па радыёстанцыі астатнім, і задача хлопцаў спросціцца. Надта доўга цягнуліся некалькі хвілін, пакуль ліфт вёз групу захопу на сёмы паверх, але нарэшце да Раманавага слыху даляцеў пераліўны званок у дзверы. Адразу музыка сціхла, у пакоі бразнулі дзверы. Чуйны слых улавіў, як хтосьці накіраваўся да балкона, праз хвіліну ў дзвярах з'явілася хударлявая постаць з пісталетам у руцэ. Яшчэ крок, і чалавек у метры ад Бярозкі стоена спрабуе непрыкметна вызірнуць на дарогу ля пад'езда. Ён цягнецца на дыбачках — уся ўвага на ўваход у пад'езд. Раман нячутна выйшаў са сваёй схованкі.

— Рукі! — рашуча, на самае вуха злачынцы, скамандаваў ён і балюча выцяў яго дулам пісталета ў бок. — Кідай зброю!

Страх працяў худое цела злачынцы, на шыі сутаргавата затузаўся коўцік, пісталет выпаў з ягоных рук.

— Рукі на парапет! — шэптам скамандаваў Бярозка і, калі дрыготкія далоні абхапілі металічны парапет, шчоўкнуў наручнікам і "прыкаваў" бандыта за адну руку. — Будзеш тузацца ці, крый божа, крыкнеш... — грозна прашаптаў маёр і шматзначна ўзняў руку з пісталетам. — Пры спробе да ўцёкаў... Чуў пра такое?

Злачынец вылузанымі ад страху вачыма глядзеў на Бярозку, яму не хапала паветра, ён хацеў нешта сказаць, але Раман прыкрыў далонёй рот. Бярозка зразумеў, што гэты налётчык будзе маўчаць. Ён адхінуў ружовую штору і ўвайшоў у пакой, трымаючы напагатове пісталет.

На канапе сядзелі дзве дзяўчыны і з жахам глядзелі на яго. Адна з іх, з ярка-рыжымі валасамі, так і застыла з бакалам шампанскага ў руцэ, не данёсшы яго да роту. Раман прыклаў палец да вуснаў і прашаптаў:

— Сядзець ціха! Дзе другі?

Дзяўчына з бакалам паказала на дзверы. Бярозка пачуў з прыхожай п'янаваты мужчынскі голас:

— Я не выклікаў ніякіх сантэхнікаў...

— А міліцыю? — ступіў у калідорчык Бярозка і навёў на Мальцава пісталет...

6

Злачынная група Мальцава "брала" на сябе каля дзесятка налётаў на кватэры, і па ўсіх гэтых злачынствах трэба было неадкладна працаваць. Толькі каля дванаццаці гадзін ночы Раман успомніў пра Навіцкага. Калі ішоў да сябе ў кабінет, ужо не спадзяваўся ўбачыць там падпалкоўніка, але той, непрыязна ўсміхаючыся, сустрэў Рамана на тым самым месцы, дзе быў раніцай.

— Ну як прайшоў дзень? — груба спытаў Навіцкі.

— Вам рапарт напісаць, ці прачытаеце ў аператыўнай зводцы? — стомлена, не хаваючы непрыязнасці, прагаварыў Бярозка.

(Працяг на стар. 12)

міжнародны фестываль у Мінску, І. Маркава запрасіла калектывы, якія і любіць, і ведае, і без якіх ні сябе, ні свайго прыватнага тэатра не ўяўляе. Усё лета Ірына дрэнчылася ў пошуках грошай. Дзяржаўнікі або афіцыйнікі перадусім пыталіся: а паводле якіх крытэрыяў адбор на ўдзел, а хто выбіраў, чаму тыя, а не гэтыя, чаму гэтулькі, а не столькі... А Маркава запрасіла сяброў. Маркавай казалі, што так не робіцца, што трэба ладзіць агляды раённыя ды гарадскія, збіраць журы, прысуджаць месцы, вызначаць пераможцаў... Ірына хітала галавой і ў кабінеты больш не вярталася. "Гэта ўсё — дзяржсістэма, якую я моцна не люблю і палюбіць не змагу. Бо не магу нават паразумецца з ёю", — скрушна зазначала. Яе крытэрый — паразуменне і сяброўства. Самы надзейны. Што пры гэтых абставінах для Ірыны Маркавай тэатр, які ствараюць самі дзеці?

— Усё досыць проста, — усміхаецца ды сур'ёзнее Маркава. — Мяне ў Мінску не надта любяць, не дужа ведаюць. Сябрую з тэатрам "Жэст", вельмі сябрую і... усё. Мінскае тэатральнае жыццё па з'явах дый па праявах таксама для мяне надта аднастайнае. Не рызыкую нават сваёй дачцы параіць глядзець нешта ў "дарослых" тэатрах. А зносіны з дзецьмі, з іхняю творчасцю для мяне — жыццё. Чысціня, парыванні, рамантызм, светлая, моцная, шчыльная энергія, — нават калі ў пастаноўцы штосьці не дабудавана рэжысёрам, дзеці апраўдаюць усё... самой сваёй прысутнасцю. Часам я развітваюся з тымі, каго прымала ў студыю сама. Разыходжуся. Бо тэатр для мяне — здольнасць учыняць нешта паводле свайго сумлення. Я не прагну сцэнічных шэдэўраў. Мне важней чалавечая — дзіцячая гармонія. Дзеці... адказваюць за дарослых. Дзеці мусяць быць здатнымі на ўчынак.

**— Ірына, а вы баіцеся дзіцячых расчараванняў? У жыцці іх пільнуюць зусім не справядлівасць ды адметная радасць зносінаў...**

— За дзесяць гадоў зносінаў з калегамі я і чула, і паўтарала: тупік, тупік! Бо мы ў тэатры гадуем асобаў,якія выломваюцца з нашай рэчаіснасці. Мо тэатр нават шкодны? Бо спрыяе ўсяму нешараговаму, а ў які тутэйшы, вызначаны шэраг гэтае нешараговае, перапрашаю, мусіць шнуравацца? Яго проста не прымуць. Калі не знішчаць. Спатканні на апошнім фестывалі (маю на ўвазе мінскі зімовы) пераканалі (а мяне пераканала і жыццё): выйсце — у веры. У самай апантанай і адданай. Я бяру дзетак у тэатр з трох гадоў. Не кожнага. Не прымушаю чытаць вершы, толькі пытаюся: што цябе хвалюе, пра што марыш, чаго хочаш? Арыентуюся і на прыстойнасць іх бацькоў. Бо толькі здаровыя карані дадуць здаровыя парасткі. Бо тэатр — гэта душа. Бо, каб выправіць знявечанае, не хопіць майго жыцця. Немагчыма ж у хуткім часе выправіць свет, дзяржаву, у тым ліку і дзяржаву Беларусь разам з людзьмі, у якіх я шукала падтрымкі ды разумення, а знайшла... тыя самыя "савецкія" позіркі, тую самую незацікаўленасць у дзецях...

**— Ірына, рэгістрацыя першага дзіцячага тэатра, як прыватнага — гэта выклік грамадзе, роспач, безвыходнасць?**

— І ганьба, і бяссэнсіца. Столькі гадоў прасіць: дайце хоць што для тэатра! Нават магнітафон нам падарыў адзін з амерыканскіх фондаў... Хай мае дзеці жывуць марай і адчуваннем свята... перспектывы. Мы ездзім на Балтыку, у Карпаты, мы — жывём, разумееце, і, дзякваць Богу, магчыма, і таму, што я своечасова зразумела: у нашай дзяржавы нічога не выпрасіш. Асабліва для дзяцей, якія не адпавядаюць... дазволенаму: ранжыру, раскладу, межам, рамкам — студыі, школы, калектыву... Для мяне вера — не адно ў Бога. Але і ў сваю ўнутраную рацыю. Трэба слухаць сябе, выпраўляць памылкі; чым хутчэй іх выправіш, тым хутчэй з'явіцца перспектыва. Калі ёсць вера — няма страху і жахлівых жыццёвых праблем. Раней я ўвесь час змагалася. Цяпер даверылася лёсу. Прыватны тэатр? Гэта таму, што мне больш нічога не заставалася. Усё спраўдзілася нібыта і без майго ўмяшання. Гэта звязана з маёй верай, з маім гараскопам і мэтаю жыцця. У 1983 мы стварылі "Ронд". У 1995 "Рондстудыя" нарадзілася нібы другі раз. Я цвёрда ведаю, што праз пэўны, вельмі акрэслены для мяне час, а менавіта праз дванаццаць гадоў у Мінску паўстане цудоўны дзіцячы тэатр. З невялічкім гатэлем і кавярняй. З рухомымі модулямі. З адметным рэпертуарам... Толькі дзяржава будзе тут ні пры чым. Бо нават наш першы міжнародны фестываль у Мінску ўратаваў Фонд Сораса. Калі паўстала яму, фестывалю, пагроза, трэба было падпісваць дамовы, прасіць, плаціць, спатрэбіліся бланкі й пячаткі... Нічога не заставалася, як толькі зарэгістраваць тэатр прыватным. Цяпер я — ягоная ўладальніца...

**— Вы правялі фестываль у Мінску, з'ездзілі ў Патсдам і зазналі там нешараговы поспех, а цяпер? Апынуліся сам-насам... з вуліцай?**

— Нядаўна мы яшчэ маглі знаходзіцца ў Палацы дзяцей і моладзі. Дарэчы, трэці блок палаца, паводле праекта, якраз — дзіцячы тэатр. Будуецца ён ужо больш за трыццаць гадоў. Пакуль жа ў палаца няма сцэны ды прытулку... не толькі для дзяцей "Рондстудыі". Адзіны пакой, дзе мы месціліся, ужо не наш, здаецца, на яго ўжо чарга... І адкрыццё, або існаванне "Рондстудыі" як тэатра прыватнага — адзінае, на маю думку, выйсце цяпер. Каб дзеці, мае рондаўцы, жылі сваім нармальным, творчым, радасным жыццём. Вядома, ягонае духоўнае напружанне вытрымліваюць не ўсе...

**З Ірынай МАРКАВАЙ**
**гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**
*Фота Аляксея МАЦЮША*

---

майстэрску будуе форму, пранікнёна і ўсхвалявана ставіцца да зместу твораў. Яна шчодра выкарыстоўвае багацейшую разнастайную палітру выканальніцкіх фарбаў. Ёй уласцівы бліскучая віртуозная тэхніка, высакародны гук, незвычайнай якасці тушэ.

Другое аддзяленне сталася сапраўдным святам выканальніцкага майстэрства, феерыяй вобразаў, фарбаў, гукаў. Гэта было свята натхнення, шчырага самавыказвання, самасцвярджэння юнага па ўзросце, але сталага па ўмельстве МАСТАКА. Аптымістычнае светаадчуванне, сонечная радасць жыцця, шчодрасць і яскравы душэўны запал адчуваліся і ў "Гарэзлівых прыпеўках". А. Друкта, і ў "Музычных малюнках Кубы" (апрацоўка М. Векслера), і ў бліскучай джазавай серыі — "Рэгтайм" С. Джопліна, "Джазавы экспромт" А. Цыганкова, "П'еса ў стылі блюз" і "Фантазія на тэмы Гершвіна з оперы "Поргі і Бэс" І. Фралова. Гэтае свята разам з Кацяй стваралі цудоўны канцэрт-майстар — дыпламант міжнароднага конкурсу Вольга Шыманская і старэйшая калега, у нядаўнім мінулым таксама вучаніца Яўгена Гладкова, дыпламант міжнародных конкурсаў Святлана Верамейчык.

Гэта было свята сучаснай нацыянальнай цымбальнай школы. Той школы, якая дасягнула неверагоднай вышыні і зацвердзілася ў наш час у айчыннай акадэмічнай выканальніцкай культуры на адным узроўні са скрыпкай, з фартэпіяна. Таму не здзіўляе захапленне патрабавальнай публікі, сярод якой было шмат вядомых музыкантаў. Дарэчы далёка не кожны знакаміты выканаўца збірае ў зале слухачоў высокага прафесійнага ўзроўню і на рэдкіх канцэртах пануе такая аднадушна высокая ацэнка выканаўцы.

Але свята не было бясхмарным. Адчуваўся нейкі смутак, білася неспакойная думка: А што далей? Якая перспектыва, які творчы лёс чакае Кацю ды іншых сённяшніх маладых, беларускіх віртуозаў? Ці хопіць у іх устойлівасці, упартасці, фізічных і духоўных сіл, каб перадолець кола тых шматлікіх праблем, якія, на жаль, вельмі актуальныя для нашай цымбальнай культуры? Тут і праблема недасканалага, канструкцыйна "недаведзенага" ў свой час інструмента, на якім ірвуцца струны, які дрэнна трымае строй, які вырабляецца на фабрыцы, як дровы, без любові, без пяшчоты. Тут і набалелая праблема рэпертуару. Хаця і нельга крыўдзіцца цымбалістам на нашых кампазітараў — усё ж такі з'яўляюцца час ад часу для іх цікавыя новыя творы, — але немагчыма параўнаць цымбальную літаратуру з рэпертуарам для тых інструментаў, для якіх пішуць кампазітары ўсяго свету.

Але, бадай, самая вострая і балючая праблема — праблема працаўладкавання тых музыкантаў, якія маюць вышэйшую прафесійную кваліфікацыю — "саліст-выканаўца". Здавалася б, такіх не шмат, але іх усё ж не мала. Хаця, хто дакладна скажа, колькі ў нас цымбалістаў — лаўрэатаў шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў? Хто падлічыў, колькі затрачана творчай энергіі, духоўных, эмацыянальных, фізічных намаганняў саміх выканаўцаў і іх настаўнікаў, каб набыць гэтае ганаровае званне? Нарэшце, колькі ўвогуле грошай вымагае падрыхтоўка музыкантаў такога ўзроўню?

Самая вялікая ў свеце каштоўнасць — мастацкі талент. А ці па-гаспадарску ставімся мы да гэтай каштоўнасці? Дзе сёння многія і многія нашы славутыя і даравітыя музыканты? Чаму так хутка забыліся мы пра Мікалая Шмелькіна і Аркадзя Астрамецкага, пра Ангеліну Ткачову і Генадзя Клімовіча? Няўжо не цікавіць нас творчы лёс Ларысы Рыдлёўскай, Вольгі Мішулы, Наталлі Кавалеўскай, Святланы Верамейчык? Гэта ж гонар і слава нашай нацыянальнай мастацкай культуры! Штогод да гэтага спіса далучаюцца новыя і новыя музыканты. Сёння гэта Кацярына Анохіна, заўтра — Міхась Лявончык. А наперадзе іншыя, пакуль ячшэ не вядомыя нам імёны...

Ці не наспеў час паклапаціцца пра іх будучыню, іх лёс на дзяржаўным узроўні, як гэта было калісьці ў далёкія 20-я гады? Ці не трэба абмеркаваць і ўсёй грамадой паспрабаваць вырашыць хаця б некаторыя балючыя праблемы? Можа, трэба брацца за гэта менавіта цяпер, калі ў рэспубліцы рыхтуецца правядзенне міжнароднага кангрэса цымбалістаў, фестывалю лепшых выканаўцаў з розных краін — пад эгідай Сусветнай цымбальнай асацыяцыі?

А пакуль... пакуль павіншуем Кацярыну Анохіну, лаўрэата рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў са ўступленнем у дарослае, прафесійнае, поўнае праблем і перамог музычнае жыццё.

**Наталля ЯКАНЮК**

---

# ПЛЕНЭР СКОНЧЫЎСЯ... НЯХАЙ ЖЫВЕ ПЛЕНЭР!

***Пленэр — гэта праца на адкрытым паветры, у адрозненне ад традыцыйнага метаду стварэння карціны ў майстэрні. Нарадзілася гэта з'ява ў Францыі ў асяроддзі мастакоў-жывапісцаў, але сёння разуменне "пленэр" трактуецца значна шырэй. Сёння пленэр для мастакоў прыблізна тое, што для літаратараў — семінар. Гэта калі група мастакоў збіраецца разам і пэўны час працуе па агульнай праграме. Прычым не толькі жывапісцы, але і графікі, скульптары ці нават... дызайнеры (хоць у дызайнераў такая сходка-фэст называецца інакш, але сутнасць — тая ж).***



*Помнік-бюст В. К. Бялыніцкага-Бірулі*

Сёлетнія вясна-лета ў Беларусі багатыя на пленэры — Берасце, Гародня, Магілёў... Вылучаецца сярод іх — апошні; выдатнай арганізацыяй і наяўнасцю канцэпцыі. Проста сабраць у адным месцы групу мастакоў і дамовіцца з імі, што яны будуць трымацца ў сваёй працы нейкай тэматыкі, а потым творы будуць набыты для мясцовага музея — не так ужо і цяжка. Былі б грошы. А вось зрабіць гэтую акцыю запамінальнай, цікавай, не толькі для непасрэдных удзельнікаў, але і для культурнай публікі — значна цяжэй.

Магілёўскі пленэр стаў падзеяй не толькі для горада і вобласці, але і для ўсёй нашай краіны. Ёсць падставы спадзявацца і на міжнародны розгалас. Жывапісны пленэр меў статус міжнароднага і быў прысвечаны памяці Вітальда Каятанавіча Бялыніцкага-Бірулі, творцы, якога без перабольшання можна назваць вялікім. Ягонае імя заслугоўвае большай пашаны і большай вядомасці, чым ёсць сёння. А рэч у тым, што ён не ўваходзіў у "афіцыйную абойму" карыфеяў сацыялістычнага рэалізму, бо ніколі не пісаў карцін, якія б можна было тлумачыць з пазіцый "класавасці" і "партыйнасці".

Вітальд Каятанавіч быў мудрым чалавекам: ён верыў не ў сацыяльную фармацыю, тую ці іншую, не ў лозунгі, штодня новыя, а ў вечную прыроду, яе нязменныя законы. За зімою ідзе вясна, за вясною — лета, восень і зноў усё спачатку...

Дазволю сабе сцвярджаць, што ў савецкі час мастака не вывучалі, а толькі пры нагодзе згадвалі. Прытым, што, бадай, у кожным прыстойным музеі на тэрыторыі былога СССР абавязкова ёсць хоць адзін ягоны твор. Пленэр яго імя безумоўна паспрыяе росту цікаўнасці да гэтай неардынарнай асобы, асэнсаванню яе месца ў гісторыі мастацтва.

Пленэр доўжыўся з 14 траўня па 9 чэрвеня. У ім бралі ўдзел дваццаць тры жывапісцы з Беларусі (Віцебск, Гародня, Гомель, Магілёў, Мінск), Летувы, Расіі, Польшчы, Сербіі, Украіны. Планаваўся ўдзел балгарскага мастака, але нешта не атрымалася. Увогуле пленэр быў у адпаведнасці з сённяшняй "інтэграцыйнай" палітыкай у асноўным "славянскім". І гэта, мяркую, было слабым месцам у цэлым удалай культурніцкай акцыі. Адчувалася, што прысутнасць двух французаў і аднаго летувіса на пленэры былі даволі выпадковымі, што іх увогуле магло і не быць. Хоць папрацавалі яны, трэба прызнацца, вельмі плённа. У будучым, ладзячы падобныя акцыі, варта не забываць пра традыцыйна добрыя стасункі і плённыя кантакты беларускіх мастакоў з калегамі з краін Балтыі — колішніх прыбалтыйскіх рэспублік Савецкага Саюза, з Малдовай; пра тое, што ў апошні час мацуюцца беларуска-германскія культурныя сувязі; што вялікі плён для Беларусі могуць мець стасункі з блізкай нам па менталітэце Паўночнай Еўропай. Славянства не павінна засланяць нам астатні свет.

Гэты пленэр меў свой, так бы мовіць, фірмовы стыль. Яго распрацаваў вядомы графік Уладзімір Васюк. Выразная эмблема прысутнічала на афіцыйных дакументах, запрашальных білетах; на праграме пленэра, якую атрымаў кожны ўдзельнік і госць; на вокладцы альбома-каталога, які знаёміў з жыццём і творчасці В. Бялыніцкага-Бірулі і з усімі ўдзельнікамі пленэра, іхняй творчасці.

Пра гэты альбом, зрэшты, трэба гаварыць асобна. Бо выданне — унікальнае, якасць — еўрапейская, паліграфія — выдатная. Калі ёсць такі альбом-каталог, пленэр застанецца ў гісторыі культуры.

На адкрыцці выступіў славуты хор "Унія", у часе пленэра адбыўся канцэрт "Віртуозаў Масквы", на закрыцці публіку парадаваў Акадэмічны народны аркестр імя Жыновіча. Былі сустрэчы з самадзейнымі калектывамі і прафесійнымі артыстамі Магілёўшчыны, чыя творчая кар'ера яшчэ толькі пачынаецца. Пленэр перарос межы чыста мастацкай (жывапіснай) з'явы, стаў чымсьці накшталт фестывалю мастацтваў.

Я — журналіст. З гэтай прычыны я ўсё бачу ў крытычным святле. Але, калі ў часе пленэра і былі нейкія збоі, недапрацоўкі — дык гэта толькі таму, што гэта ў першы раз. Я крытычна стаўлюся да любой улады, але гэтым разам я быў цалкам на баку кіраўніцтва Магілёва і вобласці. З удзячнасцю прыгадваю старшыню Магілёўскага аблвыканкома Кулічкова Аляксандра Мікалаевіча, начальніка абласнога ўпраўлення культуры Дарашкова Міхаіла Рыгоравіча, дырэктара-распараджальніка Браілоўскага Уладзіміра Веніямінавіча, ды, зрэшты, усіх, хто меў прамое ці ўскоснае дачыненне да пленэра.

9 чэрвеня, у дзень афіцыйнага закрыцця пленэра, перад музеем В. К. Бялыніцкага-Бірулі быў адкрыты помнік-бюст славутаму майстру (скульптар — Уладзімір Лятун) і выстава твораў удзельнікаў пленэра. Найбольш удалыя, на думку журы, былі адзначаны спецыяльнымі прызамі. Вызначыць лепшае было даволі складана. І не толькі па прычыне натуральнага ў гэтай сітуацыі суб'ектывізму (кожны член журы мае сваё ўласнае ўяўленне пра тое, што такое добра і што такое кепска...), але з-за адсутнасці намінацый. Так што работы прыхільнікаў традыцыйнага рэалізму (Дзмітрыя Алейніка, Міколы Аўчыннікава, Антона Бархаткова) даводзілася разглядаць разам з "памяркоўным авангардам" Мікалая Кірэева, мастака з Украіны Аляксандра Шарамета, серба Бажыдара Кавачэвіча, з прадстаўнікамі своеасаблівай жывапіснай маскоўскай школы з выразным дэкаратывізмам Рычардаса Зданавічуса з Летувы. Прывесці ўсё гэта "да адной роўніцы" — справа амаль безнадзейная...

Мяркую, што на Другім міжнародным пленэры па жывапісу будуць вызначаны намінацыі, накшталт "за развіццё рэалістычнай традыцыі", "за наватарства", "за твор, дзе найлепшым чынам выяўлены асаблівасці краявіду Магілёўшчыны", і гран-пры імя В. Бялыніцкага-Бірулі.

У наступным годзе — ягоны юбілей. Споўніцца 125 год з дня нараджэння Вітальда Каятанавіча. Зноў на ягонай радзіме збяруцца мастакі. І, я ўпэўнены, свята мастацтваў атрымаецца не горшае за сёлетняе.



*Моманты пленэра*

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## БЫЎ ВЫМУШАНЫ ПАКІНУЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНУ...

### ЯНКУ ЗАПРУДНІКУ — 70

**Янка Запруднік зарэкамендаваў сябе адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў беларускага замежжа — вядомы як вучоны-гісторык, публіцыст, крытык, паэт, не цураецца актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасці. Жывучы ў Нью-Йорку, ён пастаянна цікавіцца тым, што робіцца на радзіме і выказвае да ўсяго сваё стаўленне ў артыкулах, іншых выступленнях.**

**Нарадзіўся Я. Запруднік 9 жніўня 1926 года на Наваградчыне, у мястэчку Мір, дзе і скончыў пачатковую школу. У час Вялікай Айчыннай вайны, ратуючыся ад службы ў паліцыі, а таксама ад прымусовага вывазу ў Нямеччыну, паступіў у Баранавіцкую прагімназію, пасля вучыўся на трэцім курсе гандлёвай школы, што таксама працавала ў Баранавічах. У 1944 годзе быў вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну. У Германіі вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Далейшая дарога ляжала ў Англію, дзе працаваў на шахце.**

**Разам з сябрамі, якія разам з ім апынуліся ў Вялікабрытаніі ў гісторыю беларускага нацыянальнага руху ў замежжы ўвайшлі як "Дванаццатка", выдаваў бюлетэнь, што затым стаў часопісам "Напагатове". Спачатку ён выходзіў у Міхельсдорфе, дзе ў Я. Запрудніка засталіся сябры-аднадумцы, а пасля ў Бельгіі, у Лювене, куды Я. Запрудніка запрасілі на вучобу і ён у 1954 годзе скончыў гістарычны факультэт мясцовага універсітэта. Атрымаўшы дыплом, на працягу 37 гадоў быў супрацоўнікам беларускай рэдакцыі радыёстанцыі "Свабода" (спачатку называлася "Вызваленне").**

**Абараніў у Нью-Йоркскім універсітэце доктарскую дысертацыю па тэме "Палітычнае змаганне за Беларусь у Дзяржаўнай Думе 1906-1917 гг."**

**Пачатак літаратурнай дзейнасці Я. Запрудніка адносіцца да 1947 года. Друкаваўся ў часопісах "Наперад", "Беларускі агляд", "Беларуская моладзь", рэдагаваў газету "Бацькаўшчына". Напісаў даследчыцкую працу "Беларусь на гістарычным скрыжаванні" (1993). Вядомы і як паэт — выступае пад псеўданімам Сяргей Ясень. Добра вядомы артыкулы Я. Запрудніка па праблемах камунізму, сацыяльна-палітычнага жыцця ў розных краінах, яго пастаянна хвалююць пытанні нацыянальнай палітыкі на Беларусі, трымае ў полі свайго зроку і праблемы развіцця беларускай літаратуры.**

**Віншуем спадара Запрудніка з 70-годдзем! Зычым яму і надалей працаваць плённа і мэтанакіравана ў імя нацыянальных інтарэсаў Беларусі!**

## ПАЭТ І ПЕРАКЛАДЧЫК

### МІКОЛУ НАВІЦКАМУ — 60

**Нарадзіўся Мікола Навіцкі 10 жніўня 1936 года ў вёсцы Крапужына Лагойскага раёна. Скончыў сярэднюю школу імя Я. Купалы ў вёсцы Бяларучы. З 1954 па 1959 год вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце замежных моў, пасля выкладаў у гэтай вышэйшай навучальнай установе, з 1962 па 1963 год працаваў перакладчыкам у ГДР, а затым зноў вярнуўся ў родны інстытут, на перакладчыкі факультэт. У 1973 годзе скончыў аспірантуру, у 1975 абараніў кандыдацкую дысертацыю па нямецка-беларускіх моўных сувязях. З 1976 года М. Навіцкі загадваў кафедрай замежных моў Мінскай вышэйшай школы Міністэрства ўнутраных спраў БССР. З 1990 — дацэнт Мінскага інстытута замежных моў, цяпер Беларускага лінгвістычнага універсітэта.**

**Творчую працу М. Навіцкі пачаў з паэзіі, з першым вершам выступіў у 1960 годзе ў газеце "Магілёўская праўда". Перакладамі з нямецкай, польскай і англійскай моў займаецца з 1959 года. Найчасцей перакладае з нямецкай мовы. Дзякуючы М. Навіцкаму на беларускай мове выйшлі кнігі Г. Гофэ "Фінальны акорд" (пераклаў раман разам з В. Сёмухам), В. Корн, І. Корн "Маўр і лонданскія гракі" (разам з Лешчуном), В. Нойгаўс "Канец аперацыі "Штэрналаўф", "Матчына споведзь. Аповесць і апавяданні пісьменнікаў ГДР"... Аўтар шматлікіх перакладаў у перыёдыцы.**

**З днём нараджэння, шаноўны Мікола Паўлавіч! Няхай і надалей Вам хораша і плённа працуецца!**

# НЕ ЗАБУДЗЕМ. АБАРОНІМ. ВЫРАТУЕМ.

**Самі беларусы вінаватыя ў гэтым" (падкрэслена мною. — Л. Л.)**, (с. 112). Вось як усё проста тлумачыцца: ніякай русіфікацыі не было, бо беларусы самі не захацелі ствараць нацыянальную школу. Вінаваты народ і баста!

Дарэчы, падобнага роду абвінавачванні даводзілася чуць, прычым і ад даволі сур'ёзных навукоўцаў, на адрас беларускага народа за тое, што ён абыякава паставіўся да лёсу сваёй роднай мовы ў час майскага рэферэндуму 1995 года. Бедны народзе, ты за ўсё і ўсягды вінаваты. Такім навукоўцам хацеў бы параіць: замест таго, каб беспадстаўна абвінавачваць народ, трэба грунтоўна разабрацца ў прычынах, чаму ён зрабіў так, а не інакш. Дзіву даюся, што многія не могуць зразумець, што пры той ідэалагічнай апрацоўцы масаў, якая за некалькі месяцаў да рэферэндуму вялася зусім не на карысць беларускай мовы, наш народ выказаўся б за роўны статус з ёй не толькі рускай, але і польскай, украінскай і, чаго добрага, яшчэ якой-небудзь мовы з неславянскай групы. Усе недасведчаныя ў пытаннях этналінгвістыкі людзі не будуць бачыць бяды ў такой роўнасці, бо яны проста не ведаюць, што ў выніку паралельнага існавання дзвюх моваў на адной і той жа тэрыторыі абавязкова найменш развітая з іх павінна загінуць. Каб такое публічна сказалі беларускаму народу высокія дзяржаўныя асобы, не сумняваюся, народ зусім інакш паставіўся б да адказу на моўнае пытанне рэферэндуму.

Аднак, вернемся да вышэйпрыведзеных слоў Пятра Петрыкава. Не ведаю, як вам, дарагія чытачы, а мне ўпершыню такое даводзіцца чытаць. Шчыра прызнаюся, што за такія словы на экзаменах па гісторыі Беларусі я двойку паставіў бы не толькі студэнту, але і вучню сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Ставіць жа такую адзнаку члену-карэспандэнту АНБ не маю права, бо стаю прыступкай ніжэй за яго навуковы статус. Такое могуць зрабіць толькі акадэмікі. А вось што такі вучоны зараз адыгрывае практычна першую ролю ў распрацоўцы гістарычнай канцэпцыі энцыклапедычнага даведніка, думаю, хвалюе не толькі мяне.

Доўгагадовая праца Пятра Петрыкава на пасадах вучонага сакратара, намесніка дырэктара, дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР, сакратара парткама АН БССР выпрацавала ў яго звычкі даваць вельмі адмоўную ацэнку ўсяму таму, што не адпавядае яго ўласным поглядам. Даючы такую ацэнку, ён дужа любіць карыстацца запазычанымі з лексікі 30-х гадоў словамі. Вось яскравы доказ. Абвінавачваючы калектыў Інстытута гісторыі АНБ у многіх надуманых грахах, ён піша: "... у наш час пад яго ўплывам ажыццяўляецца татальная фальсіфікацыя не толькі ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", а і ў новых падручніках для вучняў школ, "Нарысах гісторыі Беларусі" (у 2-х частках) для студэнтаў і выкладчыкаў, многіх манаграфіях, брашурах і артыкулах. Такая дзейнасць Інстытута гісторыі АНБ як дзяржаўнай установы супярэчыць гістарычнай праўдзе, карэнным інтарэсам беларускага народа, палітыцы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь..." (с. 113).

Колькі такіх фразаў намі ўжо прачытана і яшчэ будзе прачытана ў рознага рода пасквілях, што пісала адна частка інтэлігенцыі на другую ў канцы 20-х, у 30-я гады. І дапісалася да таго, што савецкія рэпрэсіўныя органы амаль дашчэнту вынішчылі красу маладой, толькі што сфармаванай беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Проста не верыцца, што сёння ў кагосьці з нас ёсць настальгія па тых крывавых часах? Але, відаць, ёсць, бо не пісалі б, што дзейнасць акадэмічнага Інстытута гісторыі "супярэчыць карэнным інтарэсам беларускага народа, палітыцы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". З гэтага вынікае толькі адна выснова: гнаць у карак усіх гісторыкаў з акадэмічнай установы, а як надыдуць "лепшыя" часы — пад строгі суд усіх іх да аднаго!

Не дзеля якога-небудзь апраўдання, а толькі з-за жадання абараніць Ісціну заяўляю, што калектыў Інстытута гісторыі АНБ і яго кіраўнік Міхась Касцюк ніколі не выступалі і не збіраюцца выступаць супраць палітыкі Прэзідэнта краіны. Гэта найчысцейшая хлусня Пятра Петрыкава, знявага вялікага атрада навукоўцаў. Такія заявы не прыбаўляюць аўтарытэту любому чалавеку, а тым больш асобе, надзеленай высокімі навуковымі ступенямі і званнямі.

Бясспрэчна, па шэрагу прынцыпова важных пытанняў пазіцыі паасобных членаў Інстытута могуць не супадаць з поглядамі Прэзідэнта, але ў гэтым не трэба бачыць нейкую небяспеку для карэнных інтарэсаў беларускага народа. У наш час робяцца яшчэ толькі першыя крокі па стварэнні сапраўднай беларускай нацыянальнай гістарычнай навукі і таму не ўсё тое новае, што прапаноўваецца яе буйнымі спецыялістамі, адразу можа быць прынята і зразумета не толькі сярэднестатыстычным, але і больш высокага рангу чытачом. Наперадзе чакае вельмі вялікая праца па фармаванні ў беларускага народа аб'ектыўнай гістарычнай памяці, дзеля чаго давядзецца пайсці на асвятленне і падзей, што не вызначаюцца сяброўствам беларусаў з польскім, рускім ці якім-небудзь іншым суседнім нам народам. І за асвятленне такіх падзей ніяк нельга навукоўца называць паляка- і русафобам. Падобнага роду людзей у калектыве Інстытута гісторыі АНБ не знайшоў бы нават самы спрактыкаваны сышчык.

Гэтую аўтарытэтную ў рэспубліцы акадэмічную ўстанову трэба крытыкаваць не за ўяўную русафобію, надуманы нацыяналізм, а за недастаткова актыўную работу па пісьмовай і вуснай прапагандзе гістарычных ведаў сярод шырокіх колаў нашага грамадства. Праўда, тут не ўсё залежыць ад навукоўцаў. У абсалютнай большасці з іх ёсць з чым наведаць выдавецтвы ці выехаць у камандзіроўкі для ўдзелу ў навуковых дыскусіях, чытанні публічных лекцый. Але на ўсё гэта не стае фінансавых сродкаў. Нечуваны парадокс: існуе вострая, сур'ёзная патрэба ў фармаванні здаровай гістарычнай памяці народа, ёсць унікальныя рукапісы, а зрабіць іх здабыткам чытача — невырашальная праблема. Здаецца, такога парадокса не назіралася яшчэ ў аніводнай краіне, якая станавілася на шлях нацыянальнага Адраджэння. Лічу, што выданне навуковай, навукова-папулярнай гістарычнай літаратуры, дзейсная вусная прапаганда гістарычных ведаў павінны разглядацца першачарговай агульнанароднай, агульнадзяржаўнай задачай. Без яе вырашэння нам не спыніць працэсу далейшага руйнавання нацыянальных асноў беларускага народа. А такое, на вялікі жаль, у нас адбываецца. Асабліва страшэнную разбуральную працу ў гэтым напрамку праводзіць наша дэнацыяналізаваная вышэйшая і сярэднеспецыяльная школа. Як і на працягу амаль усіх сваіх папярэдніх гадоў, яна і сёння дае грамадству маладыя інтэлігентныя сілы, не здольныя несці ў руках сцяг нацыянальнага Адраджэння. Мне думаецца, што не толькі тыя, хто скрозь і паўсюдна беспадстаўна крытыкуе Інстытут гісторыі АНБ, але і некаторыя з яго супрацоўнікаў да канца не разумеюць, што гэта за зараза асіміляцыя на сучасным этапе. Па моцы ўздзеяння на народ яе аніяк нельга параўнаць з тымі асіміляцыйнымі працэсамі, якія адбываліся на нашай зямлі 100—400 гадоў таму назад. Дзяржаўныя дзеячы, вучоныя і асабліва гісторыкі нарэшце павінны былі б зразумець, што за 50 пасляваенных гадоў страты нацыянальнаму арганізму беларускага народа прычынены значна большыя, чым за ўвесь папярэдні перыяд. Калі ўсёй грамадой не выступіць супроць асіміляцыі, яна вельмі хутка праглыне гэты гаротны славянскі народ. Таму гісторыкам трэба не "русафобаў" шукаць у сваім асяроддзі, а ўсяляк аб'ядноўвацца дзеля выратавання ўласнага народа ад канчатковай дэнацыяналізацыі, якая стала непазбежным вынікам ажыццяўлення на працягу некалькіх стагоддзяў мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі паланізацыі і русіфікацыі. Дзякаваць Богу, канфрантацыя паміж гісторыкамі пакуль што яшчэ не зайшла вельмі далёка. У іх больш падстаў для аб'яднання, чым для паглыблення водападзелу. Карэнныя нацыянальныя інтарэсы беларускага народа патрабуюць ад нас супольных стваральных намаганняў. Давайце сваімі практычнымі дзеяннямі будзем спрыяць, а не перашкаджаць нацыянальнаму Адраджэнню, умацаванню дзяржаўнага суверэнітэту Бацькаўшчыны.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

# ІНСПЕКТАРСКАЯ ПРАВЕРКА

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

— Папраўдзе, я ведаю, якую групу вам пашэнціла ўзяць, — скоса пазіраючы на Рамана, зазначыў падпалкоўнік. — Калі вы не супраць, гэта я таксама адзначу ў даведцы.

— Пішыце, — абыякава згадзіўся Бярозка і стомлена сеў на крэсла, выцягнуў ногі, расслабіўся.

Гэтая пастава абурыла Навіцкага, ён усё ж вышэйшы ў званні, ды й пасаду мае, не тое, што нейкі там старэйшы інспектар раённага маштабу.

— Вы б, таварыш маёр, саблюдалі субардынацыю, — строга прамовіў Навіцкі.

— Прабачце, таварыш падпалкоўнік, але працоўны дзень скончыўся, — нягледзячы на правяраючага, буркнуў Раман. — Я прыйшоў спытаць, ці шмат у вас тут работы. Мо ўзніклі якія пытанні да мяне?

— Ды ўжо ж давялося папрацаваць! — задаволена ўсміхнуўся Навіцкі. — Вас чакаў, каб папярэдзіць пра недахопы.

— Лішняе ўсё гэта, — не мяняючы паставы, спакойна прагаварыў Бярозка. — Вы зрабілі сваю справу, пішыце, што хочаце.

— Зразумела, — устаў з-за стала Навіцкі. — Копію даведкі я прывязу вашаму кіраўніцтву.

7

Праз тры дні пасля сустрэчы Рамана з Навіцкім, у пачатку рабочага дня яго паклікаў да сябе Кульбека і адразу, не адказаўшы на прывітанне, затрос над галавой некалькімі паперкамі. Побач за сталом сядзеў Навіцкі і не глядзеў на Рамана, быццам таго тут і не было.

— Начальнік аддзела ў камандзіроўцы, таму я сам давяду гэтую непрыемнасць, што бруднай плямай пала на ўвесь аддзел. Правільна людзі кажуць: лыжка дзёгцю заўсёды спаганіць бочку мёду. Таму і ў нас — ёсць такі маёр Бярозка, якому не пісаны загады і інструкцыі міністэрства.

Раман маўчаў, разумеючы, што тут абурацца — толькі вецер ганяць. Ён нічога добрага не чакаў ад інспектарскай праверкі і быў падрыхтаваны да ўсялякага, але тое, што пачуў, выбіла яго з каляіны.

— Гэта ж трэба так парушыць рэжым сакрэтнасці! — распаляўся Кульбека. — На настольным календары пазначаны нумары міністэрскіх загадаў, сейф на момант праверкі не быў апячатаны, у сшытку для службовых заняткаў няма і паловы тэм, прапанаваных для вывучэння, выяўлены недзелавыя сувязі з замежнымі бізнесменамі — збіраўся прадаць службовы тэлефон. І самае галоўнае, вам, таварыш маёр, патрэбны ў рабоце штурхаль: пакуль не прыехаў з праверкай падпалкоўнік Навіцкі, за дзесяць дзён вы не выкрылі ніводнага злачынства, а тут адразу затрымалі групу Мальцава. Дык ці не надта дорага дзяржаве абыходзяцца такія сышчыкі? Няўжо да кожнага трэба прыстаўляць правяраючага?

— Я папрашу зачытаць вынікі праверкі, — спакойна прамовіў Бярозка.

— А вось і вынік, — зласліва ўсміхнуўся Кульбека. — Вам, таварыш маёр, надалей кіраўніцтвам Міністэрства ўнутраных спраў забаронена займацца аператыўна-вышуковай дзейнасцю.

Раман моўчкі крутнуўся і выйшаў з кабінета. Ён больш не жадаў, ды й не мог слухаць Кульбеку, ведаў і другое, што Навіцкі наўмысна там сядзіць: а раптам Бярозка сарвецца, нагаворыць абы чаго начальству, дык для гэтага і магнітафон падрыхтаваны ў шуфлядзе стала, Раман бачыў, як Навіцкі ўключаў яго.

Бярозка зайшоў у кабінет, набраў нумар тэлефона. Толькі адно цяпер цікавіла маёра — сапраўдная прычына "інспектарскай праверкі". На другім канцы доўга не здымалі трубкі. Раман зноў і зноў набіраў патрэбны нумар, пакуль не пачуў голас Грыневіча.

— Вінцук, — не вітаючыся, пачаў Бярозка, — мяне цяпер цікавіць сапраўдная прычына інспектавання.

Грыневіч нейкі час маўчаў. Маўчаў і Раман. Ён зразумеў, што сябра ведае сапраўдную прычыну і вагаецца, распавядаць ці не, бо гэта можа рыкашэтам стрэліць і па ім. Але сяброўства перасіліла.

— Раман, — сцішана прагаварыў Грыневіч, — я збіраўся пад'ехаць, але, раз склалася так, то адкажы на адно пытанне: ты тры месяцы таму затрымліваў за крадзёж запчастак пляменніка намесніка міністра?

— Было такое...

— У цябе была размова з генералам?

— Толькі па тэлефоне.

— Што ён табе сказаў?

— Ухваліў і сказаў, што кожны павінен атрымліваць па заслугах за свае ўчынкі...

— Цяпер уцяміў, адкуль ногі растуць? Ты не зразумеў намёку генерала, перадаў матэрыялы ў следства, быў суд, пляменніку ўляпілі чатыры гады. Інспектарская праверка — звядзенне рахункаў з табой... Усё зроблена, як бачыш, у рамках інструкцый і закона, так што — трымайся, папрацуеш участковым гады два-тры, а там будзе відаць...

Свет і мы

***У канцы мінулага года ў Францыі выбухнулі падзеі, якія калі не па размаху, дык па сэнсе можна параўнаць з Народным фронтам 30-х гадоў і нават з Парыжскай камунай мінулага стагоддзя. Гэтак ацаніла іх нямала французскіх палітолагаў, упэўненых, што гэта было першае ў гісторыі выступленне новага пралетарыяту — не бяднейшых, як даўней, пластоў насельніцтва, а так званага сярэдняга класа. Званы заўсёды апірышчам заходняга правапарадку, менавіта ён гэтым разам адкінуў дэмакратыю "для абраных", каб адстаяць дэмакратыю "для ўсіх".***

***Сам кантэкст падзей падводзіць да парадаксальнай высновы: а ці не быў гэта свайго роду рэцыдыў "бархатнай рэвалюцыі" ў заходнееўрапейскім варыянце? Успыхнуўшы ад апошніх іскраў перабудовы ў СССР, "бархатныя рэвалюцыі" за два-тры гады змялі вульгарныя "сацыялізмы" на ўсход ад берлінскай сцяны. Але вось па другі яе бок — хоць сцяны ўжо няма! — закіпаюць такая ж масавая незадаволенасць і сацыяльныя патрасенні. Што ж такое ў гэтым сэнсе "французскі вернісаж" — пачатак ЕЎРАПЕЙСКАЙ "бархатнай рэвалюцыі" ці яе працяг?***

# ФРАНЦУЗСКІ ВЕРНІСАЖ

## ЕЎРАПЕЙСКАЙ "БАРХАТНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ"

### СТАРЫ ПРАЛЕТАРЫЙ
### (у сямейным інтэр'еры)

З Шарлем Барберы я пазнаёміўся на адной — вельмі малалюднай — маніфестацыі салідарнасці з бастуючымі металургамі Латарынгіі. Больш чым год яны не пагаджаліся на закрыццё сваіх прадпрыемстваў — так, стратных, так, неканкурэнтназдольных, але ўсё ж прадпрыемстваў, якія кармілі сотні тысяч сем'яў. Начамі адбываліся крывавыя сутычкі з паліцыяй, будаваліся ўжо і барыкады, забастоўка пераходзіла ў паўстанне. Як ні бэсцілі металургі ўрад сацыялістаў за прыдуманую імі "рэструктурызацыю", куды болей даставалася кампартыі: у тымчасовы ўрад уваходзілі ад яе чатыры міністры — ідэальны маланкаадвод для сацыяльных навальніц! Вядома, камуністы патрабавалі "спыніць ломку нацыянальнай індустрыі", любой цаной захаваць сацыяльны статус-кво. Дзіркі ў бюджэце? Дык на тое ёсць багатыя, з якіх і трэба стрыгчы падаткі. Але асабліва яны пярэчылі супраць будаўніцтва на месцы домнаў "Дыснейлэнда" — "французскіх пралетарыяў хочуць ператварыць у разносчыкаў круасанаў!". На такую салідарнасць бастуючыя адказвалі партбілетамі — яны сотнямі ляцелі ў вогнішча.

"Я прызнаю толькі прафсаюзную барацьбу, у ФКП ніколі не быў, — гаварыў мне мой знаёмы, што прыйшоў на мітынг са сваім транспарантам. — Ды й што гэта за "партыя працоўных", якая адмовілася ад дыктатуры пралетарыяту!" — "Дык жа сам пралетарыят перамяніўся!" — "Буржуазія таксама мяняецца, аднак...", — і, павярнуўшы да мяне плакат, "дагаварыў" напісаным: "Далоў дыктатуру буржуазіі!"

Ёсць у рабочым асяроддзі такія вось філосафы, знаходлівыя на плакатную мову.

У абмен на журналісцкую візітку ён надрапаў на шматку паперы свой адрас. Будзеце ў Аразоне, заходзьце, калі ласка... Праз гады тры, аказаўшыся ў французскіх Ніжніх Альпах, я без цяжкасці знайшоў дом, у якім пасля бываў яшчэ шмат разоў.

Плакат "Далоў дыктатуру буржуазіі!" вісіць у доме на сцяне — у любую мінуту зняў ды пайшоў. Ну чаго, здавалася б, правінцыйнаму друкару хваляваცца за металургаў на другім канцы краіны! Але для Шарля салідарнасць з братамі па класе ніколі не была пустым гукам. "Якія забастоўкі бывалі ў нас пасля вайны! Усеагульныя, бестэрміновыя, нават пытання не ўзнікала аб "працэнце ўдзелу" — удзельнічалі ўсе. А цяпер? Усе асобна, толькі за сябе ўсе: металургі, друкары, машыністы, урачы... І нікога чужая барацьба не кранае! Замест салідарнасці — індывідуалізм: два-тры дні яшчэ з вамі пабастую, але ўжо тыдзень — выбачайце! Гэта нас так "грамадства спажывання" разлучыла... Адзін выплачвае растэрміноўку за аўтамабіль, другі — за дом, трэці — за халадзільнік... Паспрабуй не заплаці ў тэрмін — фінансавая паліцыя цябе самога з дома вынесе!"

Пэўна, гэта набалелае і перадуманае: Шарль з Марыяй таксама пабудавалі дом у растэрміноўку, якая доўжылася патнаццаць гадоў і скончылася, на шчасце, за месяц да таго, як яго адправілі на "датэрміновую пенсію", а яе звольнілі па "эканамічных прычынах". Першы сімптом бяды паявіўся з пераходам на 39-гадзінны працоўны тыдзень: тады гаспадар прадпрыемства звольніў адразу 65 чалавек, а 55 пакінутых прымусіў працаваць і па суботах. Так што "вызвалены час", які, як раней спадзяваліся, дасць работу і іншым, на самай справе скараціў яе. З таго часу абяцаны сацыялістамі 35-гадзінны працоўны тыдзень не тое што аптымізм — стаў выклікаць жах. Справы і сапраўды ішлі ўсё горш, і аднойчы гаспадар паклікаў сакратара прафкома Шарля Барберы: "Я гатовы дапусціць рабочых да сувалодання прадпрыемствам: ці купіце вы ад 10 да 20 працэнтаў акцый?" — "51 працэнт і ні на адну акцыю менш", — адказаў Шарль, халадзеючы ад думкі, што такім адказам закладвае свой дом, а можа, і не толькі свой. "Ну, добра, 25 працэнтаў", — сказаў гаспадар. "30, — заўпарціўся Шарль, — і ні акцыяй менш". Мне сваю зацятасць ён растлумачыў так: 51 — гэта мінімум для эфектыўнага рабочага самакіравання, 30 — апошні парог, з якога яшчэ можна заблакаваць уладальніка, а ўжо ніжэй гэтай рысы "суўладальнікам" не паказалі б нават бухгалтарскіх кніг... Усё заканамерна ішло да таго, што ў мой наступны прыезд Шарль і Марыя апісалі як "гістарычную падзею" ў іхнім жыцці: раптам сам гаспадар забрыў да іх у дом на калядную чарку. "Ну вось, — сказаў Андрэ Бражэр, — прадаю завод, і абодва мы ў дурнях. Цяпер ужо беспрацоўны і я". — "А хто купляе?" — "Ды хто ж, вядома, Рыкабона. Цяпер у ягоных руках усе друкарскія прадпрыемствы Praванса, і ўжо з вамі панібратнічаць ён не стане". І праўда, пасля новага года Шарлю пры ўсім ягоным прафсаюзным аўтарытэце давялося на пяць гадоў раней часу пайсці на пенсію з захаваннем 70 працэнтаў старога заробку, які пасля падціснулі яшчэ на 5, а Марыя і наогул патрапіла пад звальненне, якое сталася для яе беспрацоўем ужо да самай пенсіі.

"І вось з той пары, як сустракаемся з Андрэ Бражэрам на вуліцы, дык корчым адзін аднаму морды", — сказаў Шарль Барберы. І такую скорчыў морду, што памёр бы сам Фернандэль. "Усе гэтыя "народныя капіталізмы" такія ж народныя, як я капіталіст... І ўсе гэтыя камуністычныя заклікі да пралетарыяў яднацца, тады калі аб'ектыўна ўсё іх раз'ядноўвае... гэта ў філасофіі ведаеце як называецца?" Я не ведаў, і філосаф паведаміў сам: "Вернісаж!" Я не адразу датумкаў, што ў французскай мове першае значэнне гэтага слова — "лакіроўка".

...Ці не пазнаяце вы сябе ў гэтым партрэце, таварышы рабочыя слаўнай Краіны Саветаў? З той хіба розніцай, што морды корчыць даводзіцца не былому і прагарэламу прыватнаму гаспадару, а былому чырвонаму дырэктару, што сцвердзіўся ў правах гаспадара. І не ў твар, а з асцярожнасці лепш у спіну. Вось і да нас прыйшло права забастовак, права адкрытай барацьбы за свае правы. Шахцёры шумяць — металургі крыўдуюць: яны ж і нас асуджаюць на прастой!Ываліўшыся з шырокіх савецкіх штанін, мы адразу ж пазбавіліся лакіраванай рабочай салідарнасці з надпісам "ВЦСПС" на спронжцы прываднога паса. А што набылі? Цяпер у нас куча прафсаюзаў, поўная воля гаварэння з трыбун, спробы розных анпілаўцаў падняць працоўны пралетарыят на "апошні рашучы бой", які ў лепшым выпадку канчаецца мардабоямі то тут, то там. Пры гэтым грамадства нават не вельмі спачувае тым жа забаставаўшым шахцёрам, таму што яны ставяць пытанне выключна пра сябе, і гэтаксама нуль увагі бастуючым настаўнікам, якія лічацца ў нас не "пралетарыямі разумовай працы", а злашчаснай "бюджэтнай сферай", інакш — "гасударавымі людзьмі". Што ж зрабілася з намі за гады ліберальнай (непралетарскай) рэвалюцыі, якая працягвае бархатна каціцца па прасторах Расіі? Угледзімся ў іншую "бархатную рэвалюцыю", што выбухнула з Захаду.

### НОВЫ ПРАЛЕТАРЫЙ
### (у грамадскім інтэр'еры)

Сярод усіх заходніх краін у Францыі самы салідны дзяржсектар — каля 17 працэнтаў грамадскай вытворчасці: уся электраэнергія, чыгункі, авіятранспарт, тэлекамунікацыі, пошта і г.д. Як бы ні прыемна было гэта нашаму слыху, аналогіі тут няма. Пасля вайны ў французскім парламенце ішлі доўгія дэбаты, які тып уласнасці ўсталяваць у гэтым сектары: левыя стаялі за сацыялізацыю (уласнасць працоўных калектываў), правыя — за этатызацыю (уласнасць дзяржавы), а тыя сярод першых і другіх, хто мысліў цвяроза — за нацыяналізацыю (уласнасць нацыі). Гэты трэці пункт погляду і перамог. Дзяржсектар — хоць правільней трэба было б гаварыць: грамадскі, ці нацыяналізаваны, сектар — цалкам убудаваны ў рынак, жыве па ягоных законах і служыць не асобным людзям, групам, партыям, а ўсёй нацыі.

Але досыць зірнуць на стан хоць бы грамадскага транспарту, каб відочна ўбачыць заганы замкнёных карпаратыўных сістэм. У 30-я гады чыгункі Францыі (сем кампаній) перавозілі 800 мільёнаў пасажыраў — цяпер 270. З кожных 100 "пасажырскіх" франкаў аўтамабілістам дастаюцца 41 — чыгуначнікам толькі 12. Цягнікі, вядома, патрэбны, але ці патрэбная для іх ваджэння цэнтралізаваная нацыянальная кампанія са 180 тысячамі функцыянераў, за якой яшчэ 350 тысяч функцыянераў на заслужаным адпачынку? Усе яны, дарэчы, атрымалі права выхаду на пенсію ў 55 гадоў (машыністы нават у 50), у той час як для большасці мужчын краіны пенсійны ўзрост толькі нядаўна зніжаны да 60 гадоў, а жанчын — да 55. Службоўцы дзяржсектара 37 з паловай гадоў плацяць узносы, з якіх назапашваецца пенсійны фонд, работнікі ж прыватнага



*Пралетарый учора*



*Пралетарый сёння*

сектара — на 2,5 года даўжэй, цэлых 40 гадоў. Але самая трывожная дыспрапорцыя — пастаянны рост колькасці атрыманцаў на фоне няўхільнага змяншэння ўдзельнай вагі актыўнага насельніцтва. Да 2005 года суадносіна пенсіянераў і "актыўных падаткаплацельшчыкаў" складзе, па прагнозах, 1:1,22. Які бюджэт гэта вытрывае? Кіраванне фондамі сацыяльнага страхавання ажыццяўляюць разам прафсаюзы і патранат — з іх поля зроку начыста выпала больш за паўмільёна чалавек, якія не атрымліваюць аніякай медыцынскай дапамогі. Ужо адзін француз з пяці з-за матэрыяльных цяжкасцей не наведвае ўрача, адзін з чатырох не бывае ў дантыста. Адсюль і довад урада: з гэтага часу ён сам бярэцца кіраваць сістэмай сацыяльнага страхавання.

І вось у сярэдзіне лістапада мінулага года ўрад аб'явіў праграму рэарганізацыі гэтай сістэмы, намерваючыся за два гады зрэзаць усе "спецыяльныя льготы" з тых ці іншых груп насельніцтва і ліквідаваць бюджэтны дэфіцыт. Што службоўцы дзяржсектара паўстануць супраць такога рашэння — прадбачыць было няцяжка. Што на абарону іх падымецца і ўся астатняя Францыя — "Францыя без ільгот", — вот гэта вялікая нечаканасць для ўсіх. Чаму "чацвёртая Францыя", якая жыве ніжэй за сярэдні ўзровень, замест таго каб падтрымаць урад у ягоных памкненнях пароўну падзяліць пірог, паднялася на абарону чужых прывілей? Што падштурхнула два буйнейшыя прафсаюзы, ВКТ і "Форс уврыер", якія з 1946 года знаходзіліся ў адкрытай варожасці, гэтым разам аб'яднацца, а іх лідэраў — упершыню пацісн уць адно аднаму рукі? І як зразумець выбух грамадскага энтузіязму пры паведамленні, што ўрад адступіў і "дзяржаўныя чыгуначнікі", з ласкі якіх краіна на тры тыдні аказалася выбітай з каляіны, захаваюць свае льготы? Дарэчы, яны абыдуцца казне толькі сёлета ў 13 мільярдаў франкаў, праз 10 гадоў дэфіцыт, калі ўсё пусціць на самацёк, дасягне 65 мільярдаў — каму давядзецца плакаць, багатым? Але ўжо аб'яўлена аб павышэнні цэн на бензін і цыгарэты, ужо на 0,5 працэнта зніжаны дапамогі той самай "чацвёртай Францыі"... Нават у дні вострага латарынгскага крызісу, выкліканага аб'ектыўна наспелай індустрыяльнай рэструктурызацыяй, такое было немагчыма. Гэта быў яшчэ бунт старых пралетарыяў, якія так і не знайшлі шырокай грамадскай спагады... і Шарль Барберы з яго самаробным транспарантам у сваім правінцыяльным гарадку выглядаў чыстым Дон Кіхотам з мінулага. Вось чаму латарынгскі крызіс удалося ў прамым сэнсе слова "рассмактаць": 30, 40, 50 адкупных зарплат нават самых непрымірымых схілілі выйсці з прафсаюзаў і выехаць з паднятага перабудовай на дыбкі рэгіёна.

Але гэтым разам пагроза закранула палову Францыі: сваёй "сацыяльнай рэструктурызацыяй" урад задумаў ураўняць грамадскі дастатак не па верхняй, а па ніжняй нацыянальнай планцы. Узбунтаваўся "верх". Устрывожыўся "ніз". Краіна, дзе на парозе беднасці жывуць 5 мільёнаў чалавек, а яшчэ 13 мільёнаў, калі заўтра пазбавяцца дзяржаўных сацыяльных дапамог, аказаліся б адкінутымі за гэты парог, адказала бунтам такой сілы, такой згуртаванасці разнародных сацыяльных сіл, што французскі вернісаж па справядлівасці трэба прызнаць першым буйным паражэннем неаліберальнай рэвалюцыі 80-90-х гадоў.

Яна трыумфальна крочыць па планеце ўжо паўтара дзесятка гадоў, пасля таго як Рональд Рэйган у пачатку свайго прэзідэнцтва сакрушыў супраціўленне авіядыспетчараў, а Маргарэт Тэтчар — шахцёраў. Паўсюль яе каронны рэцэпт — "мінімум дзяржавы!" Бо, па гэтым рэцэпце, "сацыяльная дзяржава", якая адбірае ў адных, каб паклапаціцца аб другіх, толькі спараджае і ўвекавечвае беспрацоўе, утрыманства, адсталасць, жабрацтва. Усе "бархатныя рэвалюцыі", ад берлінскай сцяны да Масквы, даляцелі да нас на такіх крылах-ідэях, але ўжо вымушаны здзейсніць плаўны "ружовы адкат"... Па другі бок сцяны, хоць яе ўжо няма, пікам неаліберальнай рэвалюцыі стаў, несумненна, Маастрыхсцкі дагавор, па якім Заходняя Еўропа пачынае уніфікаваць свае валюты, эканамічныя і сацыяльныя сістэмы.

Ёсць два віды супраціўлення плану будаўніцтва Еўрапейскага Саюза. Нацыяналістычнае: ні пядзі дзяржаўнага суверэнітэту не аддадзім! Апазіцыя гэтага кшталту, як зазвычай, не паддаецца ні ўгаворам, ні аргументам, але складае відочную меншасць, інакш адзіная Еўропа не будавалася б. Другое супраціўленне — сацыяльнае — больш цікавае, таму што адкрытае для дыялога. Нікім не кіруемае, яно ўспыхвае само па сабе. Чаму еўрапейская фінансавая ўлада так востра накіравана на барацьбу з інфляцыяй, але росту беспрацоўя не чыніць аніякіх перашкод? Чаму ўсталяванне адзінай еўрапейскай валюты з 2002 года — яна ўжо атрымала імя: эўрас — пачынаецца з выроўнівання сістэм сацыяльнага страхавання менавіта па ніжняй планцы? І калі ў імя барацьбы з бюджэтным дэфіцытам можна прыносіць у ахвяру сацыяльныя заваёвы, дык, значыць, ёсць рызыка будаваць Еўропу па фатальным прынцыпе "грамадства дзвюх трацей": адной трэці — максімум даброт, другой — неабходны мінімум, трэцяй, маргінальнай, не трэба нават памагаць...

Што менавіта ў Францыі гэты неаліберальны рэцэпт зведаў першы зрыў, тлумачыцца, вядома, і тым, што ў яе салідны гістарычны запас нацыяналізацыі, а гэта арэшак крапчэйшы, чым дзяржаўныя ці сацыялізаваныя эканомікі "па гэты бок сцяны". Але феномен яшчэ больш складаны. У аналізе сацыёлага Мішэля Казна ён выглядае так: цяперашняе французскае грамадства на 75 працэнтаў складаецца з... пралетарыяў. Пралетарый зусім не абавязкова фігура жабрацкая і варожая капіталу. Ды і ў прынцыпе гэта характарыстыка не класавая, а канцэптуальная: **пралетарый — гэта той, хто прадае сваю працу.** З першай індустрыяльнай рэвалюцыяй (вугаль, сталь, тэкстыль) нарадзіўся рабочы клас, які з таго часу і сталі называць пралетарыятам — "сінія каўнерыкі". Ім доўга супрацьстаўлялі "белыя каўнерыкі" (другая індустрыяльная рэвалюцыя: электрычнасць, фардзізм), спрабуючы паасобныя сацыялагічныя адрозненні паміж імі выдаць за фундаментальныя класавыя. Трэцяя рэвалюцыя (аўтаматызацыя, інфарматызацыя, атам) выклікала фенаменальны рост службоўцаў, што прадаюць ужо не так фізічную, як разумовую працу, прычым пераважна ў форме паслуг, — гэты новы пралетарыят цалкам выйшаў з шыняля сярэдняга класа. А ўжо набліжаецца і чацвёртая індустрыяльная рэвалюцыя, якая спародзіць зусім новую форму продажу працы, — "працу па тэлевізары", мільёны надомнікаў. У адрозненне ад старога рабочага класа, тут амаль цалкам знікае "працоўны калектыў" — гэта раз'яднаныя пралетарыі, якіх таму і лёгка кантраляваць, што ўдалося разамкнуць іхняе сацыяльнае жыццё. Але не, аказваецца, гэта ідылія! Чым слабейшыя "прафсаюзныя сувязі" новых пралетарыяў, тым патэнцыяльна вышэйшае іх сацыяльнае адзінства. Што і вынікае з французскай пралетарскай "бархатнай рэвалюцыі", якую — упершыню ў Еўропе і на Захадзе — узначаліла "трэцяе саслоўе", ці, карыстаючыся сучасным тэрмінам, сярэдні клас.

Нам — урок: у нас жа "бархатныя" ліберальныя новаўвядзенні падарвалі сярод пралетарыяў і фізічнай, і разумовай працы нават пачатковы сярэдні клас, пакінуўшы яму асяроддзе выжывання хіба што ў сферы камерцыі. Таму як у свой час Шарль Барберы ў сябе на Захадзе, гэтак і наш пралетарый старога тыпу ў пратэсце і салідарнасці асуджаны сёння на самаробны плакат. "Ружовы адкат" — не палітычны, а сацыяльны — можа быць, першая надзея на тое, што сярэдні клас пралетарыяў у нашай краіне, у нашым грамадстве адродзіцца ці, калі больш дакладна, народзіцца ўрэшце.

**Аляксандр САБАЎ**

*("Литературная газета", 14. II. 96 N 7/ 5589/*
*Малюнкі з часопіса "Монд дзіпломацік")*

# "І ЗАЙЗДРОСЦІМ САМІМ САБЕ..."

**У нядзельную раніцу, 4 жніўня, на нашы тэлеэкраны трапіў спектакль... быццам двойчы народжаны. Бо спачатку граны ён быў, як кажуць тэлевізійнікі, "жыўцом", у наўпроставым эфіры, а потым заўважаны ды адзначаны, быў спецыяльна зняты-запісаны. Паміж першым (наўпроставым) ды другім выхадам у эфір мінула два гады (1969—1971). А потым — дваццаць пяць гадоў ад стужкі скарыстоўвалі па кавалачку, па фрагменціку, па эпізоду... Каб усё-такі паўтарыць — нам на радасць ды роздум. Каб усё-такі нагадаць — ці то імя класіка Купалы, ці то адметнасць сучаснага класіка Стральцова, ці то беражлівую ды адметную манеру абыходжання з тым і з другім рэжысёраў: тэлебачання — Вячаслава Акімушкіна, тэатра — Валерыя Раеўскага. Дый выправіць нас, гледачоў, у такой своеаблічнай кампаніі... "Па шчасце, па сонца"!**

**Спектакль падчас вылежвання ды прэм'ерных абмеркаванняў аброс толькі што не легендамі. Святлана Зямцова, ва ўступным слове перад спектаклем, адзначыла цікавую акалічнасць: у 60-я гады тэлебачанне лічылася ганаровай трыбунай. Аўтарамі ды вядучымі перадач не грэбавалі выступіць Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў... Прынцыповасці апошняга мы і абавязаны з'яўленнем спектакля паводле Купалы. "Так убачыць паэта мог толькі паэт", — высноваў Вячаслаў Акімушкін. І распавёў, як Анатоль Эфрас, паглядзеўшы тэлеспектакль ды не ведаючы хораша беларускай літаратуры, запытаўся, ці ж можна зладзіць сустрэчу з Купалам — надта ўжо адметнымі, надта надзённымі ўбачыліся знакамітаму расійскаму рэжысёру Купалавы вершы...**

**Выпраўляліся "Па шчасце, па сонца" — на здымкі — у асноўным... па начах. Гадзіны ў тры раніцы адмаўляліся рабіць стомленыя вочы, на гадзіну-другую перапыняліся, спалі хто дзе, а з пяці да сямі раніцы ізноў — "Па шчасце, па сонца". "Энтузіязм? — удакладніла вядучая. — Або таму, што ўсе заслужаныя ды народныя артысты былі тады надзвычай маладыя ды прагныя да працы?" А Вячаслаў Дзмітрыевіч распавёў, што Міхасю Стральцову былі прапанавалі рабіць другую частку спектакля — пра Купалу савецкае часіны, але Стральцоў адмовіўся і... Дзяржпрэміі спектакль (папулярны, розгаласны, выбітны) не атрымаў. Ніколі.**

**Мабыць, гэта абсалютна няважна цяпер, — дзяржпрэміі, узнагароды або знакі ўвагі за мастацкі твор. Купалавы вершы, інтэрпрэтаваныя В. Акімушкіным і В. Раеўскім (Валерый Мікалаевіч падрыхтаваў якраз той самы першы, тэатральны варыянт 1969 года, які з купалаўскай сцэны паказваць забаранілі), пададзеныя ды ўвасобленыя ў сцэнар Міхасём Стральцовым, сталіся ды засталіся і з'явай, і падзеяй тэлевізійнага тэатра. Нават узору 1996 года. Бо не стае грошай у Белтэлерадыёкампаніі нават на адзін паўнаварты спектакль у год. "Глядзім у мінулае і зайздросцім самім сабе", — выдыхнуў Вячаслаў Акімушкін і ўздыхнулі мы ля тэлеэкранаў. "Па шчасце, па сонца" выправіўшыся, ісці мусім доўга ды скрутна...**

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# "ТАЙНАЕ СПАТКАННЕ"



**Прэм'ера спектакля "Тайнае спатканне" тэатра "Жэст" адбылася на сцэне мінскага Палаца культуры прафсаюзаў. Рэжысёр тэатра Вячаслаў Іназемцаў стварыў цікавы, смелы па сцэнічным вырашэнні спектакль у стылі традыцыйнай камедыі масак. На суд гледачоў вынесена філасофскае разважанне аб шматграннасці жыцця.**

**У спектаклі заняты дзве актрысы Галіна Яроміна і Алена Сівякова, якія сродкамі пластычнай імправізацыі і танца выдатна данеслі да гледача ідэю спектакля.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Тайнае спатканне".*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*



Генадзь КІСЯЛЁЎ

# СЫРАКОМЛЯ ЦІ ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ?

## НЕВЯДОМАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПАЭМА ПРА ВАРШАЎСКІЯ ПАДЗЕІ 1861 ГОДА

*(Заканчэнне. Пачатак у № 31)*

У Коўне паэт даведаўся пра закрыццё ў Варшаве (6 красавіка) Агранамічнага таварыства, што паўсюдна і адназначна расцэньвалася перадавой грамадскасцю як наступ на апошнія элементы дэмакратыі (няхай у дадзеным выпадку шляхецкай). Абурэнне паэта імгненна вылілася ў антыцарысцкі верш "Нас усіх, сабраных разам, цар не хоча бачыць..." (у У. Мархеля фактычная аснова верша пададзена недакладна — закрыццё Таварыства, магчыма, праз нейкую памылку друку, сталася "адкрыццём"). Неўзабаве паэт атрымлівае пашпарт і выязджае ў Варшаву, але мы не ведаем, калі дагнала паэта вестка пра новую, яшчэ больш страшную разню ў польскай сталіцы — у Коўне ці ўжо пасля Коўны ў дарозе (пабоішча адбылося праз два дні пасля закрыцця Агранамічнага таварыства). Мы толькі ясна бачым, што паэт нібы прадчуваў новую навальніцу і свядома ішоў на яе.

Вядома таксама, што ў гэтай паездцы ўдзельнічаў і Дунін-Марцінкевіч. "У Варшаву прыбыў у суправаджэнні беларускага паэта Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча...",[12] — паведамляе ўжо цытаваны У. Каратынскі. Са знойдзенага У. Мархелем пісьма віленскага акцёра Баляслава Навінскага да Сыракомлі відаць, што спачатку Сыракомля выехаў адзін, а Дунін-Марцінкевіч дагнаў яго ўжо па дарозе: "...Сыракомля пакінуў Коўну 9 красавіка, а Дунін-Марцінкевіч выехаў з Вільні ажно 15 красавіка. Але калі паміж імі была папярэдняя дамоўленасць, дык затрымкі вясковага лірніка ў Сувалках і Ломжы былі звязаныя не так з хваробамі (паводле тлумачэнняў следчаму), як з чаканнем аўтара "Гапона".[13] Вельмі цікавыя і важныя для нас назіранні.

Пісьмо Навінскага, перададзенае Сыракомлю праз Дуніна-Марцінкевіча, датуецца 3 (15) красавіка 1861 года. Прайшоў роўна тыдзень пасля варшаўскай разні. І калі Сыракомля выехаў з Вільні яшчэ да гэтай новай бяды і, магчыма, не ведаў пра яе нават выязджаючы з Коўны, то Дунін-Марцінкевіч кінуўся наўздагон ужо ведаючы пра гэта. У пісьме Навінскага адлюстравалася маладая нецярплівасць далёка немаладога ўжо пісьменніка: "Прабач, што я кепска пісаў, але п. Марцінкевіч спяшаецца..."[14]

Сёння для нас ясна, што Сыракомля і Дунін-Марцінкевіч паспяшаліся ў Варшаву на весткі аб драматычных падзеях, што там адбываліся, пачынаючы з лютага 1861 года, і трапілі туды якраз у іх кульмінацыю. Вынікам гэтай паездкі была паэма "Плынуць вятры..." Напісана яна Дуніным-Марцінкевічам. За гэта гаворыць уся стылістыка паэмы — у асноўнай частцы твора вельмі бытавая, канкрэтная, характэрная для Дуніна-Марцінкевіча — эпіка па прыродзе свайго таленту. Паэт выкарыстаў вопыт сваёй нядаўняй працы як над перакладам "Пана Тадэвуша", так і над арыгінальнымі творамі эпічнага характару (асабліва ў дадзеным выпадку трэба адзначыць цыкл "Быліцы, расказы Навума", з вершаванай аповесцю "Халімон на каранацыі"). Зварот у пачатку "варшаўскай" паэмы

**Аршава! маці наша! ты польская сонца!**
**Лучы твае, палацы і сельскі аконца,**
**Вось матчына грудзь,**
**дзетак роўна ўсіх грэюць,**
**Кароне, Літве,**
**Русі светлосьць роўну сеюць —**

стылістычна вельмі падобны на высокія звароты "Пана Тадэвуша" да Літвы і Панны Марыі:

**Ты, панна!**
**што сцеражэш яснай Чанстаховы,**
**Што свеціш у Вострай Браме,**
**што горад замковы**
**Навагародскі бароніш, яго народ жылы,**
**Як мяне ты падняла, маўляў із магілы...**[15]

Ды і ў "Быліцах..." ёсць падобныя ўзнёслыя звароты, дзе пафас спалучаецца з канкрэтнымі штрыхамі:

**Ой, нямаш зямелькі, як Беларусь радзона!**
**На лугах дыванам сцелецца зялёна**
**Травіца па пояс, кветкамі мігае!**
**А лес, вось тычынка, неба падпірае!**[16]

Бачым у прыведзеным чатырохрадкоўі спецыфічнае ўжыванне слова "вось" у значэнні "нібы". Гэтая ж з'ява шырока прадстаўлена ў паэме "Плынуць вятры..." Перад намі як бы адметны лексічны "аўтограф" Беларускага дудара. Нягледзячы на трагізм калізіі, у варшаўскай паэме адчуваецца характэрны для Дуніна-Марцінкевіча налёт сентыменталізму (памяншальна-ласкальныя эпітэты, захоплена-перабольшаныя параўнанні). Элементы сатыры ў другой частцы паэмы таксама прымушаюць успомніць знакамітага нашага камедыёграфа, стваральніка "Пінскай шляхты". Вось нават французскага міністра ці каго там, прамоўцу на мірным кангрэсе, якому ў прынцыпе мусіў сімпатызаваць, не ўтрымаўся, мазнуў з'едлівай фарбай, параўнаў з надзьмутым гарбузом.

Уся стылістыка паэмы "Плынуць вятры...", выяўленчыя сродкі, мова твора гавораць за аўтарства Дуніна-Марцінкевіча. Але задумваўся твор сумесна з Сыракомлем, магчыма апошнім падказаны лірычны запеў:

**Плынуць вятры ат паўночы,**
**Засыпаюць снегам вочы;**
**Гоняць тучы алавяны,**
**Наносяць азноб паганы.**
**Тож ня ветры буравые,**
**Тож ня тучы снегавые...**

Тут іншы — шырэйшы — паэтычны "кругагляд", іншы ўзровень мастацкага сінтэзу, чым гэта было звычайна ўласціва Дуніну-Марцінкевічу. У якасці пэўнай стылістычнай паралелі хутчэй напрошваецца пачатак "Добрых весцяў" Сыракомлі:

**Заходзіць сонца пагодняга лета,**
**Веіць вецер з заходніх нябёс.**
**Здароў будзь, вецер...**

Ва ўсякім выпадку нашы паэты напярэдадні паўстання Кастуся Каліноўскага выдатна арыентаваліся ў тагачаснай "ружы вятроў" і мелі свой погляд на палітычны клімат рэгіёна.

Знойдзены тэкст паэмы "Плынуць вятры..." істотна ўзбагачае наша ўяўленне пра беларускую літаратуру XIX стагоддзя, пра творчасць і грамадскія погляды Дуніна-Марцінкевіча, пра яго сумесную з Сыракомлем паездку ў Варшаву ў красавіку 1861 года.

Гэтая паездка пакінула шматлікія сляды ў жыцці і творчасці Беларускага дудара. Аб ёй.

Вінцэнт ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ

# ПЛЫНУЦЬ ВЯТРЫ...

*ПАЭМА*

### ЧАСЬЦЬ 1-ШАЯ

**Плынуць вятры ат паўночы,**
**Засыпаюць снегам вочы;**
**Гоняць тучы алавяны,**
**Наносяць азноб паганы.**
**Тож ня ветры буравые,**
**То ж ня тучы снегавыя —**
**Маскоўска то сіла валіць,**
**Марозом, вось прыском, смаліць,**
**Чаго ж яна закіпела?**
**— У Аршаву поляцела,**
**С гарматамі, со стрэльбамі,**
**Чы ваюваць с палякамі?**

### I

**Аршава! маці наша! ты польская сонца!**
**Лучы тваі, палацы і сельскі аконца,**
**Вось матчына грудзь,**
**дзетак роўно ўсіх грэюць,**
**Кароне, Літве,**
**Русі светлосьць роўну сеюць.**
**Як зорачка ясненька, вось краска прыгожа!**
**Што з табою зрабілі? на што ты пахожа?**
**Гдзе твой гоман вясёлы? гдзе голас пявучы?**
**Над табою стаўпілісь грамавыя тучы...**
**Глянеш цяпер на цябе —**
**вось у пекле чорна,**
**Цёмна ў душы —**
**на сэрцу кажнаму ня здорна,**
**Маўляў, сажай, пакрыта бедна твая ніва,**
**Чагож ты дажылася, маці няшчасліва!**

### II

**На Кракоўскім прэдмесці[1] лік божыя маці**
**У краскі, агні стройны — вось образ у хаці;**
**Цудоўная то пані, кажуць добры людзе,**
**Хто яе шчыра просіў, той ласкі дабудзе.**
**Пад хвігуру стаўпяцца, маўляў куранята,**
**Пад крылля чуткай маткі: жыды і панята,**
**Мужычкі, дзеці, старцы, панны і кабеты,**
**Усі смешаліся і чыняць святые абеты:**
**Кажыся, сабраліся дзеткі ў грамадцэ**
**Памаліцца**
**і дабраноц родненькай даць матцэ.**

### III

**Чы распаролісь тучы і гразу крававу**
**Хлынулі с пярунамі на бедну Аршаву,**
**Чы маланка грамадзе вочы выпекае,**
**Не... то маскаль па своему у месце гуляе—**
**Бывала ў старыну (дзяды так казалі),**
**Калі нехрысты зямлю нашу ваявалі,**
**Усяк бывала, — с дабыткам,**
**хлопцаў і дзяўчаты**
**Палонілі, штоб выкуп браць за ніх багаты,**
**Да людзей пры малітве стрэльбой**
**не глумілі,**
**Вобразы шанавалі, крыжоў не рубілі,**
**Глядзь жэ маскаль што робіць!..**
**а ён хрысціянін**
**Горш здзекуецца ў Польшчы,**
**як ліхі паганін.**

### IV

**Палядзь, чалядка божа, стоя на каленах**
**Без ружніцы ў атласах, чы ў ліхіх пяленах,**
**Жыды, паны, мужычкі —**
**усі смяшаліcь разам,**
**У адзін голас**
**прэд Маткі гасподняй абразэм,**
**Спеваюць "Святы Божэ,**
**Святы нясмяртэльны!" —**
**На перадзе Дабрадзей дзержыць**
**крыж касцельны —**
**Ні каменчыка ў руках нікто не трымае —**
**А маскаль, вось з завугла да ўрага, стрэляе,**
**Рубіць, коле грамадку — кроў ракою льецца,**
**Там казак на каню с петлею нясецца,**
**Гдзе ўпадне чалавек, як сабаку трочыць,**
**Жыў, чы мёртвы,**
**беднага на замак[2] валочыць,**
**Голова па каменях гудзе, вось у рогу,**
**Мазгі брызжуць на палацы,**
**кроў значыць дарогу.**

### V

**Там ідзе бацька з дочкай —**
**то краска прыгожа!**
**Ледзь пачала расцветаць —**
**вось у пучку рожа —**
**Куля яе трапіла ў руку — бедна млее,**
**Бацька з жаласці дочкі падняць не паспее,**
**Аж чатырох казакоў стралой прыскакалі,**
**Бедненькую дзіцятку на петлю узялі.**
**Бацька да ног паганьцам —**
**крый Бог як галосіць!**
**Кінуў мяшок з грашыма, дый —**
**"нярушце" — просіць.**
**Гдзе там! мяшок паднялі, а бацьку забілі,**
**Пасьля абоіх разэм у замак паташчылі —**
**Тут дзетачак маленькіх колюць,**
**там страляюць**
**Кабет, тутка адзежу чорную[3] здзіраюць,**
**Далей чысцяць кяшэні — мяшочкі, загаркі,**
**Вось сваі, на гарэлку грабяць для шынкаркі.**

### VI

**На перадзе грамадкі, што малілася Богу,**
**У серэдзіне ксёндз**
**с крыжам загачыў дарогу,**
**Ня чураецца смерці —**
**к небу падняў зрэнкі,**
**Слёзы бараздзяць шчокі, а голас старэнькі**
**Зноўку вядзе малітву, як абычай кажэ,**
**Ня зважае на стрэльбы і пікі ўражэ.**
**Толька як у суседзтва хто ўпадзе з грамады,**
**Ляўшою крыж моцна іме, правай дае рады,**
**Штоб на той свет дарогу**
**ўпратаць шчасьліву**
**На разгрэшэня руку ўжыме літасьціва.**

### VII

**Ня марская то ваўна зямлю націскае,**
**Ня саранча дар божы на полі змятае,**
**Гэта маскоўскі заступ на канях гарачых.**
**Усе ў сініх мундзірах у шапках блісьцячых,**
**С верху шапкі хвост коньскі**
**вецяр развеваець —** [4]
**Кажон страшэнну шаблю**
**у руцэ трымаець —**
**Рэжэць, каго папала, наносіць травогу**
**Меж людзей, што пакойна молюцца**
**там Богу.**
**Каго ня сваліць шабля, таго топчуць коні.**
**Найперш ксяндза срубілі,**
**што крыж у д<а>лоні**
**Трымаў сільной рукою —**
**ўвесь кроўю абліўся,**
**Як срублена тапаля, к зямлі пахіліўся,**
**І крыж с нім пахінуўся.**
**Тут падскочыў смелы**
**Навакоўскі, хваціў крыж — глядзь! —**
**у рубцах цэлы,**
**Грэшны рукі пасмелі на Бога падняцца:**
**І той Хрыстом ня паспеў доўга любавацца,**

успаміналася на допытах пасля арышту пісьменніка ў 1864 годзе. Праўда, Дунін-Марцінкевіч, натуральна, выказваўся пра гэта ў выгадным для сябе святле: "Кроме того, в 1861 году он ездил два раза на короткое время в Варшаву: в первый раз с целью навестить обучающегося в музыкальном институте сына своего Мирослава и обязать яго клятвою не участвовать в мятеже и вскоре затем для встречи и сопровождения возвращавшейся из-за границы графини Грабовской..."[17]

Думаецца, што трывога за сына сапраўды была важным дадатковым стымулам, каб кінуцца стрымгалоў у бунтоўную Варшаву.

Але асталіся памяткі і іншага, творчага плана. Якраз 20 красавіка (2 мая) 1861 года Ю. Крашэўскі апублікаваў у сваёй "Газэце Польскай" адкрыты ліст Навума Прыгаворкі, у якім наш пісьменнік спрабаваў растлумачыць высокі грамадскі сэнс сваёй творчасці, накіраванай на асвету беларускага народа.

У польскай сталіцы Дунін-Марцінкевіч сустракаўся таксама з літоўскім пісьменнікам М. Акялайцісам. Не даводзіцца сумнявацца, што і Акялайціс быў падхоплены той жа віхурай, што і беларускія пісьменнікі. Пад яго рэцэнзіяй на марцінкевічаўскі пераклад "Пана Тадэвуша" стаіць паметка: "У Варшаве, 27 красавіка 1861 г.".[18] Рэцэнзія таксама, па ўсім відаць, прызначалася для "Газэты Польскай", але ў друк прабіцца тады не здолела, магчыма якраз з-за пэўных палітычных акцэнтаў.

Несумненна, у красавіцкай Варшаве 1861 года адбылося шмат іншых важных для Беларускага дудара сустрэч, кантактаў, ён атрымаў шмат моцных разнастайных імпульсаў.

Цяпер мы ведаем, што варшаўская паездка натхніла Дуніна-Марцінкевіча на твор высокага грамадскага гучання — паэму "Плынуць вятры..." Невядома толькі, ці паспеў пісьменнік скончыць яе. Узнёслы мастацкі пратэст супраць злачынстваў царызму ў рукапісным выглядзе быў знаёмы тагачаснай грамадскасці. Паэма трапіла да пецярбургскага студэнта Л. Кульчыцкага, які акуратна і ўпэўнена, амаль без памылак (знаў-такі беларускую мову) перапісаў і тым самым захаваў для нас яе вялікія фрагменты.

Шляхоў, якімі трапіла паэма да Кульчыцкага, мы не ведаем. Магчыма, праз яго прыяцеля і калегу Вішнеўскага, які паходзіў з Вільні (згадваецца ў дзённіку Кульчыцкага). А з выяўленага нядаўна Я. Янушкевічам пісьма Дуніна-Марцінкевіча да Я. Карловіча стала вядома, што Беларускі дудар меў у Вільні блізкага сябра Аляксея Вішнеўскага ("які жыве ў доме біскупа Красінскага"), наш пісьменнік давяраў яму рукапісы сваіх недрукаваных твораў і вельмі даражыў ягонай думкай.[19] Яшчэ ў 1859 годзе "Алексы Вішнеўскі" падпісаўся на марцінкевічаўскі пераклад "Пана Тадэвіша".[20] Адзін з Вішнеўскіх (ці не той самы?) прымаў дзейсны ўдзел у пахаванні Сыракомлі.[21] Можна спадзявацца, што з цягам часу мы больш даведаемся пра шчырага аматара беларушчыны Вішнеўскага, сябру Дуніна-Марцінкевіча. Не выключана, што ў выніку гісторыка-літаратурных пошукаў будуць выяўлены і іншыя — магчыма, больш поўныя — спісы паэмы "Плынуць вятры..."

Новая знаходка прымушае ўспомніць таксама даўнюю спрэчку пра аўтарства вядомай беларускай антыцарысцкай брашуры таго часу "Гутарка старога дзеда". Адны, як вядома, прыпісваюць яе Дуніну-Марцінкевічу, другія В. Каратынскаму, кожны бок прыводзіць важкія аргументы. Версію пра аўтарства Дуніна-Марцінкевіча падтрымаў не так даўно польскі даследчык У. Вільчынскі. Якраз адным з дадатковых аргументаў для яго была сумесная паездка Сыракомлі і Дуніна-Марцінкевіча ў Варшаву, што гаварыла аб далучанасці Беларускага дудара да тагачасных палітычных бураў.[22] Думаецца, што ўвядзенне ў навуковы ўжытак і атрыбуцыя новага твора, звязанага з гэтай паездкай, — твора вельмі, так бы мовіць, "марцінкевічаўскага" і ў той жа час адкрыта палітычнага — яшчэ больш узмацняе аргументацыю Вільчынскага.

Вось, бадай, і ўсе нашы папярэднія заўвагі. Упэўнены, што пра новы, невядомы дагэтуль твор Дуніна-Марцінкевіча яшчэ скажуць сваё слова даследчыкі многіх гуманітарных спецыяльнасцей, найперш гісторыкі літаратуры і мовазнаўцы. Галоўную нашу задачу мы бачым цяпер у самой публікацыі твора.

Тэкст паэмы друкуецца з захаваннем асаблівасцей мовы і арфаграфіі арыгінала, там-сям папраўлены толькі яўныя апіскі і ўпарадкавана пунктуацыя.

---

*[12] Тамсама; Кісялёў Г.В. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча: Спроба навуковай сістэматызацыі дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988. С. 123.*

*[13] Мархель У. І. Назв. твор. С. 56.*

*[14] Мархель У. Крыніцы памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа. Мн., 1990. С. 55.*

*[15] Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мн., 1984. С. 429.*

*[16] Тамсама. С. 346.*

*[17] Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 148.*

*[18] Тамсама. С. 141.*

*[19] Лісты В. Дуніна-Марцінкевіча да Я. Карловіча // Янушкевіч Я. Беларускі дудар. Мн., 1991. С. 121—125.*

*[20] Спіс падпісчыкаў // Дунін-Марцінкевіч В. Творы. С. 522.*

*[21] Кісялёў Г. Рэдкі дакумент: Развітанне з Сыракомлем // Шляхам гадоў. Мн., 1994. (Вып. 4) С. 182—183.*

*[22] Wilczynski W. Syrokomla a literatury wschodnioslowianskie // Studia polono-slavica-orientalia. Acta literaria III. Wroclaw etc., 1976. S. 87.*

**Яго на зем свалілі — палядзь!....**
**цуд гатовы:**
**У абароне крыжа стаў чалавек новы,**
**Жыдок — чуліж вы гэта, добры хрысціяне?**
**Тож маскалі горшые ад жыдоў пагане?**
**Ляндэ яму прозвішча — у страшэнну пору**
**Хваціў крыж у обе рукі, падняў яго ў гору,**
**Каліб добрые людзе бачылі то дзіва,**
**Богу хіба прыці магла мысць така шчасліва;**
**Відаць, хацеў,**
**штоб цэлы с<в>ят падзіваваўся,**
**Што маскаль ат нехрыста горшым**
**паказаўся.**
**Застрэлілі і яго — упаў — да лік божы**
**Накрыў сабой —**
**па сьмерці штоб быць на старожы.**

VIII

**Так маскалі гулялі па беднай Аршаве.**
**За штож яны рэзалі людзей —**
**у якой справе**
**Народ ім правініўся? за што хрысціянскі**
**Цар вялеў здзекавацца,**
**вось турак паганьскі?**
**Паляк то першы сільна пачаў наклікацца,**
**Што, бач, пара мужычку**
**з вольнасцю спазнацца,**
**І як Гасподзь за людзей**
**на крыж атдаў рукі,**
**Паляк за нас ахвотно прыняў**
**страшны мукі,**
**За нас церпіць крыж паньскі —**
**за веру, свабоду.**
**Разказаць папытаю вам таку прыгоду. —**

ЧАСЬЦЬ 2-Я

*Як паслаўся*
*Так праспаўся!*
*— Круці ня вярці,*
*А трэба ўмярці! —*

**Назад таму дзесяць лет,**
**Загневаўся цэлы свет**
**На Маскоўскага Цара,[5]**
**Што ён вельмі пышны стаў,**
**Усім паднос панам ківаў,**
**Тож уняць яго пара!**

**Французоў Цар Напалён [6]**
**Крыкнуў на сваіх "гулён"!**
**Машыр Турку памагаць!**
**С німжэ замарскі паны,**
**Што іх клічуць брытаны —**
**Пашлі Маскву ваюваць. [7]**

**Цар Маскоўскі аж пацеў,**
**Сваго войска ня жалеў.**
**Гдзеж дурному вясці бой?**
**Ідзі лепш лапці пляці,**
**За дур жыцём заплаці,**
**Потрас, брат, мяшок свой!**

**По нім сын головорэз**
**На трон маскоўскі узлез, [8]**
**Стаў кланяцца французу**
**"Муй лебедзька дарагі!**
**Прабач бацькавы грэхі,**
**Што хочэш, усё зраблю!"**

**І сабраліся стары**
**Са ўсіх земель пісары,**
**Пашлі міру вясьці лад; [9]**
**Нуж маскалю дапякаць,**
**Нуж пальцамі пад нос ківаць.**
**Ой не вельмі быў ён рад!**

**Найперш стаў казаць француз,**
**Надуўшыся, як гарбуз —**
**Рукой грозіць, кулаком,**
**Аж затроссяя маскалюк,**
**Вось асінавы лісток,**
**Валасы аж сталі дыбом. —**

**"Уся ваша чыноўна знаць,**
**Звыкла народ абдзіраць,**
**Які ваш закон да суд?**
**Хто мае грошы, той праў,**
**Хоць абдзіраў, хаця краў,**
**Чэсьць ваша — то гной, то бруд".**

**Публікацыя і заўвагі**
**Генадзя КІСЯЛЁВА**

---

*[1] Кракаўскае прадмесце — адзін з цэнтральных раёнаў Варшавы.*

*[2] У той час галоўная рэзідэнцыя царскіх улад у Варшаве.*

*[3] Відаць, маецца на ўвазе жалобнае адзенне. Нашэнне жалобы ў Польшчы ў той час лічылася формай пратэсту супраць злачынстваў царызму і таму ўладамі забаранялася.*

*[4] Так, мабыць, выглядалі конныя жандары.*

*[5] Мікалай І.*

*[6] Французскі імператар Напалеон ІІІ.*

*[7] Пачатак Крымскай вайны ў 1853 г.*

*[8] Пасля смерці Мікалая І (1855) на расійскі прастол уступіў яго сын Аляксандр ІІ.*

*[9] У 1856 г. у Парыжы на кангрэсе прадстаўнікоў Расіі, Францыі, Англіі, Турцыі і некаторых іншых краін былі выпрацаваны ўмовы міру пасля Крымскай вайны.*

Памяць

# РАЗГУБЛЕНАСЦЬ?

Кампазітараў увогуле не многа. Цікавых для гісторыі — яшчэ меней. А ў памяці людской застаюцца адзінкі. Уладзімір Алоўнікаў у нас — адзін, са сваім непаўторным лёсам і ўжо даўно хрэстаматыйнай творчасцю. Народны артыст Беларусі. Педагог, прафесар, актыўны грамадскі дзеяч, вядомы сваім грунтоўным жыццёвым і прафесійным досведам, суровым характарам і паслядоўнай прынцыповасцю. Ветэран-артылерыст (выхаванец перадваеннага выпуску кансерваторыі, неўзабаве пасля атрымання дыплома кампазітара добраахвотна пайшоў на фронт). Ганаровы грамадзянін горада-героя Мінска.

Ён аўтар адметных твораў, сярод якіх нямала добрых песень. "Ой, бярозы ды сосны" ("Лясная песня"), напрыклад, многімі ўспрымаецца як народная. "Радзіма, мая дарагая" гучыць як сапраўдны лірычны гімн, сама ж яе мелодыя зрабілася музычнымі пазыўнымі Беларусі, і толькі асабістае "вета" У. Алоўнікава перашкодзіла ўдзелу гэтай усім вядомай цудоўнай песні ў колішнім конкурсе на Дзяржаўны гімн. А яшчэ ён выхаваў выдатнага сына — таленавітага рознабаковага музыканта, заслужанага артыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, прафесара Ігара Алоўнікава...



Уладзімір Уладзіміравіч доўга і цяжка хварэў. Але рэдкасная мужнасць і воля да жыцця дазвалялі яму не проста трымацца за гэты свет, а і цікавіцца самымі рознымі праблемамі. Апошнім часам мы не бачыліся. (Дактары не дазволілі Уладзіміру Уладзіміравічу нават прысутнічаць на аўтарскім канцэрце, зладжаным у гонар 75-годдзя кампазітара). Затое ён даволі часта тэлефанаваў. З нагоды прачытанага ў "ЛіМе" наш старэйшы падпісчык У. Алоўнікаў мог штосьці параіць, удакладніць, або выказаць прынцыповую нязгоду, або добрым словам ухваліць, падтрымаць. Падзякаваць. Мог і падказаць тэму для будучай публікацыі, і паведаміць самую свежую навіну з жыцця музычнага...

Яго пахавалі ў мінулую пятніцу. Пра паніхіду людзі даведаліся выпадкова. Бо афіцыйны некралог у рэспубліканскім друку чамусьці не з'явіўся. За мае амаль два дзесяткі гадоў журналісцкай працы выпадак такога "нецывілізаванага" стаўлення да выдатнай асобы — першы.

Скончылася пакутнае зямное жыццё чалавека, ды яго беспрытульная збалелая душа пакуль яшчэ тут, недзе зусім побач. Не будзем рабіць ёй лішняга болю, памаўчым, памянем светлай думкай... Так, Закон, які ўнутры нас, не дазваляе зараз ні голасна абурацца, ні шукаць прычыны гэткай... няўвагі. І ўсё ж — адкуль яна раптам, гэткая няўвага? Ад разгубленасці? Разгубіліся ў вядомай жыццёвай сітуацыі? Ці проста разгубілі сябе, разгубілі тое, чым вызначаюцца-родняцца ў самых розных сітуацыях самыя розныя людзі — нармальныя людзі, цывілізаваныя грамадзяне? Хіба мала было ў Алоўнікава заслуг перад народам і дзяржавай, каб ужо ў мінулую сераду афіцыйна абвясціць краіне пра тое, што спынілася сэрца аднаго са старэйшых дзеячаў беларускай культуры, асобы гістарычнай, сапраўднага патрыёта і музыканта?..

У тую сераду, 31 ліпеня, пры канцы дня пачула: "Алоўнікаў памёр — ведаеце, канечне? Як — не?! Ноччу..." Аказалася, "Музычны канал" радыё пра гэта некалькімі словамі паведаміў. А што ж афіцыйная служба? 31-га я "лавіла" выпускі вячэрніх навінаў па радыё і БТ, сачыла за эфірам 1-га, 2-га і нават 3-га і 4-га жніўня. Чула бадзёрыя галасы дыктараў, бачыла ўсмешлівыя вочы вядучых "Панарамы", твары заклапочаных палітыкаў, ушанаваных "афганцаў", замежных дыпламатаў, хлабаробаў, алімпійцаў, герояў рэкламных відэакліпаў. Я спадзявалася, што "Панарама", колькі часу таму паведаміўшы пра смерць у сочынскім санаторыі вядомага савецкага кампазітара М. Тарывердзіева, хаця б са спазненнем паведаміць, што Беларусь развіталася са сваім выдатным сынам — Уладзімірам Уладзіміравічам Алоўнікавым.

Ды, відаць, тыя, хто мусіў давесці гэтую навіну да эфіру, разгубіліся. Відаць, ад разгубленасці не давялі да ведама афіцыйных асобаў, што трэба было аддаць маральны доўг кампазітару і хаця б праз друк выказаць спачуванне ягонай сям'і...

Хай даруе нам, грэшным, Бог. І хай прыме ён душу Музыканта, які памяць пра сябе на зямлі пакінуў у добрай песні. І таму невыкананне пэўных пратакольных фармальнасцяў падаецца ўрэшце драбязою, бо думаеш: як высока і яшчэ пры жыцці ўзнёсся помнік Уладзіміру Уладзіміравічу Алоўнікаву! Помнік непарушны, нерукатворны.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

Пошта

# І ПАЕДЗЕМ, ПАІМЧЫМСЯ...

Нярэдка можна чуць: колькі часу ўжо вядуцца размовы пра тое, што нашай хворай эканоміцы без замежных інвестыцый не падняцца. Па гэтым пытанні неаднойчы праводзіліся "круглыя сталы", розныя сімпозіумы, нарэшце адбыўся з'езд дзелавых колаў. А справа наперад не рухаецца.

Чаму ж не рухаецца? Рухаецца. І прыклад таму завод легкавых аўтамабіляў, які будзе ўзводзіцца, ужо ўзводзіцца, пад Мінскам з дапамогай амерыканцаў фордаўцаў, сусветна вядомых аўтамабілебудаўнікоў.

Гавораць, не з таго пачалі, маўляў, найбольш мэтазгодна найперш развіваць малы і сярэдні бізнес, бо гэта хутчэй прынясе жаданыя вынікі. Можа, і так. Але што нам, выхаваным на камуністычных ідэалах, разменьвацца на дробязі, падавай нам гіганты і гмахі, на меншае мы не згодны. Менавіта былыя генсекі заўсёды пакідалі пасля сябе штосьці вялікае — новыя гарады, гіганцкія каналы, рукатворныя моры, паўсюднае ўкараненне кукурузы і многае іншае. А чаму гэтага нельга прэзідэнту? Таму ў добры шлях, слаўная новабудоўля. Асабліва калі ўлічыць, што якраз тое і ёсць, чаго недастае нашаму сённяшняму жыццю. Можа, гэты гігант з'явіцца тым рычагом, з дапамогай якога і будзем выкарабквацца з крызіснай ямы.

Трэба думаць, пройдзе не шмат часу — амерыканцы людзі дзелавыя і даўгабуда не дапусцяць — і побач з вядомымі МАЗамі і БелАЗамі заззяюць і арыгінальныя беларускія мікрааўтобусы і легкавушкі. (Пакуль безыменныя, бо ў эмбрыяльным стане дзяцей не хрысцяць). І паедзем, і паімчымся на ўласных суверэнных транспартных сродках, пабудаваных па апошняму слову навукі і тэхнікі, і, зразумела, з супердызайнам. Хай зайздросцяць блізкія і далёкія суседзі, сябры і несябры.

Толькі вось незадача: дзе гарантыя таго, што з нашымі першынцамі не здарыцца тое, што здарылася ў свой час са знакамітымі "масквічамі" і "жыгулямі". Як ні дзіўна, чамусьці людзі сёння гоняцца не за імі, а аддаюць перавагу "забугорнаму ламаччу", як гэта можна бачыць на вуліцах і дарогах рэспублікі.

А можа, апасенні дарэмныя. З дапамогай разнастайных вертыкаляў, зверху ўніз і, наадварот, знізу ўверх, а таксама гарызанталей ва ўсе бакі і канцы, мы "пераплюнем" і еўрапейцаў, і японцаў, і тых самых фордаўцаў, якім быццам бы няма роўных у аўтамабілебудаўніцтве. І запануюць, загуляюць на сусветным рынку нашы беларускія транспартныя сродкі. І пацячэ ў дзяржаўную казну жаданая валюта. І ўвесь свет даведаецца, што Рэспубліка Беларусь дзяржава не толькі бульбы, агуркоў, рэферэндумаў, жабракоў і дынамічнага прэзідэнта. А што ўзровень жыцця яго любімага электарата нязменна паніжаецца — не бяда, не тое цярпелі. І сапраўды, рэйтынгавыя даследаванні сведчаць: давер да клапатлівага "бацькі" застаецца на вышыні. Так што раўнавага і стабільнасць у грамадстве забяспечаны. А гэта галоўнае.

**Я. ІВАНОВІЧ**

